25 кастрычніка 2019 | № 40 (651)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144







Сцэнары для Каталоніі

стар. 20

**СПЕЦЫЯЛЬНЫ ВЫПУСК: ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА Ў НЯВОЛІ**



# Краіна вымушаных герояў



Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Калі ты жывеш у Беларусі і спрабуеш нешта рабіць на яе карысць, вельмі часта замест падтрымкі рызыкуеш атрымаць кпіны і непрыемныя эпітэты ад тых, хто дакладна ведае, што і як трэба рабіць.**




**Што яшчэ застаецца чалавеку, у якога забіраюць свабоду і якому няма чаго губляць?**

Ёсць такое азначэнне, што крытык — гэта той чалавек, які тлумачыць, як зрабіў бы ён, калі б умеў гэта рабіць.

Але ёсць людзі, якія не надта ведаюць, як трэба, аднак ідуць і робяць, бо адчуваюць, што мусяць. Таму што так ім падказвае сумленне. І, бывае, гэта неверагодным чынам спрацоўвае і дае плён — без усялякіх папярэдніх стратэгій і планаванняў.

Не, я не кажу, што план дзеянняў не патрэбны. Пісьменна распрацаваны план — ужо палова поспеху справы. Але ў жыцці бываюць сітуацыі, калі нешта спланаваць ці прадугледзець проста немагчыма. Ну хіба ж планавалі ўкраінцы, што суседняя дзяржава ўварвецца на іх тэрыторыю і адбярэ кавалак зямлі? У гэтым выпадку на планаванне папросту не было часу, трэба было неадкладна дзейнічаць — уставаць на абарону краіны. І паўстаў такі патрыятычны ўздым, які і да сёння дазваляе ўкраінцам супрацьстаяць нападнікам. Іншая справа, што вельмі хутка ў гэтае супрацьстаянне сталі ўключацца палітыкі і пачалі весці свае, ужо спланаваныя, гульні.

Альбо, вяртаючыся да нас, ці магчыма было прадказаць, што ўласнікі рэстарацыі «Поедем поедим», а разам з імі і ўлады, так радыкальна і так цынічна будуць дзейнічаць на тэрыторыі мемарыялу Курапаты?

Любыя выклікі спараджаюць сваіх герояў. І, напрыклад, для мяне ў сучасных беларускіх рэаліях героі — гэта не тыя прыгожыя і паспяховыя людзі, якія вучаць, як трэба жыць, і чые імёны не сыходзяць са стужак навінаў. Пра сапраўдных герояў сродкі масавай інфармацыі — не заўсёды, але часцяком, — не ўзгадваюць.

Як, напрыклад, пра ўдзельнікаў Курапацкай варты, якія ўжо амаль 1,5 года бесперапынна псуюць жыццё гора-бізнесоўцам, чые імёны вядомыя, але якія якраз і не хочацца лішні раз узгадваць. А вось што да імёнаў актывістаў Варты, якіх не больш за пару дзясяткаў, — ці вы ведаеце іх усе? А між тым менавіта гэтыя людзі ў любое надвор’е выходзяць і супрацьстаяць бруду і грубасці, якія сыплюцца на іх ад наведвальнікаў рэстарацыі (а часам ім даводзіцца «адграбаць» ад сваіх жа «канапных экспертаў»). Хоць, упэўненая, яны маглі б бавіць час больш прыемна і карысна для сябе, як большасць з нас. Скажу шчыра: мне цяжка прыходзіць на Варту, бо робіцца фізічна кепска ад таго, што даводзіцца там бачыць і чуць. А абаронцы Курапатаў трымаюць гэты ўдар увесь час.

Для мяне герой і Дзіма Паліенка, які адкрыта выказаў свой пратэст сістэме і яе несправядлівасці, парэзаўшы сабе руку наўпрост у зале суда. Так, спосаб радыкальны, але што яшчэ застаецца чалавеку, у якога забіраюць свабоду і якому больш няма чаго губляць?

А яго паплечнікі, якія пастаянна вырываюць нас з нашых утульных стужачак у сацсетках, дзе гульня ў выбары змяняе спрэчкі пра перанос костак (бясспрэчна, героя Каліноўскага), ладзячы дзёрзкія акцыі салідарнасці? Толькі ўдумайцеся: гэтыя каля дзясятка чалавек маглі б сабе спакойна займацца сваімі справамі і не лезці на ражон. Але яны не могуць спакойна жыць, ведаючы, што іх сябра прэсуюць у ізалятары. І, насуперак усяму, рэзананс, які яны ствараюць, дзейнічае! У сучаснай Беларусі не каштуе амаль ніякіх высілкаў ізаляваць чалавека ў зняволенне, без шуму і пылу. А тут мала таго, што працэс зрабілі адкрытым, дык яшчэ і знялі тры крымінальныя артыкулы, паводле якіх абвінавачвалі Змітра. Хаця яшчэ невядома, чым яно абернецца…

Узгадаем яшчэ аднаго героя — палітвязня Міхаіла Жамчужнага, які адбывае пакаранне ў Горацкай калоніі. Колькі штрафных санкцый ён атрымаў за час зняволення, колькі правакацый перажыў — ужо і не злічыць. Але мала таго, што ён не зламаўся, дык ён умудраецца яшчэ рабіць навуковыя распрацоўкі!

Але так сталася, што героямі гэтыя людзі становяцца вымушана. І, насамрэч, іх, канешне, значна больш. Героі — настаўнікі, якія не фальсіфікуюць вынікі галасаванняў і якія не напіхваюць дзяцей штучнай ідэалогіяй, а вучаць думаць. Героі — тыя, хто змагаецца за чысціню наваколля ў сваім горадзе і краіне. Героі — тыя, хто выхоўвае сваіх дзяцей у любові і павазе да сваёй культуры і мовы. Тыя, хто адкрыта выступае супраць здачы незалежнасці. Тыя, хто не трывае хлусні і несправядлівасці.

Жыццё герояў несалодкае. «Доля героя — быць на крыжы», як спявае Лявон Вольскі. І ў час небяспекі гэтая доля можа напаткаць любога. Паглядзіце ў люстэрка: можа быць, адтуль на вас таксама глядзіць герой?

# Мінкульт не плануе ствараць музей у Курапатах

НЧ

**Грамадскі актывіст Анатоль Наўмовіч атрымаў адказ на свой электронны зварот у Мінкульт.**

Анатоля Наўмовіча цікавіла, на якой падставе былі знесеныя крыжы ва ўрочышчы, ці плануецца стварэнне музея ў мемарыяле і ці можна выкупіць дзеля гэтай мэты збудаванні рэстарацыі «Поедем поедим».

У адказе Міністэрства культуры чарговы раз звяртае ўвагу, што ўласнікам гісторыка-культурнай каштоўнасці першай катэгорыі «Месца згубы ахвяр палітычных рэпрэсій (1930 — 1940-я гады) ва ўрочышчы Курапаты» з'яўляецца Бараўлянскі спецлягсас. Дэмантаж крыжоў, які ўчыніла гэтая арганізацыя сёлета ў красавіку, праводзіўся ў межах работ па добраўпарадкаванні тэрыторыі. Узгадненне з Мінкультам на правядзенне такіх работ не патрэбнае.

Абаронцы Курапатаў неаднаразова звярталі ўвагу, што сапраўднымі з'яўляюцца зоны аховы мемарыялу, зацверджаныя пастановай Міністэрства культуры 2004 годзе, у той час як у 2014-м яны былі незаконна зменшаныя. У адказе ж, які атрымаў Анатоль Наўмовіч, сказана, што зоны аховы, зацверджаныя ў 2004 годзе, былі ўведзеныя часова, да распрацоўкі «Дэталёвага плану», які з'явіўся ў 2013-м. «Падставай для ўстанаўлення межаў зон аховы названай гісторыка-культурнай каштоўнасці сталі вынікі новых археалагічных, архіўных і бібліяграфічных даследаванняў, праведзеных у 2013 годзе ДНУ «Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі»», — гаворыцца ў адказе Мінкульта.

Што да прапановы ствараць у Курапатах музей рэпрэсій, ведамства адказала так: «Улічваючы, што абавязковымі ўмовамі пры стварэнні музея з'яўляюцца наяўнасць культурных каштоўнасцей, магчымасць заснавальніка забяспечыць музей будынкам (памяшканнем), які адпавядае профілю музея і патрабаванням па захаванні музейных прадметаў і музейных калекцый, а таксама фінансавымі сродкамі для арганізацыі і ажыццяўлення музейнай дзейнасці, стварэнне асобнага дзяржаўнага музея сістэмы Міністэрства культуры, прысвечанага вышэйзгаданай тэме, не плануецца».

Не прадугледжана і правядзенне грамадскага абмеркавання па гэтым пытанні.

Што да магчымага выкупу збудаванняў рэстараннага комплексу «Поедем поедим», ведамства адказала, што гэта не яго кампетэнцыя.

# «Дарога ў пекла даўжынёй 800 дзён»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Часам нават у самых змрочных сітуацыях побач з трагедыяй знаходзіцца месца для высакароднасці. Як, напрыклад, у гісторыі Мінскага гета.**

Дзякуючы расійскай пісьменніцы Людміле Уліцкай мы ведаем дзіўную гісторыю Освальда Руфайзена, каталіцкага манаха яўрэйскага паходжання, які выратаваў ад 200 да 300 яўрэяў з гета ў Міры. І гэта толькі адзін з неверагодных і гераічных сюжэтаў выратаванняў. Яшчэ адзін стаў вядомы дзякуючы ўспамінам беларускай татаркі Айшы (Ганны) Сулейманаўны Канапацкай, якая разам з маці Фацімай Мустафаўнай выратавала ад знішчэння ў Мінскім гета яўрэйскую сям'ю Давідсонаў.

Бацькі Фацімы Мустафаўны валодалі гарбарнай фабрыкай, якую здавалі ў арэнду яўрэям. Жылі яны ва ўласным двухпавярховым доме па Вялікай Татарскай вуліцы (цяпер Дзімітрава), насупраць мячэці. За домам быў вялікі флігель, які, як і фабрыка, здаваўся ў арэнду яўрэям. Людзі ў той час жылі грунтоўна, гадамі і дзесяцігоддзямі на адным месцы, размаўлялі адзін з адным, нягледзячы на класавыя і рэлігійныя адрозненні. Паміж уладальнікамі і арандатарамі таксама складваліся трывалыя адносіны, іх дзеці сябравалі паміж сабой.

У часы акупацыі Фаціма ўсяляк дапамагала яўрэям, перапраўляла ў Мінскае гета прадукты, якія выменьвала ў заходніх абласцях БССР. Тады да яе і звярнулася яе даўняя знаёмая Фрума Давідсон з просьбай схаваць яе мужа. Яны і раней хаваліся ў Канапацкіх на час пагромаў па некалькі дзён усёй сям'ёй з пяці чалавек.

22 чэрвеня 1942 года муж Фрумы Ісраэль Давідсон пасяліўся ў Канапацкіх надоўга. У хляве ён выкапаў яму-нару, замаскіраваў яе дрывотняй і пражыў там цэлы год.

Немцы лютавалі бязмерна, праводзілі аблаву за аблавай. У адну з такіх аблаў трапіла і Вялікая Татарская вуліца. У хату Канапацкіх прыйшлі з аўчаркай, усё перакапалі, нічога не знайшлі і сышлі. Дровы папросту не сталі чапаць. Толькі Аіша з Фацімай уздыхнулі з палёгкай, як наляцелі іншыя, ужо эсэсаўцы. Салдаты пачалі правяраць хлеў, а афіцэр зайшоў у дом, дзе яго ўвагу прыцягнуў комін. Стаўшы на зэдлік, ён палез рукой у адтуліну коміна. Гэты не вельмі чысты занятак ён рабіў з відавочным незадавальненнем, успамінае Аіша. На шчасце, яна здагадалася сказаць яму па-нямецку, што ў доме ўжо была адна праверка. Ён узрадаваўся, тут жа выйшаў, паклікаў сваіх салдат (а тыя ўжо ўзяліся за дрывотню) і вывеў іх. Не трэба мець вялікую фантазію, каб уявіць, што чакала б сям'ю Канапацкіх, дый усю вуліцу, калі б яны знайшлі Давідсона. Роўна год прасядзеў Ісраэль у сваёй нары, выходзячы толькі ноччу падыхаць, ды яшчэ ўзімку глыбокай ноччу яго бралі на некалькі гадзін у дом пагрэцца.

Бацька Фрумы — Мэір — у пачатку вайны купіў пашпарт памерлага татарына Палтаржыцкага. Мэір быў бландынам, непадобным на яўрэя, і таму мог на сваім кані беспрашкодна пераязджаць з аднаго месца на іншае. Жыў ён у Заходняй Беларусі і прывозіў адтуль прадукты сваім сваякам у Мінск. Але суседка Гэлька, у якой не было дзяцей, пачала ўсім скардзіцца, што «Фата жыдоў хавае, з-за яе ўвесь завулак выб'юць». Баючыся, што гэта можа дайсці да немцаў, Канапацкія забаранілі Мэіру прыязджаць да іх. Пасля вайны ён сватаўся да Фацімы, муж якой памёр. Дарэчы, татарка Фаціма нядрэнна гаварыла на ідыш.

Дзеці Давідсонаў — Рахіль, Міра, Вова — часта ўцякалі з гета і прыходзілі да сваіх ратавальнікаў, а ў чэрвені 1943 года Давідсоны ўсёй сям'ёй сышлі ў партызаны. Усе засталіся жывыя, і пасля вызвалення Мінска вярнуліся ў горад, жылі на Канатным завулку. «Ратуючы іх, мы не думалі пра небяспеку для сябе, проста не дапамагчы ім мы не маглі», — успамінала Аіша.

Пасля вайны Канапацкія і Давідсоны яшчэ доўгі час падтрымлівалі стасункі, хоць лёс развёў іх па розных кантынентах. Аднак пасля араба-ізраільскай вайны ў чэрвені 1967 года перапіска перапынілася, і пра далейшы лёс сям'і Давідсонаў Канапацкія нічога не ведаюць.

3 снежня 2003 года «Яд ваШэм» удастоіў Фаціму Канапацкую і яе дачку Ганну (Аішу) Канапацкую-Трафімаву ганаровым званнем «Праведнік народаў свету». Усяго ж медалямі Праведнікаў свету ўзнагароджаны 711 беларусаў — і гэта восьмае месца ў свеце.

Сябры, як і ворагі, спазнаюцца ў бядзе. Нельга абвінавачваць у маладушнасці тых, хто падчас катастрофы дбае найперш пра сябе. Але немагчыма не захапляцца тымі, хто сярод нечалавечых пакутаў і зла знаходзіць у сабе сілы дарыць святло любові іншым, часам нават ахвяруючы сабой. І гэтая дробка любові здольная змяніць свет.

Дзякуючы такім людзям, як сям'я Канапацкіх, з Мінскага гета змаглі ўцячы ад 3 да 8 тысяч яўрэяў, многія з іх далучыліся да партызанаў, што дзейнічалі ў лясах непадалёк. Праўда, нярэдка шлях у «звычайныя» атрады быў закрыты — яўрэяў, як і ўсіх прыходзіўшых, забівалі як шпіёнаў. Таму ствараліся так званыя сямейныя партызанскія атрады. Найбольш вядомы — атрад Шалома Зорына ў Налібоцкай пушчы, які ўзнік у красавіку 1943 года.

Усяго з вязняў Мінскага гета былі створаны, па розных звестках, ад 7 да 10 партызанскіх атрадаў: 5-ы атрад імя Кутузава, атрады імя Лазо, Будзёнага, Фрунзэ, Пархоменкі, Шчорса, 25-годдзя БССР, атрад 406 і атрад 106, і 1-шы батальён 208-га асобнага партызанскага палка.

На жаль, трагедыя Халакосту знаходзіцца ў цені традыцыйных савецкіх міфаў пра Другую сусветную вайну, і ўсё яшчэ існуе перадузятае меркаванне пра пасіўнасць яўрэйскага насельніцтва ў гады вайны. На помніках знішчаным яўрэям іх сціпла называлі «мірнымі савецкімі грамадзянамі», а імёны стараліся не афішаваць.

«Дарога ў пекла даўжынёй 800 дзён» — роўна столькі праіснавала Мінскае гета. Яно было створана 19 ліпеня 1941 года, і лічыцца адным з найбуйнейшых у Еўропе і другім па велічыні ў былым СССР пасля Львоўскага. Крыху больш чым за два гады ў ім пабывалі больш за сто тысяч яўрэяў не толькі з Беларусі, але і з еўрапейскіх краін.

Гета праіснавала да 21 кастрычніка 1943 года.

# «Як вораг народа ты павінна аднаўляць Мінск!»

Зінаіда ЦІМОШАК

**Дачка рэпрэсаванага капыляніна ўспамінае пра пражытае жыццё і пра свайго бацьку — ахвяру 1937 года.**

— Столькі гадоў ужо прайшло, але ў сэрцы да гэтага часу боль ад заўчаснай пагібелі бацькі, — жанчына выцірае слёзы. — І да гэтага часу няма адказу на пытанне: «Навошта гэта яны зрабілі?»

Зоя Мацвееўна нарадзілася ў 1925 годзе ў вёсцы Аксаміты Капыльскага раёна. У 1937 годзе дзяўчынка вучылася ў пятым класе і добра памятае, як у ноч з 19 на 20 верасня 1937 года пагрукалі ў вакно дома. Гэта быў Казей, участковы.

У дом зайшлі чацвёра. Загадалі бацьку хуценька збірацца. Пасля бацьку павялі некуды, і, як далей высветлілася, назаўсёды.

— Гэтай ноччу ў Капыльскім раёне забралі многіх людзей, — успамінае Зоя Мацвееўна. — Назаўтра маці з трасучымі рукамі сабрала для бацькі вялікі клунак і паехала ў слуцкую турму. Аднак пабачыцца з ім ёй не дазволілі. З клункам яна прасядзела 2 тыдні каля турмы і вярнулася ўся чорная. А ў сям'і ўжо было трое дзяцей: 12 гадоў, 9 і 4.

Праз месяц жанчына зноў паехала ў Слуцк. Даведалася, што мужа выслалі нібыта ў Сібір на станцыю Тайшэт. Паслала пасылку — яна вярнулася назад. Пасля атрымала паведамленне, што Мацвей памёр 18 красавіка 1938 года ад хваробы ў Алтайскім краі.

— Тата наш быў вельмі добры чалавек, ніколі нікога не пакрыўдзіў — ні сямейнікаў, ні суседзяў. Ён не злаваў, не казаў нікому грубых слоў і быў вельмі адказным чалавекам, — прыгадвае Зоя Мацвееўна. — І яго зрабілі ворагам народа. За што? Людзі шэптам паведамілі, што ён стаў ахвярай сваёй дабрыні. Будучы рахункаводам, выдаваў даведкі. Каб пазбегнуць раскулачвання, у даведках нібыта наўмысна паменшыў колькасць кароў і свінняў, якія належалі «кулакам».

Гэткую інфармацыю дачцэ «ворага народа» пацвердзіў пасля вайны Алесь Рабкевіч, старшыня мясцовага калгаса.

— Алесь Рабкевіч сказаў мне, што бацька быў цудоўным чалавекам, і мне можна не саромецца яго, а ганарыцца ім, — са смуткам гаворыць жанчына.

Аднак гонар гэты нельга было паказваць іншым людзям.

— Прыходзілася замоўчваць інфармацыю пра бацьку, каб мець магчымасць атрымаць адукацыю і прафесію, — успамінае дачка рэпрэсаванага. — Я па сваёй натуры была вельмі кволай. Пасля вызвалення Мінска летам 1944 года ў калгас прыйшла разнарадка на работы па аднаўленні разбуранай сталіцы. З нашай мясцовасці павінна была таксама паехаць моладзь. Але многія хлопцы і дзяўчаты адмовіліся і пазбеглі такой працы.

Старшыня калгаса Харытончык мне тады сказаў: «Дачка ворага народа абавязаная паехаць на аднаўленне Мінска». Ён асабіста прасачыў мой ад'езд у разбураны Мінск. Мяне пасылалі ў дамы на дапаможныя работы — насіць бетонны раствор на вышэйшыя паверхі майстрам-будаўнікам. А мне ўсяго 19 гадоў, я маленькая, нядужая і хілая. Грошай не плацілі, крыху кармілі на фабрыцы-кухні. Наступіў снежань. Абутку і адзення няма, я босая і амаль што голая. Уся скура пакрытая нейкімі болькамі.

Прараб праявіў літасць і адпусціў дамоў на кароткі адпачынак. Маці адмовілася назад пускаць, таму давялося хавацца. Уцекачоў з суседняй вёскі Яўсеевічы злавілі і пакаралі 3-месячным турэмным зняволеннем.

Аднак немагчыма было хавацца ўвесь час. Паколькі ў Зоі быў пропуск на зваротны ўезд, яна прыехала ў Мінск. Але на будаўніцтва не вярнулася. Убачыла абвестку пра набор на курсы банкаўскіх служачых, скончыла гэтыя курсы. Пасля працавала ў Бабруйску. У выніку рэарганізацыі банкаў апынулася ў Капылі. Завочна скончыла фінансавы тэхнікум, працавала крэдытным інспектарам. Але да высокіх пасадаў Зоя Мацвееўна не імкнулася, бо баялася праверкі біяграфічных дадзеных. Лічыць, ёй пашанцавала, што аўтабіяграфію ніхто асабліва не правяраў — здавальняла інфармацыя пра заўчасную смерць бацькі.

На сайце nekropole.info пра бацьку Мацвея Купрыянавіча ёсць некалькі словаў. Гэткія ж кароткія звесткі знаходзяцца і ў спісе ахвяр сталінскіх рэпрэсій Алтайскага краю.

Мацвей Купрыянавіч рэабілітаваны ў 1989 годзе.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# «Значыць, будуць рабаваць»

Сяргей САЛАЎЁЎ

**У мінулым аглядзе сітуацыі ў краіне мы пісалі, што Беларусь — на парозе стагнацыі. Пра гэта сведчаць усе эканамічныя паказчыкі і прагнозы. Але Аляксандр Рыгоравіч сказаў — і «вжух!» — у нас усё добра, і нават яшчэ лепш, чым было!**

Як паведамляе прэс-служба Савета міністраў, урад Беларусі «з улікам даручэнняў Лукашэнкі» абнавіў прагноз па росце ВУП у 2020 годзе з 2,5% да 2,8%. У адпаведнасці з абноўленым праектам прагнозу, рост экспарту тавараў і паслуг у 2020 годзе запланаваны на ўзроўні 3,6%, прафіцыт знешнегандлёвага сальда сфарміруецца на ўзроўні 1% ВУП, дэфіцыт дзяржбюджэту складзе 995,1 мільёна рублёў (менш за 1% ВУП), які будзе прафінансаваны за кошт знешніх дзяржаўных пазыкаў, што прадстаўляюцца на фінансаванне расходаў бюджэту, у суме 869,2 мільёна долараў і рэштках сродкаў дзяржбюджэту на 125,9 мільёна рублёў. Пры гэтым плануецца, што рэальная зарплата ў 2020 годзе вырасце на 2,5%.

Такую рэвалюцыю (нагадаем, Міжнародны валютны фонд прагназуе рост беларускага ВУП у 2020-м толькі на ўзроўні 0,3%) плануецца ажыццявіць за кошт «павышэння эфектыўнасці работы дзяржаўных арганізацый, развіцця малога і сярэдняга бізнесу, стымулявання прытоку інвестыцый, задзейнічання нявыкарыстаных рэзерваў эканамічнага росту… У дапрацаваным прагнозе максімальна ўлічаны ўсе рэсурсы па паскарэнні дынамікі росту сферы паслуг — пашырэнне спажывецкага попыту на фоне росту рэальнай заработнай платы, значны попыт на IT-прадукт беларускай вытворчасці, павелічэнне фінансавання сродкаў на навуку», — сцвярджаецца ў паведамленні Саўміна.

Шчыра скажам: казкі пра «эфектыўнасць работы дзяржарганізацый» і «развіццё малога бізнесу» ўжо набілі аскому. З падобнымі планамі мы сутыкаемся апошнія гадоў дзесяць, і іх прыняцце — фактар, хутчэй, трывожны. Бо пасля кожнага такога плана «эфектыўнасць работы дзяржарганізацый» вылівалася ў новае субсідаванне стратных прадпрыемстваў і хранічна хворай сельскай гаспадаркі, а малы і сярэдні бізнес абкладаўся новымі паборамі і падаткамі.

Адзінае, у чым можна не сумнявацца, — гэта ў росце заробкаў на 2,5%. Наступны год — год прэзідэнцкіх выбараў, а дасягненні ўлады на ўсіх франтах такія, што ім ці не ўпершыню няма чаго прапанаваць насельніцтву. Застаецца толькі «подкуп выбаршчыкаў» абяцанкамі падвышэння заробку. Гэтым разам — на дробязь.

Асабліва цікава, што «дэфіцыт дзяржбюджэту будзе прафінансаваны за кошт знешніх дзяржаўных пазыкаў». Як вядома, Расія дасюль не пагаджаецца выдаць Беларусі крэдыт у 600 мільёнаў долараў, які Беларусь папрасіла яшчэ ў лютым. Прычым, віцэ-прэм'ер і міністр фінансаў Расіі Антон Сілуанаў тыдзень таму адзначыў, што рашэння па гэтым крэдыце, «магчыма, і не будзе», бо яно залежыць ад таго, «як мы будзем рухацца ў трэку інтэграцыйным».

У той жа час у Нацбанку заявілі, што Беларусь не вядзе перамоваў наконт новай праграмы з МВФ. Раней міністр фінансаў Максім Ермаловіч не выключаў абмеркаванне магчымасцяў для пачатку такіх перамоваў, аднак МВФ, як правіла, іх не вядзе, калі ў краіне праходзяць выбарчыя кампаніі. Таму і ад гэтай структуры грошай (прынамсі, хутка) чакаць не выпадае.

«Значыць, будуць рабаваць», — казалі б, паглядзеўшы на гэтую сітуацыю, героі фільма «Вяселле ў Малінаўцы». І адразу ж паступіла паведамленне: транспартнікі прапануюць павялічыць тарыфы на праезд у гарадскім грамадскім транспарце. У некаторых рэгіёнах — адразу на 10 капеек. Канкрэтныя тэрміны павышэння тарыфаў на праезд не агучваюцца — праходзіць абмеркаванне.

**Казкі пра «эфектыўнасць работы дзяржарганізацый» і «развіццё малога бізнесу» ўжо набілі аскому. З падобнымі планамі мы сутыкаемся апошнія гадоў дзесяць. Але ніякага плёну ад гэтых традыцыйных заклінанняў не праглядаецца**

Гомельскія транспартнікі прапануюць падняць кошт праезду на 10 капеек — да 65 капеек за адну паездку. «Для таго, каб не мяняць бюджэтныя датацыі, неабходна на 10 капеек павысіць», — растлумачылі яны. У «Віцебскаблаўтатранс» лічаць, што ў гэтым годзе кошт праезду ў грамадскім транспарце ўзрасце не больш чым на 5 капеек. У «Брэстаблаўтатранс» прапанавалі падняць кошт праезду «менш чым на 10 капеек».

Свае прапановы транспартнікі накіравалі ў Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю ў верасні, і менавіта гэтае ведамства павінна прыняць рашэнне, калі і на колькі падымецца кошт праезду. Але тое, што ён падымецца, — амаль без сумневаў. Урад планаваў давесці да 2020 года ўзровень кампенсацыі насельніцтвам выдаткаў гарадскога аўтамабільнага транспарту да адзнакі не менш за 80%. На пачатак гэтага года, як сцвярджаецца, гэты паказчык склаў 70%.

Але павышэнне кошту праезду негатыўна адаб'ецца на паказчыку інфляцыі ў краіне. Згодна прагнозу, інфляцыя не павінна перавысіць 5%. На верасень паказчык гадавой базавай інфляцыі склаў 4,3% — то-бок «люфт» становіцца ўсё меншы. А калі камусьці падаецца, што 5–10 капеек для агульнага ўзроўню інфляцыі — малая сума, то заўважым, што нават павышэнне «Белнафтахімам» кошту паліва на 1 капейку гэтую інфляцыю «разганяе».

Не дзіўна, што беларусы знаходзяць свае хітрыкі, каб выжыць. Нават такія мастадонты ў эканоміцы, як Леанід Заіка, не бачаць сэнсу ў тым, каб плаціць дзяржаве падаткі — пра гэта ён заявіў у праграме «Прымус». «Дзеля чаго? — задаўся пытаннем эксперт. — Дарогі? Хлопцы, а мы самі іх пабудуем, без вас. Бальніцы? Туды лепш не хадзіць — там злыя дзядзькі і цёткі сядзяць. Сістэма адукацыі? Як казала мне адна знаёмая: ты можаш не з'яўляцца на бацькоўскі сход, проста патэлефануеш і даведаешся, колькі табе трэба грошай аддаць. Армія? Не трэба арміі, мне не патрэбныя гэтыя боты, якія будуць таптаць нашы вуліцы. Навошта яшчэ патрэбныя падаткі?»

Ён прывёў асабісты прыклад: «Мне трэба было памяняць лічыльнікі. Прыходзілі тры групы з «Водаканала» і мясцовага ЖЭСа — і нічога не зрабілі. Цэлы месяц я глядзеў на ўрачыстасць гэтага дзяржаўнага ідыятызму. У выніку паклікаў свайго любімага сантэхніка — і ён за 20 хвілін усё зрабіў. І так ва ўсім. Лягчэй выклікаць вось такога Міхала Пятровіча, які яшчэ і возьме значна танней».

Але ж дзяржаве — і асабліва першай асобе ў гэтай дзяржаве, — трэба ўтрымліваць армію ідэолагаў і прапагандыстаў, якія напярэдадні выбараў будуць пераконваць нас у тым, як нам добра жывецца. Вось толькі цікава, ці пераможа гэтым разам пустая лядоўня тэлевізар?

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### Павел Севярынец

**Палітык і літаратар звярнуўся з адкрытым лістом да чальцоў Беларускага ПЭН-цэнтра напярэдадні з'езду арганізацыі. Ён заклікае прыбраць з ПЭНу «марксісцкіх камісараў».**

Гэтай вясной Севярынца выключылі са складу ПЭН-цэнтра за няплату ўнёскаў. Сам Севярынец тлумачыў, што перастаў плаціць унёскі, бо ў ПЭНе праводзяцца «мерапрыемствы, звязаныя з прапагандай гомасексуальнага ладу жыцця».

У лісце Севярынец кажа, што ў кіраўніцтве ПЭН-цэнтра сабралася «лявацкая група», якая пераследуе хрысціян. «Іх ідэалогія — культурны марксізм і прапаганда ЛГБТ. Бога няма. Усё дазволена. Быццё вызначае свядомасць. Ва ўсім вінаватая "среда", поўная рэлігійных і нацыянальных забабонаў. Даеш роўнасць — найперш роўнасць вычварэнняў з нормай. Раней ворагамі абвяшчаліся "буржуі", цяпер — хрысціяне». Палітык адзначае, што восем з дзевяці хрысціянскіх пісьменнікаў, што падавалі заявы на ўступленне ў арганізацыю, не былі ў яе прынятыя.

Ён заклікае «прыстойных беларускіх паэтаў, пісьменнікаў і публіцыстаў, якія ў ПЭНе большасць», выдаліць з Рады «групоўку марксісцкіх "камісараў"». Паэтка Таццяна Нядбай, кіраўніца ПЭНу, па яго словах, «мусіць падпарадкоўвацца ў Радзе большасці».

### Юрый Губарэвіч



**Кіраўнік руху «За Свабоду» не змог атрымаць копіі падпісных лістоў з заўвагамі выбарчай камісіі. Нягледзячы на тое, што сам жа гэтыя подпісы і збіраў!**

Нагадаем, Губарэвіч не зарэгістраваны кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Ён здаў у камісію 1123 подпісы за сваё вылучэнне, але яму адмовілі на падставе недахопаў у падпісных лістах. «Я прасіў даць мне магчымасць зрабіць копіі падпісных лістоў з заўвагамі, каб ведаць, якія прэтэнзіі выстаўлены. Я мог бы паўторна схадзіць да людзей, сфатаграфаваць пашпартныя дадзеныя. Узяць пацвярджэнне, што яны сапраўды паставілі за мяне свой подпіс — гэта значыць сабраць нармальную доказную базу. Але я не магу гэтага зрабіць, мяне пазбаўляе на гэта права ўчастковая камісія», — сказаў Губарэвіч.

Ён настойваў на сваім праве зрабіць копіі, каб ведаць, дзе якая канкрэтная памылка. «Але атрымаў адмову, матываваную тым, што там указаны пашпартныя дадзеныя людзей. Парадокс у тым, што я прынёс гэтыя пашпартныя дадзеныя ў камісію, гэта людзі за мяне паставілі подпіс», — распавёў Губарэвіч.

Палітык спадзяецца, што зможа атрымаць копіі, калі яго скарга будзе разбірацца на пасяджэнні Мінскай гарадской выбарчай камісіі, і мае намер з нагоды сваёй нерэгістрацыі звярнуцца ў суд.

### Аляксандр Кулінковіч



**Музыка, які сышоў у лепшы свет у 2018-м, працягвае натхняць на творчасць іншых. У кінатэатрах 21 лістапада пачнецца пракат дзвюхгадзіннага фільму пра лідара «Нейра Дзюбеля».**

У аснове стужкі — леташні канцэрт памяці Кулінковіча «Я прынёс табе УРА!» (гэтак жа называецца і фільм), а таксама закуліссе падзеі. Каманда тэлепраекта «Кватэрнік у Маргуліса» на дзясятак камер фіксавала ўсё, што адбывалася на сцэне і ў залі. На тым канцэрце, дарэчы, упершыню ў гісторыі Prime Hall гледачы праламалі падлогу.

На сцэне былі ўсе монстры року і ў цэлым альтэрнатыўнай сцэны — ад Лявона Вольскага, Уладзіміра Пугача, Зміцера Вайцюшкевіча і Аляксандра Памідорава да Леслі Найфа, Ангуса, Ігара Варашкевіча і Алеся Лютыча.

Рэжысёр фільма Кірыл Папакуль — адзін з самых яркіх удзельнікаў чэмпіёнскай каманды КВЗ БДУ. Пасля сыходу з КВЗ ён атрымаў рэжысёрскую адукацыю і стаў запатрабаваным у Расіі профі — зняў кінакамедыі «Вельмі рускі дэтэктыў» і «Навагодні пярэпалах», эпізоды серыялаў «Татавы дочкі. Супернявесты» і іншых.

а | Азбука паліталогіі

# Дэмакратыя з прыметнікамі



Сяргей НІКАЛЮК

**Кожны савецкі школьнік ведаў, што слова «дэмакратыя» сканструяванае з двух грэчаскіх словаў (δῆμος — «народ» і κράτος — «улада») і азначае «народаўладдзе». У стагоддзе інтэрнэту Вікіпедыя вызначае дэмакратыю як палітычную сістэму, «у аснове якой ляжыць метад калектыўнага прыняцця рашэнняў з роўным уздзеяннем удзельнікаў на вынік працэсу або на яго істотныя стадыі».**





Зразумела, Вікіпедыю не варта разглядаць у якасці ісціны ў апошняй інстанцыі. Дэмакратыя на тое і дэмакратыя, што кожны надзелены правам даваць сваё вызначэнне гэтаму сацыяльнаму феномену. Ёсць такое права і ў старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай. У інтэрв'ю soyuz.by яна ім і скарысталася: «Я магу сказаць, што колькасць прэтэндэнтаў яшчэ да рэгістрацыі большая, чым тры гады таму, і значна большая, чым падчас парламенцкіх выбараў 2008 і 2004 гадоў. Па сутнасці, мы вярнуліся да лічбаў 2000 года, калі былі вельмі яркія і вельмі альтэрнатыўныя парламенцкія выбары. Таму казаць пра тое, як у нас вельмі любяць гаварыць апазіцыя, нібыта ў нас няма дэмакратыі... Пры такой колькасці прэтэндэнтаў, людзей, якія рэальна ідуць у палітыку і хочуць быць палітыкамі, — ну гэта папросту недарэчна».

### Усё ў руках ЦВК

Жыццё не стаіць на месцы. Яно бесперапынна развіваецца — рухаецца ад простага да складанага. У пачатку XIX стагоддзя былі лекары. Яны і кроў пускалі, і зубы вырывалі. Спецыялістаў такога шырокага профілю сёння днём з агнём не знайсці, затое ў звычайнай гарадской паліклініцы можна запісацца на прыём да дзясяткаў спецыялістаў. З дэмакратыяй з часоў Арыстоцеля і Платона здарылася аналагічная гісторыя. Адзінага ўяўлення пра народаўладдзе няма. Разнастайнасць дасягаецца шляхам далучэння да назоўніку «дэмакратыя» розных прыметнікаў.

Як тут ні прыгадаць расійскага дзяржаўнага дзеяча, аўтара канцэпцыі «суверэннай дэмакратыі» Уладзіслава Суркова. Але акрамя «суверэннай дэмакратыі» маюцца прыклады дэмакратыі кіраванай, неліберальнай, закрытай, плебісцытнай ды іншых.

Да якой з пералічаных варта аднесці дэмакратыю, першаадкрывальнікам якой з'яўляецца Лідзія Ярмошына? Адназначнага адказу на гэтае пытанне ў мяне няма. Не выключана, што мы маем справу з новай яе разнавіднасцю, яшчэ не апісанай навукай. Аднак веданне стандартнага курса марксісцка-ленінскай філасофіі падказвае мне, што без закона «пераходу колькасці ў якасць» тут не абышлося.

Прапаную зноў перачытаць цытату старшыні ЦВК. Наяўнасць/адсутнасць дэмакратыі ў Беларусі яна ставіць у прамую залежнасць ад колькасці прэтэндэнтаў на дэпутацкія мандаты. Відавочна, маецца нейкае крытычнае значэнне колькасці прэтэндэнтаў, ніжэй за якую казаць пра дэмакратыю не даводзіцца, а вышэй — яна (дэмакратыя) квітнее, нібы цюльпаны на дзялянках батанічнага саду вясной.

Вызначыць запаветную колькасць можна вопытным шляхам. Тут усё ў руках ЦВК. Дазуючы колькасць прэтэндэнтаў на розных выбарчых акругах і адсочваючы затым у парламенце актыўнасць абраных дэпутатаў, можна без цяжкасці вылічыць патрэбны для дэмакратыі мінімум.

Навука пачынаецца там і тады, дзе і калі пачынаюцца вымярэнні. Галілею пры вывучэнні законаў руху ківача пульс замяняў хранометр з секунднай стрэлкай. Спадзяюся, Лідзіі Ярмошынай да такой архаікі апускацца не давядзецца, і родная «дзяржава для народа» забяспечыць яе сучасным калькулятарам.

Які ж прыметнік знайсці для дэмакратыі, сфарміраванай у Беларусі за апошнюю чвэрць стагоддзя? Два з магчымых варыянтаў — «навуковая» або «матэматычная» дэмакратыя. Зрэшты, я забягаю наперад. Ёсць першаадкрывальнік новага віду дэмакратыі. Яму і сцяг у рукі.

### «Фасадная» дэмакратыя

Але, па шчырасці, якая розніца, колькі чалавек прэтэндуе на адзін дэпутацкі мандат? Якім чынам гэта адбіваецца — і ці адбіваецца наогул — на ўзроўні дабрабыту простых людзей?

Вернемся да пачатку артыкула. Дэмакратыя, згодна з Вікіпедыяй, — гэта метад калектыўнага прыняцця рашэнняў з роўнымі правамі для ўсіх грамадзян. Гэта вызначэнне дэмакратыі не супярэчыць і артыкулу 3 Асноўнага закона РБ: «Народ ажыццяўляе сваю ўладу непасрэдна, праз прадстаўнічыя і іншыя органы ў формах і межах, вызначаных Канстытуцыяй».

Палата **прадстаўнікоў** і з'яўляецца ў Беларусі найважнейшым **прадстаўнічым** органам, праз які народ можа ажыццяўляць сваю ўладу. Чым менш бюракратычных рагатак на шляху рэгістрацыі ўсіх жадаючых пазмагацца за дэпутацкі мандат, тым больш шанцаў, што сярод пераможцаў апынуцца самыя вартыя. Аднак, з пункту гледжання ацэнкі ўзроўню дэмакратыі, умова гэта з'яўляецца абавязковай, але недастатковай.

У недзяржаўнай прэсе публіцысты часам адносяць беларускі рэжым да электаральнага аўтарытарызму (беларускі аўтарытарызм, як і беларуская дэмакратыя, не можа абысціся без прыметніка). Але тут ёсць пра што паспрачацца. Справа ў тым, што аўтары тэрміну «электаральны аўтарытарызм», амерыканскія палітолагі Стывен Лявіцкі і Лукан Вэй, выразна аддзяляюць электаральны аўтарытарызм ад рэжымаў «фасаднай» дэмакратыі. Ва ўмовах электаральнага аўтарытарызму захоўваюцца палітычныя інстытуты (выбары, прадстаўнічыя органы, незалежны суд), якія могуць быць эфектыўна выкарыстаныя апазіцыяй для таго, каб адхіліць ад улады аўтарытарны рэжым.

Але ў Беларусі ад большасці інстытутаў, як ад сумна вядомага козліка з дзіцячай песенькі, засталіся толькі «рожкі ды ножкі». У гэтым і палягае адно з галоўных дасягненняў «дзяржавы для народа» і яе архітэктараў. Адмова зарэгістраваць кандыдатамі ў дэпутаты Алену Анісім і Ганну Канапацкую — таму відавочнае пацверджанне.

Такім чынам, мы яшчэ раз пераконваемся ў тым, што Беларусь — класічны прыклад дэмакратыі з прыметнікам. Варыянт Лявіцкага і Вэя — «фасадная» дэмакратыя — мне здаецца бліжэйшым да ісціны, дый практыкай ён пацвярджаецца. Вылучацца і галасаваць за сваіх у беларусаў магчымасць часам маецца — не без гэтага. Аднак да кантролю працэсу выбараў на ўсіх яго этапах яны яшчэ не дараслі.

**«Я не ведаю ніводнага прыкладу таго, каб аўтарытарны рэжым, тым больш загніваючы аўтарытарны рэжым, трансфармаваўся сам па сабе, выходзячы з уласных добрых намераў. Так не бывае»**

### Стаць другім Катарам Беларусі не пагражае

Ці існуе верагоднасць трансфармацыі беларускага варыянту дэмакратыі з прыметнікамі ў дэмакратыю без прыметнікаў? Здавалася б, гісторыя дае нам шанец, бо прыкладаў падобных трансфармацый зверху дастаткова: пакт Манклоа ў Іспаніі ў 1977 годзе, Бразілія ў 1983–1985 гадах, Польшча ў 1980-х. Аднак ёсць адно «але», на якое ўказвае расійскі сацыёлаг Таццяна Варажэйкіна: «Я не ведаю ніводнага прыкладу таго, каб аўтарытарны рэжым, тым больш загніваючы аўтарытарны рэжым, трансфармаваўся сам па сабе, выходзячы з уласных добрых намераў. Так не бывае».

Ва ўсіх пералічаных прыкладах трансфармацыі зверху сталі вынікам магутнага ціску знізу. Без грамадства (народа) змяніць статус-кво, што склаўся, ніхто самастойна наверсе не збярэцца. Тут варта зноў нагадаць, што дэмакратыя — гэта народаўладдзе. Самы актыўны ўдзел народа патрэбны як для будаўніцтва, так і для разбурэння дэмакратыі. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што гісторыя двух брацкіх народаў на постсавецкай прасторы развіваецца паралельна, нягледзячы на шматлікія адрозненні ў дэталях.

Вось як няўдачу дэмакратычнай трансфармацыі ў Расіі апісвае журналіст Аляксандр Рыклін: «Пуцін, калі прыйшоў да ўлады, займеў пластылінавае грамадства, у якім дэмакратычныя прынцыпы, у сілу гістарычных прычынаў, не былі замацаваныя ні ў якой меры. Таму іх татальнае ігнараванне новым рэжымам не сутыкнулася з хоць нейкім сур'ёзным процідзеяннем. Добразычлівае прыняцце тэзісу пра тое, што моцная рука лепшая за свабоду, не проста забяспечыла расійскаму прэзідэнту папулярнасць на доўгія гады, але і стала ключавым цэментуючым рэжым фактарам, асноватворным базісам для славутай "стабільнасці" Пуціна».

У Беларусі не Пуцінская стабільнасць, але ці штосьці гэта прынцыпова мяняе? Справа не ў імёнах палітыкаў і не ў маштабе іх асобаў. Музыку, паводле справядлівай заўвагі Міхаіла Глінкі, піша народ, а кампазітары яе толькі аранжыруюць. У палітыцы гэта справядліва яшчэ ў большай ступені.

Звернемся да спісу, што ранжыруе краіны па ВУП на душу насельніцтва за 2018 год (паводле парытэту пакупніцкай здольнасці). У першай дваццатцы размясціліся 13 дэмакратычных краінаў, 6 нафтаздабываючых краінаў і адно выключэнне, якое пацвярджае агульнае правіла, — Сінгапур.

Стаць другім Катарам або Брунеем, па зразумелых прычынах, Беларусі не пагражае. Няма шанцаў і на паўтарэнне лёсу Сінгапура — краіны аўтарытарнай, але з судовай сістэмай, пабудаванай па ўзор Англіі. Застаецца агульнаеўрапейскі шлях. Выбар невялікі. Зразумела, можна працягваць ісці сваім шляхам, вынік якога ў кароткатэрміновай перспектыве будзе залежаць ад узроўню расійскіх падачак.

# Ці ёсць у турме правы чалавека?

Павел САПЕЛКА

**Праваабаронцы часта звяртаюцца да тэмы правоў зняволеных: нам хочацца, каб людзі ў няволі, незалежна ад прычын, па якіх яны апынуліся за кратамі, утрымліваліся ва ўмовах, што не супярэчылі б чалавечай годнасці.**



Фота www.svaboda.org

Хацелася б, каб з нашымі вязнямі працавалі на ставральны вынік, не ператвараючы зняволенне ў помсту за зробленае, — гэта нічым не лепш за сярэднявечныя катаргі і цялесныя пакаранні. У нас, праваабаронцаў, заўсёды ёсць актуальныя прэтэнзіі да сітуацыі, мы іх не прыдумляем: яны заснаваныя на міжнародных абавязацельствах Беларусі і правілах, якія краіны-чальцы ААН распрацавалі, прынялі і абавязаліся выконваць.

Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах, прыняты ААН і абавязковы для Беларусі, ратыфікаваны яшчэ ў 1973 годзе.

### Артыкул 6. Права на жыццё

Сітуацыя, калі зняволеныя не атрымліваюць дастатковай медыцынскай і псіхалагічнай дапамогі, з прычыны чаго гінуць або здзяйсняюць суіцыд, несумяшчальная з абавязацельствамі дзяржавы па артыкуле 6 Пакта. Пра парушэнне правоў чалавека сведчыць і адсутнасць усебаковага і аб'ектыўнага расследавання кожнага выпадку гібелі зняволеных.

Як правіла, Следчы камітэт па сваёй ініцыятыве не прыступае да расследавання выпадкаў смерці зняволенага: замест расследавання праводзіцца так званая «праверка». Расследаванне — гэта азначае ўзбуджэння крымінальнай справы — даводзіцца дамагацца праз скаргі. Правядзенне праверкі — гэта не паўнавартаснае расследаванне.

У гэтых этапаў крымінальнага працэсу розныя мэты. Падчас праверкі вызначаюцца падставы да ўзбуджэння крымінальнай справы: наяўнасць дастатковых дадзеных, якія паказваюць на прыкметы злачынства пры адсутнасці абставін, якія выключаюць вытворчасць па крымінальнай справе. Папярэдняе расследаванне — гэта дзейнасць па зборы і ацэнцы доказаў, вызначэнне абставінаў злачынства, выкрыццё асобаў, што яго ўчынілі, забеспячэнне абгрунтаванага прыцягнення іх у якасці абвінавачаных.

Калі гаворка ідзе пра прыкметы здзяйснення злачынства супрацоўнікамі органаў унутраных спраў, у тым ліку — супрацоўнікамі папраўчых устаноў, то ў праверку следчыя спрабуюць уцісну ць і працэс даказвання віны ці яе адсутнасці ў гэтых супрацоўнікаў. На практыцы гэта выліваецца ў тое, што расследаванне праводзіцца з выкарыстаннем вельмі абмежаваных сродкаў праверкі: следчы не папярэджвае сведкаў пра адказнасць за дачу заведама ілжывых паказанняў, не праводзіць вочных ставак і следчых эксперыментаў, апазнанне і праверкі паказанняў на месцы. У выніку следчыя прыходзяць да высновы аб адсутнасці ў дзеяннях супрацоўнікаў складу злачынства, хаця для распачынання крымінальнай справы даказваць віну пэўнага чалавека і не трэба. Але такая практыка эфектыўная для ўтойвання рэальных прычын смерцяў у месцах несвабоды.

*Расследаванне гібелі ў Жодзінскай турме абвінавачанага Алега Багданава зайшло ў тупік, бо следчы сваімі, як мінімум, непрафесійнымі дзеяннямі знішчылі доказы магчымага злачынства.*

*Нягледзячы на відавочнасць гэтага факту, яго калегі прадказальна адмаўляюцца бачыць у гэтым працэпраўнасць. А высокапастаўлены супрацоўнік Генеральнай пракуратуры, да якога маці загінулага зняволенага звярнулася ў пошуках праўды, нават не ведае, што права ўзбуджаць крымінальныя справы ў дачыненні да супрацоўнікаў МУС і Следчага камітэта ўжо даўно прадастаўленае і пракурорам.*

### Артыкул 7. Свабода ад катаванняў або жорсткага, бесчалавечнага ці зневажаючага годнасць абыходжання або пакарання

Праваабаронцы рэгулярна атрымліваюць паведамленні пра жорсткае, нялюдскае, прыніжаючае годнасць абыходжанне, а часам — і пра катаванні. Зусім не важна, чаго спрабуюць дамагчыся гэтым ад зняволенага — добрых паводзінаў, выканання работы або адмовы ад перакананняў. Свабода ад катаванняў і забароненых відаў абыходжання — абсалютная. Найважнейшая гарантыя свабоды ад катаванняў — аб'ектыўнае і бесстаронняе расследаванне кожнага выпадку катаванняў або забароненага абыходжання.

*Пётр Кучура ў красавіку гэтага года звярнуўся ў Следчы камітэт з заявай аб ужыванні жорсткага абыходжання непасрэдна начальнікам папраўчай установы; медыцынскі агляд экспертам, як сцвярджае асуджаны, быў праведзены толькі праз 75 дзён пасля нанясення ўдараў. Ніхто з беларускіх афіцыйных асобаў на перыяд праверкі ад выканання абавязкаў не адхіляўся. Усе акалічнасці ў сукупнасці зрабілі расследаванне забароненага абыходжання бескарысным.*

**Магчымасці для рэалізацыі правоў зняволеных цалкам сканцэнтраваныя ў адміністрацыі, пад яе кантролем. Гэта дазваляе беспакарана маніпуляваць сітуацыяй, ствараючы вакол свавольнага зняволенага вакуум і пазбаўляючы яго любой магчымасці адстойваць свае правы**

### Артыкул 8. Забарона прымусовай або абавязковай працы; у ім жа ўтрымліваецца агаворка, што гэтая забарона не распаўсюджваецца на працу, якую звычайна павінны выконваць асуджаныя па выраку суда

Праца, якая ставіцца ў абавязак зняволеным, згодна з нашым беларускім законам, не можа быць практычна не аплачваемай, празмерна цяжкай, прыніжаючай або небяспечнай. Але прымус да працы зняволеных ЛПП ніяк не апраўдаць нават гэтымі агаворкамі: у ЛПП людзі змяшчаюцца не па выраку суда і не за здзяйсненне злачынстваў — яны там утрымліваюцца для «медыка-сацыяльнай рэадаптацыі».

### Артыкул 9. Чалавек мае права на свабоду і асабістую недатыкальнасць. Ніхто не можа быць падвергнуты адвольнаму арышту або змяшчэнню пад варту

Мы расцэньваем як парушэнне гэтага прынцыпу зняволенне ў ЛПП людзей, хворых алкагольнай або наркатычнай залежнасцю, а таксама «абавязаных асобаў» — людзей, пазбаўленых бацькоўскіх правоў, чые дзеці перайшлі пад апеку дзяржавы.

Так званая *«ізаляцыя для медыка-сацыяльнай рэадаптацыі» — гэта фактычна пазбаўленне волі за асацыяльны лад жыцця, прычым ні медыцынскай, ні сацыяльнай дапамогі зняволеныя не атрымліваюць. Ніхто з адміністрацыі ЛПП не хавае, што асноўным рэабілітуючым сродкам становіцца праца, а лячэнне абмяжоўваецца, як правіла, прыёмам настою рамонку. Вось сведчанні пра гэту «рэадаптацыю»:*

*«Замест так званай медыка-сацыяльнай рэабілітацыі мы маем грубае прыніжэнне чалавечай годнасці (пагрозы сексуальнага гвалту, пагроза смерці). На гэтым фоне сон 2–3 гадзіны, адсутнасць асабістага часу і адсутнасць магчымасці памыць рэчы — гэта дробязі. Магчымасць тэлефанаваць дадому, асабістая гігіена — праблемныя. Пакаранні — як здзекі: не так паглядзеў — з-за цябе ўвесь атрад пакутуе... Я ўжо маўчу пра абвастрэнне гастрыту і патрэбу прымаць лекі — іх няма».*

Адміністрацыйны арышт па пастанове кіраўніка органа ўнутраных спраў «абавязаных асобаў» за парушэнне працоўнай дысцыпліны таксама супярэчыць праву на свабоду і асабістую недатыкальнасць, якая можа абмяжоўвацца толькі судом.

Артыкулы 411 і 415 Крымінальнага кодэкса, якія прадугледжваюць пакаранне пазбаўленнем волі за здзяйсненне дысцыплінарных праступкаў падчас адбыцця пакарання, таксама нясуць у сабе элементы адвольнага пазбаўлення волі: гэта — спадчына савецкага мінулага, гэта недарэчна, як недарэчна караць у крымінальным парадку работнікаў за некалькі спазненняў на завод ці беспарадак на працоўным месцы.

*Абсалютным рэкардсменам, які вядомы праваабаронцам, стаў Уладзімір Бандарэнка, які на 2018 год ужо восем разоў прысуджаны да пазбаўлення волі па частцы 2 артыкула 411 Крымінальнага кодэкса. За кошт гэтага яго першапачатковы тэрмін зняволення па выраку суда — восем з паловай гадоў, — з 2003 года павялічыўся практычна ўдвая. Ні разу зняволены не абвінавачваўся ў гвалтоўных дзеяннях, правіны былі немудрагеліста аднастайныя: адмова ад прыніжаючай працы; адмова ад выхаду ў клуб на выхаваўчыя мерапрыемствы; адсутнасць на спальным месцы пасля адбою. За ўсе правіны зняволены панёс папярэдне дысцыплінарную адказнасць.*

І, нарэшце, вялікая частка з пяці тысяч абвінавачаных змяшчаюцца ў следчыя ізалятары: тыя, каму мерай стрымання было абрана ўтрыманне пад вартай, — без суда, з санкцыі пракурора. Гэта таксама ахвяры парушэння права на свабоду і асабістую недатыкальнасць: мера стрымання, якая абмяжоўвае асабістую свабоду, павінна прымяняцца судом.

### Артыкул 14. Замацоўвае асновы працэсуальных правоў у крымінальным і грамадзянскім судаводстве

Згодна з гэтым артыкулам, кожны мае права асабіста абараняць свае інтарэсы ў адкрытым судзе — аднак на справе тысячы зняволеных пазбаўленыя права паўнавартасна ўдзельнічаць у судовым разглядзе, задаваць пытанні другому боку і дапытваць сведак. У лепшым выпадку, ім дадуць магчымасць пісьмова выказацца па сутнасці справы, а ў горшым — давядзецца даведацца пра вынесены вырак, што закранае іх інтарэсы, калі-небудзь потым. Большая частка спраў, што вызначаюць лёс зняволеных, — пра замену рэжыму, асуджэнне за парушэнне рэжыму, перавод у турму, — разглядаецца ў калоніях і турмах, за калючым дротам, без доступу ў працэс «лішніх» людзей.

Магчымасці для рэалізацыі правоў зняволеных цалкам сканцэнтраваныя ў адміністрацыі: пад яе кантролем, нягледзячы на закон, знаходзіцца перапіска зняволеных і дзяржаўных органаў; нават адвакат можа трапіць да асуджанага ў калонію або турму толькі тады, калі да яго з папраўчай установы прыйдзе ўзгодненая і «выпушчаная» адміністрацыяй заява кліента. Гэта дазваляе беспакарана маніпуляваць сітуацыяй, ствараючы вакол свавольнага зняволенага вакуум і пазбаўляючы яго любой магчымасці адстойваць свае правы.

Мы сочым за сітуацыяй у папраўчых установах, аказваем дапамогу ахвярам парушэння правоў, падтрымліваем іх ініцыятывы па аднаўленні сваіх правоў. І мы за тое, каб у калоніях і турмах замест плакатаў пра важнасць прадукцыйнай працы размяшчаліся плакаты з цытатай артыкула 10 Пакту: «Усе асобы, пазбаўленыя волі, маюць права на гуманнае абыходжанне і павагу годнасці, якая ўласцівая чалавечай асобе».

# Праца як пакаранне

Васіль ЗАВАДСКІ



**Даследчыкі вылучаюць пяць асноўных грамадскіх функцый працы: спажывецкая, сацыяльная, стваральная, чалавекатворная і свабодатворная. Як думаеце, якой адпавядае праца беларускіх зняволеных?**

Крыху тэорыі. Спажывецкая функцыя працы лічыцца найважнейшай: праца трэба чалавеку для задавальнення яго патрэбаў у ежы, вопратцы, забавах. Праца служыць таксама для вызначэння і павышэння сацыяльнага статусу чалавека, для фарміравання сацыяльных слаёў у грамадстве і іх узаемаадносінаў. У гэтым — сацыяльная функцыя. Стваральная функцыя выяўляецца ў тым, што, працуючы, чалавек стварае каштоўнасці, якімі можа карыстацца ўсё грамадства. Працуючы, чалавек развіваецца, павышае сваю кваліфікацыю, узровень ведаў, узрастае яго самаацэнка і павага да яго з боку іншых людзей — у гэтым чалавекатворная функцыя працы. Свабодатворная функцыя: менавіта ў працы чалавек адкрывае і спазнае законы развіцця прыроды, людзей і грамадства, што дазваляе яму, з аднаго боку, прагназаваць наступствы сваёй дзейнасці, а з другога — адкрывае новыя магчымасці для самавыяўлення.

Кожны, хто трохі знаёмы з арганізацыяй працоўнага працэсу ў айчынных пенітэнцыярных установах, будзе ў разгубленасці: складана суаднесці высокія паняцці і працоўныя будні нашых зняволеных.

Вязні са стажам і ветэраны крымінальна-выканаўчай сістэмы памятаюць часы СССР, калі прадпрыемствы пры калоніях грымелі кругласутачна, а ля прахадных стаялі чэргі аўтамабіляў у чаканні прадукцыі. Гістарычна гэтая традыцыя бярэ свой пачатак з часоў ГУЛАГу, калі правадырам Савецкага Саюза прыйшла ідэя выкарыстаць дармавую і нямую працоўную сілу для максімальнага паскарэння індустрыялізацыі.

З невялікімі касметычнымі зменамі гэтая сістэма праіснавала да развалу СССР. Планава-размеркавальная эканоміка дазваляла не надта затлумляцца асартыментам і якасцю прадукцыі, а спажывец і не ўяўляў, што значная частка тэлевізара «Гарызонт», які пастаянна ламаецца, сабрана ў Ваўкавыскай папраўча-працоўнай калоніі №11. А легендарнае «вядро з гайкамі» — матацыкл «Днепр» з каляскай — амаль цалкам сабраны ў калоніі непадалёк ад Кіева. Ды што там тэлевізар — самі калоніі часцяком і ствараліся пры буйных прадпрыемствах, каб максімальна эфектыўна выкарыстоўваць хай некваліфікаваную, але танную працоўную сілу. ПК-9 у Горках першапачаткова будавалася пры цагляным заводзе, ПК-2 у Бабруйску — пры «Белшыне», ПК-20 (тады — ЛПП) — пры НПЗ, і гэтак далей.

Сацыяльна-эканамічныя змены ў грамадстве, што адбыліся пасля распаду СССР, адбіліся і на пенітэнцыярнай сістэме, у тым ліку на яе вытворчым комплексе. Прадукцыя папраўчых устаноў, якая ва ўмовах татальнага дэфіцыту прадавалася без праблем, хутка стала не канкурэнтаздольнай. Як вынік, рэзка скарацілася колькасць працоўных месцаў на прадпрыемствах гэтай сістэмы. А задачу 100-працэнтнага «працавыкарыстання» (слова ж якое!) спецкантынгенту ніхто не адмяняў! Вось і атрымліваецца, што нават у тых нешматлікіх установах, дзе захавалася больш-менш моцная вытворчасць, на адно працоўнае месца выводзяць па два-тры чалавекі. У большасці ж папраўчых устаноў працоўны працэс палягае ў «здабыцці каляровых металаў» спосабам ачысткі электрадроту ад ізаляцыі, ва ўтылізацыі адпрацаваных або бракаваных аўтапакрышак, і таму падобнай «грамадска-карыснай» дзейнасці.

Яно б і нічога, калі б такая некваліфікаваная, цяжкая, брудная праца адбывалася ў чалавечых умовах і, галоўнае, адэкватна аплачвалася! Але… Прывядзем копію даведкі аб заробку аднаго з такіх работнікаў.

Паводле часткі 1 артыкула 100 Крымінальна-выканаўчага кодэкса (КВК), «асуджаныя да пазбаўлення волі маюць права на аплату працы ў адпаведнасці з заканадаўствам». Што ж гэта за заканадаўства, калі чалавек, які адпрацаваў 23 дні (161 гадзіну), зарабіў за месяц крыху больш за адзін долар, а асноўны яго «даход» у гэтым месяцы — аж 16,25 рублёў, — паўстаў толькі дзякуючы «грамадска-карыснай» працы ў начны час?

Дзеля справядлівасці адзначым, што ў некаторых установах ёсць кваліфікаваныя працоўныя месцы, і, калі накіраваны ў калонію асуджаны мае неабходную спецыяльнасць, у яго, пры жаданні, ёсць шанцы атрымаць месца, якое будзе дастаткова высокааплатным (па мерках пенітэнцыярнай сістэмы, зразумела). Разам з тым мы не закранаем праблему ўтрыманняў з асуджаных за харчаванне, адзенне, камунальна-бытавыя паслугі. Толькі памер такіх утрыманняў здольны звесці да мінімуму імкненне асуджанага працаваць нават на нядрэнным месцы.

КВК Беларусі вызначае абавязковасць працы для кожнага асуджанага. Многія юрысты расцэньваюць гэта як прамое парушэнне правоў чалавека — прымусовую працу. Забарона прымусовай працы ўтрымліваецца ў шэрагу ратыфікаваных, а значыць, абавязковых для выканання нашай краінай міжнародных дакументаў: Міжнародным пакце аб грамадзянскіх і палітычных правах, Канвенцыі №29 і 105 Міжнароднай арганізацыі працы. Зрэшты, прымусовая праца забароненая і артыкулам 41 Канстытуцыі Беларусі, і артыкулам 13 Працоўнага Кодэксу.

Але нават калі чалавек працуе не па сваёй добрай волі, а па прымусе, не мае права абіраць ні месца працы, ні прафесію, ні графік працы, ні іншыя ўмовы, зарабляе пры гэтым ад аднаго да дзесяці долараў у месяц — што гэта, як не рабская праца?

Як піша Вікіпедыя, рабства — гэта «ў сучасных умовах сацыяльная з'ява, якая характарызуецца татальным абмежаваннем правоў чалавека (асобы або групы асоб), яго свабоды, асабістай недатыкальнасці, прымусам да паднявольнай працы, да выканання працы, не абмежаванай па часе або нявызначанай па характары, да сексуальнай несвабоды, а таксама эксплуатацыі асобы ў якасці аб'екта права ўласнасці (шляхам продажу, здачы ў наём і іншае)».

Што ў гэтым вызначэнні не адпавядае сённяшняму становішчу беларускага асуджанага? Пра выпадкі продажу зняволеных мы пакуль не чулі, але ў арэнду іх здаюць напоўніцу, і, зразумела, згоды «суб'екта арэнды» ніхто не пытае.

Можа ўзнікнуць пытанне: няўжо будзе справядліва, калі чалавек, што здзейсніў злачынства, будзе гультаіць, а яго ўтрыманне ў месцах зняволення цалкам возьме на сябе і так ужо абрабаваны ім пацярпелы? Зразумела, не. Бяздзеянне — з'ява ненармальная ні на волі, ні ў месцах зняволення.

о начислении заработной платы осужденному [redacted] 1964 года рождения, за период с 01.01.2018 года по 31.05.2019 года, а также о произведенных удержаниях:

| Период | Отработано дней | Отработано часов | Начисления, рублей | | | | Удержания, рублей | | | | | | | | Зачислено на лицевой счет, рублей |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Заработная плата | Ночные | Отпускные | Всего начислено | Подоходный налог | Отчисления в пенсионный фонд | По исполнительным документам | Питание | Коммунальные расходы | Средства гигиены | Вещ. Довольствие | Всего удержано | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| Январь 2018 | 22 | 88 | 0,11 | | | 0,11 | | | | 0,08 | | | | 0,08 | 0,03 |
| Февраль 2018 | 20 | 80 | 0,12 | | | 0,12 | | 0,01 | | 0,08 | | | | 0,09 | 0,03 |
| Март 2018 | 19 | 84,5 | 0,49 | 2,04 | | 2,53 | | 0,03 | | 1,87 | | | | 1,90 | 0,63 |
| Апрель 2018 | 18 | 124 | 0,29 | 11,49 | | 11,78 | | 0,12 | | 8,71 | | | | 8,83 | 2,95 |
| Май 2018 | 21 | 146 | 7,01 | 13,86 | | 20,87 | | 0,21 | | 15,44 | | | | 15,65 | 5,22 |
| Июнь 2018 | 21 | 147 | 6,59 | 14,20 | | 20,79 | | 0,20 | | 15,39 | | | | 15,59 | 5,20 |
| Июль 2018 | 19 | 133 | 4,19 | 12,84 | | 17,03 | | 0,17 | | 12,60 | | | | 12,77 | 4,26 |
| Август 2018 | 23 | 161 | 4,10 | 15,55 | | 19,65 | | 0,20 | | 14,54 | | | | 14,74 | 4,91 |
| Сентябрь 2018 | 17 | 121 | 2,54 | 10,14 | | 12,68 | | 0,13 | | 9,38 | | | | 9,51 | 3,17 |
| Октябрь 2018 | 23 | 161 | 2,50 | 16,25 | | 18,75 | | 0,19 | | 13,87 | | | | 14,06 | 4,69 |
| Ноябрь 2018 | 21 | 146 | 1,06 | 14,48 | | 15,54 | | 0,15 | | 11,50 | | | | 11,65 | 3,89 |

**Даведка аб заробку аднаго са зняволеных**

Каб годна жыць, быць паўнавартасным чальцом грамадства, працаздольны чалавек павінен працаваць: менавіта прадаючы сваю працоўную сілу, грамадзянін атрымлівае сродкі для задавальнення сваіх патрэбаў. Чалавек, які не мае такіх сродкаў, нярэдка абірае злачынныя спосабы іх атрымання. Паводле афіцыйнай статыстыкі, амаль дзве траціны ўсіх злачынстваў у Беларусі здзяйсняюцца людзьмі, якія не працуюць і не вучацца. Таму важна, каб да моманту вызвалення чалавека з месца пазбаўлення волі ў яго было сфарміраванае свядомае імкненне працаваць.

Але калі з дня на дзень, з году на год (сярэдні тэрмін пазбаўлення волі ў Беларусі перавышае шэсць гадоў!) чалавек пад прымусам займаецца зневажальнай, некваліфікаванай, практычна не аплачваемай, па-сутнасці, рабскай працай — няўжо ў яго сфармуецца імкненне да працы? Ці выйдзе на волю ён з жаданнем сумленна працаваць? За такі доўгі тэрмін і з такім падыходам да арганізацыі працы пенітэнцыярная сістэма, хутчэй, сфармуе прыстасаванцаў з грэблівым стаўленнем да працы і накіраванасцю на паразітычны лад жыцця.

Вернемся ў пачатак артыкула. Якія з пяці пералічаных функцый можна знайсці ў працы зняволенага? Ці дапамагае праца асуджанага задаволіць яго патрэбы ў ежы, вопратцы, забавах (спажывецкая функцыя)? Якія каштоўнасці, якімі магло б карыстацца грамадства, стварае небарака, голымі рукамі ачышчаючы ізаляцыю з дроту (стваральная)? Ці здольная такая праца павысіць статус работніка (сацыяльная)? Ці будзе асуджаны для выканання падобнай працы вывучаць спецыяльную літаратуру, імкнуцца павышаць кваліфікацыю, у выніку чаго ўзрасце яго самаацэнка і павага да яго з боку іншых людзей (чалавекатворная)? Ці служыць такая праца мэтам самавыяўлення (свабодатворная)?

Пытанні, вядома, рытарычныя. Ці існуе канструктыўнае рашэнне праблемы неэфектыўнай, прымусовай, рабскай працы зняволеных?

У гэтай сферы наспела кардынальная рэформа. Яе сутнасцю павінна стаць карэннае змяненне задач прамысловых падраздзяленняў сістэмы выканання пакаранняў: замест атрымання прыбытку — укараненне сістэмы фарміравання пазітыўнай матывацыі да працы. Неабходна ствараць умовы, пры якіх зняволены будзе прымаць рашэнне працаваць добраахвотна, самастойна, свядома, а не пад прымусам ці ў выніку запалохвання. Верагодна, працоўную дзейнасць, добрасумленнае выкананне працоўных абавязкаў можна разглядаць у якасці аднаго з крытэраў для заахвочвання асуджаных, у тым ліку — для замены пакарання больш мяккім, умоўна-датэрміновым вызваленнем. Маюцца і іншыя, больш канкрэтныя прапановы па гэтай тэме, і праваабаронцы гатовыя прадставіць іх зацікаўленым.

«Калі б захацелі цалкам раздушыць, знішчыць чалавека, пакараць яго самым жахлівым пакараннем, то варта было б толькі надаць працы характар дасканалай, поўнай бескарыснасці і бессэнсоўнасці», — гэтыя словы Фёдар Дастаеўскі напісаў больш за 150 гадоў таму. Глядзіце самі, наколькі актуальныя яны сёння.

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №10 (158)
(кастрычнік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by



Змест



# «Ён не самотны…»

## Данута БІЧЭЛЬ пра Алеся ЧОБАТА

***— Данута Янаўна, Вы напісалі прадмову да зборніка вершаў Алеся Чобата «Год» (1992), дзе адзначылі, што ў вершах паэта — «імпульс неспакойнага часу, няўтульнага жыцця непадкупнага пакалення…». Чым адметны гэты зборнік?***

— Вы самі адказалі на сваё пытанне. Чобату трэба было памяняць прафесію. Дакладней, пасля першага мітынгу Народнага Фронта, на якім Чобат быў арганізатарам, яму давялося пакінуць працу на прадпрыемстве ВА «Азот». Ён стаў прафесійным рэвалюцыянерам, каардынатарам выбарчай кампаніі Рэгіянальнага блока «Саветы-1990» на выбарах у Вярхоўны Савет ХІІ склікання. Заняўся літаратурай, напісаў кнігу «Год». Гэта кніга пачаткоўца, але большасць вершаў перайшлі ў наступныя перавыданні. Кніга пра той час, калі пачынаўся развал вялікай імперыі д'ябла. А я ў дзевяностыя пісала прадмовы да многіх першых кніжак таленавітых паэтаў, якія звярталіся да мяне.

***— У 1997 годзе выйшла кніга «Ты не самотны…», створаная Вамі і Алесем Чобатам. Як нарадзілася такое адметнае выданне пра Максіма Багдановіча?***

— Музей Максіма Багдановіча ў 1994 атрымаў юрыдычны статус самастойнага, да Максіма ехалі людзі з усяго свету, навукоўцы і даследчыкі з Англіі і Амерыкі. Калі людзі прыходзяць у музей, трэба, каб яны выходзілі не з пустымі рукамі, бо ўсё, што там пачулі і ўбачылі, хутка забываецца. У супрацоўнікаў з'явіліся магчымасці самастойна заняцца навукова-асветніцкай і выдавецкай дзейнасцю. Мы выдалі некалькі паштовак, буклетаў, сціплых кніжак пра гродзенскі перыяд жыцця Максіма Багдановіча. У Алеся Чобата з'явілася падборка вершаў, ён прапанаваў выдаць сумесна. У мяне быў не творчы час, шмат працы было ў музеі. Таму я сабрала, што змагла. Алесь жа стварыў лепшую падборку вершаў пра Паэта.

***— У кожнага з вас свой паэтычны голас. Сваю нізку вершаў Алесь Чобат назваў «Ліст у Ялту». Гэта своеасаблівая паэтычная біяграфія Паэта. Вершам Алеся Чобата характэрна эпічнасць, нягледзячы на эмацыянальнасць, экспрэсію. Хоць кніга выйшла 22 гады таму, чаму яна гучыць так актуальна, так сучасна, нібы напісаная нядаўна?***



Фота www.aarp.org

— Таму што гэта вершы пра геніяльнага паэта, якога любіць чытач, мы дакрануліся да той любові, якую аддаем Максіму. На сустрэчах модадзь чытае на памяць вершы з гэтага зборнічка…

***— У творах Алеся Чобата ажываюць Горадня, Скідаль, вобразы людзей Горадні з мінулага і сучаснага жыцця. Радзіма — душа…***

— Так аўтар пачынае ствараць «Кароткую гісторыю Беларусі» ў постацях яе прадстаўнікоў. Гэта адзіная рэальная мэта Алеся Чобата, дзеля чаго ён пачаў пісаць — і прозу, і паэзію, і эсэістыку, і журналістыку. Добра сказаў Анатоль Брусевіч у прадмове да кнігі Чобата «Кароткая гісторыя Беларусі»: «Усе гістарычныя постаці — ад Вялікіх князёў літоўскіх і рускіх ды каралёў Рэчы Паспалітай да вядомых паэтаў, навукоўцаў ці грамадскіх дзеячаў, гістарычныя асобы, якія ажываюць у кнізе — усе, без выключэння, маюць воблік, голас, беларускую душу аўтара».

***— Проза Алеся Чобата — гэта арыгінальныя гістарычныя эсэ, свой погляд на асобы мінулага часу і сучаснасць. Аўтар часта палемізуе з сучаснымі гісторыкамі, гаворыць востра, нібы правакуе на аспрэчванне, гаворыць не надта прыемную праўду пра нас, беларусаў, наш нацыянальны характар.***

— Чобат уважліва перачытвае гісторыкаў, палемізуе там, дзе даследчыкі падстройваліся пад польскую або расейскую «праўду», бо да свае не змаглі дадумацца, а хто дадумаўся, той спалохаўся яе. Бо ў нашай гісторыі стагоддзі пустэчы, смерці. А так жа быць не павінна!

Творчы час Алеся Чобата займаў перыяд ад 1990 да 2013 года. Ён шмат пісаў публіцыстычных эсэ на гістарычныя тэмы, якія ў Савецкім Саюзе былі забароненыя. Алесь уклаў кнігу прозы «На дзікай прэрыі над Котрай, Гаўяй і Шчарай» (2014), куды ўвайшлі тыя гістарычныя эсэ, якія аўтар лічыў удалымі, а гэта «Вайна 1920 года. Хроніка», «Армія Краёва на Беларусі. Хроніка», «БССР: 1919—1991», іншыя. І нельга не адзначыць яго эстэтычна-філасофскі твор «Трансфармацыя беларускай нацыянальнай ідэі», які перадрукоўвалі ў дзевяностыя многія выданні.

***— Да пяцідзесяцігоддзя Алеся Чобата выйшла кніга яго паэзіі «Калі хочаце мець у Айчыне свабоду…». Аўтар як у ранніх, так і ў пазнейшых творах паўстае няскораным барацьбітом за волю і незалежнасць, за чалавечае ў чалавеку…***

— Гэтую кніжку ўклаў і выдаў Язэп Янушкевіч. Аўтару тады было не да кніжак, ён катастрафічна губляў зрок… У такіх кніжках, дзе няма вершаў ні пра што, вельмі важна ўкласці творы тэматычна, адносна падзеям і часу ў адпаведным парадку. Вершы не разбітыя на раздзелы. Але добра, што Язэп іх сабраў, таму што гэта поўны збор вершаў Чобата, напісаных на той час.

***— Гісторыя Беларусі — праз падзеі і лёсы людзей — у паэтычным асэнсаванні Алеся Чобата вельмі эмацыянальныя, публіцыстычна завостраныя, экспрэсіўныя. Што нараджае такую паэзію?***

— Чобат у маладосці гуляў у шахматы, быў «другой шашкай» у рэспубліцы. І ён па прафесіі інжынер-канструктар, кіраваў на заводзе канструктарскім бюро. Таму ён дакладны ў паэзіі, скупы на словы, строгі, просты, зразумелы. Эмацыйнасць — прыглушаная, заглыбленая, прыходзіла ў працэсе вучобы і ўдасканальвання паэтычнай творчасці.

***— Вельмі часта ў творах А. Чобата згадваецца 1863 год, падзеі і асобы таго часу. Чым гэта абумоўлена?***

— Паўстанне 1863 года — гэта такая падзея, у якой Беларусь паўстае як Краіна, за якую людзі свядома ішлі на смерць. У кнізе, якую ўклаў Язэп Янушкевіч, сабраныя і пастаўленыя побач усе вершы пра паўстанне.

***— Рэзкі, непрыкрыты метафарамі пратэст супраць няволі, слугавання чужому, супраць згодніцкага маўчання, «абы ціха было», — характэрны для паэзіі Алеся Чобата. Як мянялася яго слова з часам?***

— «Палітыкі — гэта людзі, якія павінны прадбачыць будучыню», — Чэрчыль.

Чобат прыйшоў у грамадскае жыццё Горадні як палітык. Пісьменнікам ён стаў услед за палітыкам. Яго погляды і яго слова не мяняліся. Толькі дасканаліліся, узмацняліся. Чобат прыйшоў адначасна ў літаратуру і ў адраджэнскі рух са сваімі думкамі, са сваёй праўдай. І ён амаль не памыляўся. Вершы пісаць ён хутка навучыўся. У «Народным фронце» не ўмелі афармляць тэксты пратаколаў, заяваў, іншых дакументаў. Мяне здзівіў Чобат, калі трэба было напісаць «Звароты на плот» да выбарцаў: ён гэта зрабіў так, нібы ўсё жыццё іх пісаў. Так пачалося наша супрацоўніцтва.

***— Прыгадайце, калі ласка, як працавалася Вам разам з Алесем Чобатам над перакладам паэзіі Караля Вайтылы? Як атрымалася кніга «Караль Вайтыла. Паэзія. Выбранае. Ян Павел ІІ. Рымскі трыпціх» (2003)?***

— Я з перакладамі святога Караля Вайтылы не спраўлялася. Усе цяжкія месцы Чобат браў на сябе, тыя вершы, якія я перакладала на свой выбар, Чобат мне таксама дапамагаў. Адчуванне мовы, веданне тэалагічных тэрмінаў, веданне Бібліі і Евангелля — у Чобата гэта ўсё ёсць, і шмат чаго ён разумее інтуітыўна.

***— У 2016 годзе выйшла кніга Алеся Чобата «Планета». Як яна ствралася, як яе напісаў сляпы паэт?***

— Чобат цяпер не піша вершаў, за невялікім выключэннем. Каб пісаць вершы, патрэбна жывое святло, таго, што ўнутры чалавека, мала. Але Чобат памятае ўсе свае творы — і вершы, і празаічныя апавяданні, і гістарычныя эсэ — дакладна, слова ў слова. У кнізе «Планета» ёсць нерыфмаваныя версэты, іх ён мне дыктаваў, а я запісвала. Я часта тады ездзіла да яго ў Скідаль. Скажам, твор «Былі такія, хто нараджаліся…» мы запісвалі ў два прыезды. Але ён дыктаваў гэта з памяці дакладна, не збіваўся. Пасля яшчэ і апраўдваўся: «У мяне гэта пайшло так гладка, бо я шмат разоў гэта перадумваў, перакручваў у сваёй памяці». Гэта і ёсць «Кароткая гісторыя Беларусі», дакладней, яе згустак, голая праўда, квінтэсэнцыя. Ён пісаў кароткую гісторыю мноства разоў. Спыняўся там, дзе на нашай зямлі перарывалася жыццё, бо нас вынішчалі дашчэнту. Так цяпер знішчаюць украінцаў. А мы глядзім і нібы не бачым… Калі ўся кніжка «Планета» была ўкладзена, прадыктаваныя празаічныя версэты, я прапанавала яму напісаць яшчэ нейкі твор, больш светлы, ці што, бо палохаць чытачоў сваімі прагнозамі не варта. Ён згадзіўся, і праз кароткі час прадыктаваў «Хатынь. Замест эпілога».

***— Як жывецца «скідзельскаму самотніку» сёння?***

— Чобат мае коцікаў, якіх ён успрымае як сям'ю, таму ён не самотны гэтую цемру пераносіць. Трэба ўмець слухаць сусвет і думаць, і любіць тых, каго табе Бог даў, на адлегласці.

Чобат жыве ў хаце, у якой нарадзіўся і рос, дзе набіваў гузакі да таго, як навучыўся хадзіць. Там нічога не змянілася. Тое, што хата не дагледжана, гэта на яго настрой не ўплывае, бо ён не бачыць. Бог прыслаў Чобату апякунку, яго равесніцу Тацяну Савянкову, дырэктарку Музея Элізы Ажэшкі ў Мількаўшчыне. А грашовыя пераводы шаноўнай лаўрэаткі Нобеля Святланы Алексіевіч даюць зразумець скідзельцам, што ў іхнім горадзе жыве чалавек, паважаны ў Беларусі, якога варта шанаваць.

**Гутарыла Марыя Новік**

# Самота, атлусценне і сяброўства…

## Пра што пішуць лаўрэаты Еўрапейскай прэміі па літаратуры

**10 гадоў таму Еўрапейскі Саюз заснаваў прэмію па літаратуры — каб папулярызаваць на міжнародным узроўні не надта вядомых, але таленавітых аўтараў з розных краін Еўропы. Намінантам прэміі можа стаць аўтар, які мае не менш за дзве, але не больш за чатыры выдадзеныя арыгінальныя кнігі.**




Каардынуе прэмію адмысловы кансорцыум, які стварае нацыянальныя журы і арганізуе цырымонію ўзнагароджвання. Адметна, што конкурс можа ісці ажно цягам трох гадоў. Першы цыкл быў у 2009–2011 гадах, трэці скончыўся ў 2017-м. А ў 2019 годзе пачаўся новы цыкл, які завяршыцца ў 2021-м.

Кожны год каля 15-ці еўрапейскіх краін абіраюцца да ўдзелу ў конкурсе, пасля зацвярджаецца склад нацыянальных журы, бо ў кожнай краіне яно сваё. Ну а чальцы журы ўжо вызначаюць пераможцу.

У конкурсе маюць права ўдзельнічаць не толькі краіны-сябры ЕС, але і іншыя краіны Еўропы, якія з'яўляюцца ўдзельнікамі праграмы «Крэатыўная Еўропа», — агулам 41 краіна.

Лаўрэаты атрымліваюць грашовую прэмію ў памеры 5000 еўра і падтрымку ў выглядзе перакладаў сваёй кнігі, а таксама яе прамоцыю на міжнародным узроўні. Сёлета ў конкурсе перамаглі творцы з наступных краін: Аўстрыя, Венгрыя, Вялікабрытанія, Грузія, Грэцыя, Ірландыя, Італія, Літва, Польшча, Румынія, Славакія, Украіна, Фінляндыя і Францыя.

Пазнаёмімся з нацыянальнымі пераможцамі Еўрапейскай прэміі ды іх творчасцю.

Аўстрыя. Гэтую краіну прадстаўляе **Лаўра Фройдэнтхалер.**

Лаўра нарадзілася ў 1984 годзе ў Зальцбургу, вывучала нямецкую мову і літаратуразнаўства, філасофію, займалася гендарнымі даследаваннямі. Яе першая кніга выйшла ў 2014 годзе, а праз чатыры гады раман «Каралева маўчыць» атрымаў добрыя водгукі ад крытыкаў і — літаратурную ўзнагароду. Раман «пагружае» чытача ў ізаляваны космас вёскі і складаецца з фрагментаў успамінаў старой жанчыны. Гісторыя яе жыцця трагічная, аднак сама гераіня не ўспрымае яго так, яна, хутчэй, носіць гэты цяжар з гонарам, як «каралева». Другі раман пісьменніцы «Гісторыя прывідаў» пабачыў свет у 2019 годзе, і менавіта за гэтую кнігу Лаўра атрымала Еўрапейскую прэмію па літаратуры. Твор пра пустэчу, якая раптоўна ўтварылася ў жыцці маладой жанчыны. Удзень яна блукае па вуліцах, уначы запісвае свае назіранні ў сшытак. Усё, што раней мела значэнне ў яе жыцці, паступова сыходзіць у цень…

Ад Венгрыі лаўрэатам стала **Рэка Ман-Варэдзі** (Réka Mán-Várhegyi).

Рэка нарадзілася ў 1979 годзе ў Румыніі, а ў 1990-м пераехала ў Венгрыю, дзе цяпер і жыве. Вывучала эстэтыку і сацыялогію, а таксама этнічныя меншасці. Пасля працавала рэдактарам дзіцячых кніг у выдавецтве. Яе першы зборнік кароткіх апавяданняў з'явіўся ў 2014 годзе і быў прызнаны вельмі ўдалым дэбютам. Рэка піша кнігі для дзяцей і падлеткаў, за якія атрымала ўжо некалькі літаратурных прэмій у 2013 і 2018 гадах. З чорным гумарам і яркімі дэталямі яна апісвае не ўсім бачныя будні венгерскай сям'і. Атлусценне, юнацкія комплексы, прабуджэнне сэксуальнасці — усё гэта можна знайсці ў творах аўтаркі.

**Меліса Харысан** (Melissa Harrison) стала лаўрэаткай ад Вялікабрытаніі.

Аўтарка раманаў «Гліна», «У часы глогу», «Усё сярод ячменю» і навукова-папулярнай кнігі (нон-фікшн) «Дождж: чатыры прагулкі ў англійскае надвор'е». Усе творы намінаваліся на літаратурныя прэміі. Меліса супрацоўнічае як калумністка з такімі выданнямі, як «The Times», «The Financial Times», «The Guardian» ды іншымі. Яе творчасць неразрыўна спалучана з прыродаю. Апошні раман, за які Меліса і была вылучаная на прэмію, апавядае пра восень 1933 года ва ўсходняй Брытаніі — гэта, на думку маці галоўнага героя, была самая прыгожая восень на яе памяці, хаця Вялікая вайна ўсё ж «кідае цень» на палі і вёскі вакол іх любімай фермы. З горада прыязджае даследчыца фальклору і этнаграфіі, каб запісаць вясковыя традыцыі, якія неўзабаве знікнуць. Галоўны герой і мясцовыя жыхары паступова захапляюцца наведніцай. Але з часам збору ўраджаю пачынае адчувацца эканамічны ціск на вяскоўцаў, і галоўны герой вучыцца давяраць сваім інстынктам і шукае спосабы ўратавацца ад катастроф…

**Бека Адамашвілі** (Beqa Adamashvili) стаў лаўрэатам ад Грузіі.

Вядомы грузінскі блогер, дырэктар крэатыўнага агенцтва вывучаў журналістыку і сацыялогію ва ўніверсітэце. Яго літаратурны дэбют адбыўся ў 2009 годзе. Бека апублікаваў у інтэрнэце свае кароткія апавяданні і адразу ж набыў папулярнасць сярод чытачоў. У 2014-м яго кніга «Бэстсэлер» стала сапраўдным бэстсэлерам у Грузіі. Добрае пачуццё гумару і глыбокія веды ў галіне сусветнай літаратуры, алюзіі на класічныя літаратурныя творы, а таксама выдатнае веданне прынцыпаў маркетынгу і рэкламы робяць яго апавяданні захапляльнымі і прыцягальнымі, што спрые росту папулярнасці.

Намінантам ад Грэцыі стаў **Нікас Хрысас** (Nikos Chryssos).

Аўтар нарадзіўся ў 1972 годзе ў Афінах і спачатку вучыўся на біёлага, а пасля вырашыў выбраць прафесію рэжысёра. Яму належыць букіністычная кнігарня ў Афінах. Нікас напісаў і выдаў дзве кнігі, сярод якіх раман «Новы дзень», за які ён і быў намінаваны на прэмію. Кніга апавядае пра прыгоды банды бяздомных, якія жывуць і паміраюць у порце «поўдня Еўропы» (Грэцыі). Раман пра жыццё і смерць, злачынствы і пакаранні. Па словах аўтара, менавіта «захапляльныя кароткія гісторыі, а таксама захапляльныя шматгранныя раманы складаюць ядро грэцкай літаратурнай традыцыі».

**Ян Карсан** (Jan Carson) была намінаваная ад Ірландыі.

Жыве ў Белфасце. Яе першы раман быў надрукаваны ў 2014 годзе і атрымаў добрыя водгукі. А ў 2015-м аўтарка штодзённа пісала кароткую гісторыйку на паштовай картцы і дасылала яе аднаму са сваіх сяброў. У кожнай такой гісторыйцы апісваўся нейкі момант з яе жыцця: падслуханая размова, пабачаная карціна, імгненная думка і г.д. У 2018 годзе зборнік гэтых звышмаленькіх апавяданняў атрымаў прыз ад Ірландскага саюза пісьменнікаў, а перад гэтым — у 2016-м — ад часопіса «Harper's Bazaar».

Лаўрэатам ад Італіі стаў **Джавані Дацыні** (Giovanni Dozzini).

Аўтар нарадзіўся ў Перуджы ў 1978 годзе, дзе жыве і цяпер. Працуе журналістам і перакладчыкам. З 2014-га — сябра арганізацыйнага камітэта «Encuentro», фестывалю, які прапагандуе іспанскую літаратуру ў Італіі. Займаецца музыкай і сам сябе называе «рок-зорка, у якой нічога не атрымалася». У сваіх творах Джавані ўздымае пытанне міграцыі. Апісвае-вывучае, што адбываецца з чалавекам, калі ён робіць першыя крокі на зямлі чужой краіны, яго страхі, жаданні, гнеў і настальгію, а яшчэ — надзею.

Нашу суседку Літву прадставіла **Дайна Апалскайтэ** (Daina Opolskaitė).

Аўтарка нарадзілася ў 1979 годзе ў Ваўкавішках, скончыла Віленскі педагагічны ўніверсітэт, дзе вывучала літоўскую філалогію. Цяпер працуе настаўніцай у школе ў родным мястэчку. У 2000 годзе атрымала прыз Літоўскага саюза пісьменнікаў за сваю дэбютную кнігу, а ў 2018-м — дзве літаратурныя прэміі за зборнік кароткіх апавяданняў. Дайна піша кнігі для дзяцей і падлеткаў. У 2017 годзе яе раман «І аднойчы, Рычы» стаў кнігай года. Раман апавядае пра сапраўднае сяброўства і ўздымае шмат важных пытанняў для падлеткаў, а самае галоўнае — імкнецца даць на іх адказы: «Як ты можаш адчуваць сябе шчаслівым, калі цябе зваць Баліс Белек? Што такое быць Белекам — гэта нішто. І нават калі дадаць рудыя валасы, добраахвотнікаў не знайшлося б. Іншы аднакласнік Рычы — прыгожы, разумны, смелы і спартыўны. Калі ён прыязджае ў школу на скутары, вочы ўсіх дзяўчат зззяюць, нібыта люстэркі».

Сучасную літаратуру яшчэ адной нашай суседкі, Польшчы, прадставіла **Марта Дзіда** (Marta Dzido).

Аўтарка нарадзілася ў 1981 годзе, скончыла школу кіно ў Лодзі і здымае дакументальныя стужкі. А яшчэ яна напісала тры раманы і навукова-папулярную кнігу «Жанчыны салідарнасці». Яе кар'ера як рэжысёра таксама паспяховая. Марта працавала галоўным аператарам на здымках дакументальнай стужкі «Underground Women's State» (2009 г.) і адным з рэжысёраў дакументальнага фільма «Downtown» (2010 г.), які атрымаў прыз «Hollywood Eagle Documentary Award» у 2011 годзе.

Намінант з Румыніі — **Таццяна Цыбуляц** (Tatiana Țîbuleac).

Таццяна нарадзілася ў 1978 годзе ў Кішынёве, вучылася на факультэце журналістыкі Малдаўскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Шырокая публіка ўпершыню даведалася пра яе ў 1995 годзе дзякуючы калонцы «Сапраўдныя гісторыі» ў штодзённай газеце «Flux». З 2008-га аўтарка жыве ў Парыжы. Яе дэбютам стаў зборнік кароткіх апавяданняў у 2014 годзе. У 2017-м яе першы раман «Лета, калі ў маці былі зялёныя вочы» атрымаў прэмію ад Саюза малдаўскіх пісьменнікаў, прыз літаратурнага часопіса «Observator Cultural» (Бухарэст) і прэмію «Observator Lyceum prize» на фестывалі ў Ясах. Кніга апавядае пра жанчыну, што памірае, і яе сына (якія праводзяць лета ў французскай вёсцы). Раман быў перакладзены на французскую і іспанскую мовы. Але на прэмію пісьменніца была намінаваная за раман «Шкляны сад», у якім яна таксама звяртаецца да тэмы маці, любімага і нелюбімага дзяцяці, піша пра трагічныя наступствы «бязвер'я». Лёс сіраты ў мультыкультурным Кішынёве, якому самотная і амбітная жанчына можа прапанаваць квітнеючую будучыню, а можа купіць у якасці працоўнай сілы і бязлітасна эксплуатаваць… Сталенне дзяўчыны паміж дзвюма мовамі і дзвюма культурамі (малдаўскай і румынскай) у гады, калі мяняюцца межы і палітычная сістэмы… Твор спалучае і жорсткасць назірання за трагічнымі падзеямі, і спачуванне героям.

**Івана Дабраковава** (Ivana Dobrakovová) стала лаўрэаткай ад Славакіі.

Пісьменніца і перакладчыца жыве ў Турыне. Яе літаратурны дэбют — зборнік кароткіх апавяданняў — у 2009 годзе быў намінаваны на «Anasoft Litera prize» і атрымаў прэмію «Ján Johanides Award» у катэгорыі «Найлепшая проза ад маладога аўтара». А другі раман — «Bellevue» (2010 г.) — апісвае жыццё маладой славацкай жанчыны, у якой здарыўся нервовы зрыў пасля працы ўлетку ў міжнародным лагеры для людзей з інваліднасцю ў Марсэлі.

Сучасную літаратуру нашай суседкі Украіны прэзентуе **Гаська Шыян.**

Пісьменніца, перакладчыца, блогерка, фатографка. Нарадзілася ў 1980 годзе ў Львове. Вывучала класічную філалогію ў Львоўскім універсітэце. З'яўляецца суўладальніцай кнігарні ў Львове, змагаецца супраць карупцыйных схем пры закупках падручнікаў для школ. Адкрыла Школу маладога пісьменніка, а ў 2014 годзе надрукавала свой першы раман, большая частка якога была напісаная на мабільным тэлефоне, калі аўтарка ляжала ў бальніцы. Цяпер пісьменніца жыве ў Кіеве. Яе твор пра 27-гадовую паспяховую ўкраінку, жыццё якой рэзка змянілася, калі яе хлопец пайшла позва ў войска. Вайна падштурхне гераіню да пераацэнкі ўласных каштоўнасцяў і прыняцця няпростых рашэнняў…

Фінляндыю прадстаўляе **Пія Лейна** (Piia Leino).

Пія нарадзілася ў 1977 годзе, жыве ў Хельсінкі, працавала журналісткай на тэлебачанні амаль 20 гадоў. Яе першы раман быў прысвечаны рэаліці-шоў і апавядаў аб праблемах, з якімі сутыкаюцца жанчыны. Як аўтарку яе цікавяць правілы, згодна з якімі функцыянуе грамадства, і як яно развіваецца. Папулярная культура, сацыяльныя медыя і палітыка — вось галоўныя тэмы яе твораў.

Ад Францыі Еўрапейскую літаратурную прэмію атрымала актрыса і пісьменніца **Сафі Доль** (Sophie Daull).

Яна нарадзілася ў 1965 годзе. Вывучала музыку ў Нацыянальнай кансерваторыі ў Страсбургу, што і падштурхнула яе стаць актрысай, а потым паспрабаваць сябе ў літаратуры і ў жанры інсталяцый з музыкай і рухамі. Яе першы твор «Camille, mon Evolée» (2015 г.) атрымаў прыз за найлепшы дэбют ад часопіса «Lire».

**Алена Няпальская,**
**паводле euprizeliterature.eu**

# Алесь Разанаў: галасы з Літвы



Алесь Разанаў з Альмай Лапінскене

## Чытаючы кнігу

Алесь Разанаў, адзін з самых адметных сучасных беларускіх паэтаў, сваім творчым почыркам, моваю, яе рытмікай, а таксама сваім светаадчуваннем прыкметна вылучаецца сярод сваіх калег. Гэты паэт-філосаф піша вершы, паэмы, версэты, пункціры, памысна ломячы звыклыя жанравыя каноны, творыць, што дагэтуль не мела наймення, — зномы, вершаказы, квантэмы.

Аднак нам важна, што ён не толькі самабытны творца, але і адмысловы перакладчык. Прыехаўшы са сваім сябрам у 1973 годзе на некалькі дзён у Вільню, неўзабаве вярнуўся зноў, ужо на паўгода — вывучаць мову, і з таго часу, асвойваючы абсягі перакладу і знаёмячыся са з'явамі літоўскай літаратуры, наведваўся ў Вільню не аднойчы.

Так, на беларускую мову ён пераклаў вершы А. Малдоніса, С. Гяды, М. Марцінайціса, Ю. Марцінкявічуса і другіх аўтараў, раман Ё. Авіжуса для выдавецтва, п'есу К. Саі для тэатра. Мабыць, маюць рацыю знаўцы, якія кажуць, што літоўская літаратура і праца над перакладамі спрычыніліся да фармавання мовы паэзіі і асаблівасцяў творчасці самога Алеся Разанава.

Калі паэт пачаў цікавіцца літоўскай літаратурай, яго знаёмая, выдатная знаўца беларускай літаратуры, даследчыца літаратурных сувязяў Альма Лапінскене ўзялася перакладаць яго творы на літоўскую. У 2008 годзе ў Вільні выйшла кніга паэзіі А. Разанава «Паляванне ў райскай даліне», а ў 2013-м — «Падарунак хроснай маці».

Аднак найбольш усіх нас Алесь Разанаў здзівіў, пачаўшы сам тварыць па-літоўску.

Пры зычлівым садзейнічанні Лапінскене аб'явіў свае пункціры ў нашых культурніцка-літаратурных выданнях «Metai», «Krantai», «Naujoji Romuva», а ў 2018 годзе выдавецтва «Homo Liber» выдала іх асобнаю кнігай — так у нашых кнігарнях з'явіліся «Літоўскія пункціры».

Чытаючы гэтую кнігу, немагчыма западозрыць, што пункціры напісаны не нашым суайчыннікам, не тутэйшым: так адмыслова А. Разанаў валодае літоўскай мовай, адчувае яе нюансы, яе асаблівасці, семантычныя пласты, зачароўвае гульнёю слоў.

Тут не ўблытаешся ў гушчар метафар, не натрапіш на пустапарожняе красамоўства, але знойдзеш тое, што не аднойчы бачыла і што на гэты раз само зірне на цябе.

У аддзяку Алесю Разанаву за яго ўвагу і любоў да літоўскай мовы, за яго пераклады літоўскай літаратуры на беларускую мову на з'ездзе пісьменнікаў Літвы ў 2018 годзе ўсе сябры Саюза аднагалосна прагаласавалі за тое, каб надаць яму званне ганаровага сябра Саюза пісьменнікаў Літвы: іх у нас трое. Мы ганарымся, маючы ў сваіх шэрагах такога таленавітага творцу і спадзяёмся, што ён зноў парадуе нас новай літоўскай кнігай.

**Бірутэ Ёнушкайтэ, старшыня Саюза пісьменнікаў Літвы**

## Алесь Разанаў і літоўская мова

Алесь Разанаў — паэт творчай канцэпцыі. Яго перш за ўсё займаюць анталагічныя пытанні, таямніца быцця, загадкі жыцця і светабудовы, іхнія ўзаемасувязі і сувязі з людскімі лёсамі. І яшчэ з'ява, з якой ён сам мае справу, — мова. І не толькі родная. А ў ёй не паэтычныя, якімі б яны ні былі, фігуры, а само слова, у фанемах якога




гучыць семантычная глыбіня і ў радовішчах якога бачацца ці прадбачацца закадзіраваныя пласты рэчаіснасці. Паэт імкнецца распазнаць утоены змест слова, яго паходжанне, разгадаць яго код, бо, паводле яго выказвання, кірунак слова, як і зярняці, — знутры. Наогул, мова для паэта — крыніца спазнання свету, з'ява, вартая пільнай увагі. «Кожны народ мае хаця б адзін геніяльны твор, і гэты твор — мова», — кажа ён у адным са зномаў.

Такое стаўленне да мовы, да яе як анталагічнай з'явы становіцца тым заўсёдным імпульсам, які амаль непазбежна ўводзіць у абсягі, дзе мова асвойваецца глыбока і ўсебакова, — у абсягі перакладу. Хачу засведчыць: А. Разанаў — выдатны перакладчык літоўскай літаратуры.

Пасля творчай камандзіроўкі ў Літву, што доўжылася з зімы 1973 па лета 1974 года, ён увайшоў у групу перакладчыкаў, што пачала рыхтаваць да друку двухтомную анталогію літоўскай савецкай паэзіі (выйшла ў 1977 годзе). Над анталогіяй рупіліся 48 перакладчыкаў, сярод іх А. Разанаў меў перавагу ў тым, што мог працаваць непасрэдна з арыгіналам.

Увосень 1982 года, сустрэўшыся ў Мінску, гутарыла з А. Разанавым пра анталогію, спецыфіку перакладчыцкай работы, яе складанасці і асаблівасці. Ён здзівіў мяне тым, што не толькі валодаў літоўскай мовай, а і адчуваў яе. На пытанне, што аказалася самым няпростым пры перакладзе літоўскай паэзіі, А. Разанаў назваў архаічнасць літоўскай мовы. З 86 літоўскіх паэтаў, прадстаўленых у анталогіі, А. Разанаў пераклаў творы 31 аўтара, з іх 16 сам, амаль трэць ад усіх змешчаных у анталогіі вершаў. Рэдактар анталогіі Васіль Вітка прызнаваўся, што А. Разанаў паспяхова, прафесійна перакладае і класіку, і найноўшых паэтаў. І гэты поспех невыпадковы. А. Разанаў — таленавіты творца. Уражвае яго ўспрымальнасць, паэтычнае чуццё, здольнасць паглыбіцца ў светаадчуванне і творчы почырк таго паэта, які перакладаецца, паразумецца з самою існасцю твораў і суадпаведна ўзнавіць іх на роднай мове.

А. Разанаў прымаў чынны ўдзел у перакладзе зборніка Альбінаса Жукаўскаса «Бяздонная любоў» (1974), кнігі паэзіі Юсцінаса Марцінкявічуса «Трава і камень» (1981), Альфансаса Малдоніса «Вадзяныя знакі» (1985). Пераклаў п'есу Казіса Саі «Дзявітбедаўцы», ягоную аповесць для дзяцей «Гэй, хавайцеся!», а праз некалькі гадоў раман Ёнаса Авіжуса «Час, калі пусцеюць сядзібы» (1989). Зноў вярнуўся да паэзіі і ў 1992 годзе выдаў невялічкі зборнік літоўскай паэзіі «Белы замак на гары», які склалі падборкі вершаў Марцэлюса Марцінайціса, Сігітаса Гяды і Эдуардаса Межэлайціса. Адно з апошніх выданняў — «Выбраная лірыка» Юсцінаса Марцінкявічуса (2019): доля ўкладу Алеся Разанава важкая.

Невядомая мова, мова іншага народа вабіць А. Разанава як нязведаная глыбіня.

Ад пачатку 2001 года, жывучы ў Нямеччыне, Аўстрыі, Швейцарыі, ён так далучыўся да нямецкай мовы, што, як сам прызнаецца, папросту гутарыў з нямецкімі словамі; вынікам такой гутаркі сталіся «Wortdichte» (2003) — самім паэтам напісаная па-нямецку кніга вершаказаў. Пасля гэтага з'явіліся «Der Zweig zeigt dem Baum wohin er wachsen soll» («Галіна паказвае дрэву, куды яно мае расці», 2006), «Der Mond denkt, die Sonne sinnt» («Месяц думае, сонца мысліць», 2011) і кніга нямецкіх пункціраў «Von nah und fern» («Збліжку і здалёк», 2016).

Па-літоўску А. Разанаў пачаў тварыць недзе гадоў пяць таму. На запытанне, што яго падштурхнула да гэтага, напісаў: «У маёй суадносіне з літоўскай мовай таіліся зместы, якія хацелі выявіцца і назвацца. Я пачаў ім у гэтым спрыяць — жывыя, выхапленыя з рэчаіснасці, назіранні і фонасемантыка літоўскай мовы пачалі знаходзіць узаемапаразуменне. У кожнай мовы свая рэчаіснасць, фонасемантыка літоўскай мовы адкрывала абсягі, якія не краналіся ні беларускай мовай, ні нямецкай, з якой я таксама меў справу, і я ўваходзіў у гэтыя абсягі з хваляваннем: яны мне былі нейкім чынам знаёмыя. Што яшчэ? А тое, што ім папярэднічала. Мае пераклады з літоўскай, вёсны паэзіі, перакладчыцкія семінары і даўняе, наша з табой, супрацоўніцтва. Ад цябе за колькі гадоў да таго, як яны пачалі ўзнікаць, у часе сумесных чытанняў у Літве я атрымліваў настойлівыя імпульсы: спрабуй… твары… пабудзь літоўскім творцам!.. Недзе, мабыць, у Бірштанасе, сказаў, што адчуў, — што ўваходжу ў размову з літоўскай мовай: літоўская мова пачала мне адкрываць свае зместы. Без гэтай узаемнасці літоўскія пункціры не змаглі б адбыцца».

Публікацыі напісаных па-літоўску пункціраў А. Разанава з'яўляліся ў часопісах, а затым выдавецтва «Homo liber» надрукавала «Літоўскія пункціры» асобнаю кнігай.

Кніга ўражвае прыгожай, багатай літоўскай мовай, паэтычным чуццём, здольнасцю ўбачыць, пачуць, адчуць нечаканыя суадносіны слоў. Літоўскае слова для А. Разанава — быццам скарб, знойдзены ў куфэрку. Пачутыя, выяўленыя паэтам сугуччы натуральна, нібы неўпрыкмет, адкрываюць глыбокія семантычныя сувязі слоў. Побач з сугуччамі, сэнсавымі звязкамі і алітэрацыямі ў кнізе нямала вобразных выразаў, арыгінальных метафараў: сцежку цыруе трава, дождж ідзе па рацэ, сонца тчэ палатно прыцемак і інш. Радуюся, што выдатны, блізкі да нас суседствам, беларускі паэт Алесь Разанаў стаўся і літоўскім творцам.

**Альма Лапінскене, літаратуразнаўца, перакладчыца**

## Чароўнасць кароткага жанру

Асоба Алеся Разанава выключная ў літаратурных сувязях Літвы і Беларусі. Гэта цягам дзесяцігоддзяў ён даказаў перакладамі літоўскай паэзіі, драматургіі і прозы на беларускую мову, гэта яшчэ раз пацвердзіў створанымі на літоўскай мове «Літоўскімі пункцірамі». За ягонае культурнае амбасадарніцтва тры гады таму паэт атрымаў ганаровую ўзнагароду — «Зорку дыпламатыі Літвы».

Выявіўшыся як творца самабытных аўтарскіх жанраў у беларускай паэзіі, А.Разанаў і ў літоўскай паэзіі стварыў самабытны «пункцірны» жанр — не раўнуючы, літоўскае хайку.

У «пункцірах» надзвычай важныя ўнутраныя сувязі слоў, алітэрацыі: *Jaunatis ragina?../Sraigė/Iškelia ragelius (Маладзік заахвочвае?.. Слімак выстаўляе рожкі).*

«Паэтычныя этымалогіі» ўражваюць натуральным тонкім чуццём і вобразнасцю.

З зычных, галосных і іхніх повязяў А. Разанаў творыць алхімію літоўскай фанетыкі: *Ar dar?/Ar gana? –/Dargana/Gano pievą (Ці яшчэ? Ці годзе? — Непагадзь пасвіць луг).*

Толькі паэт «з боку», пэўна, так здольны пачуць літоўскую мову, яе шэпты і падшэпты: *Patenkintas vapa/puodas:/kvapu/bulvės užpildo butą (Задаволены, мармыча гаршчок: пахам бульбы напоўніў кватэру).*

Можна сцвярджаць, што ў літоўскіх «пункцірах» А. Разанаў гуляе з мовай, дэканструктуе яе вальней, чым у напісаных на роднай мове «пункцірных» аналагах, дзе дамінуе лагічнае разгортванне думкі.

Сустракаецца ў «пункцірах» і простанародная лексіка: *«žemė / kvošisi po žiemos» (зямля ачуньвае пасля зімы);* сустракаюцца і каларытныя рэдкія словы: «kaukaras» — узгорак, «viešmuo» — ручаіна, «lizduojasi» — віе гняздо, «viešniauja» — гасцюе.

Не пазбягае Разанаў і наватвораў: «lašti» (цэдзіцца па кроплях), «prabangauja» (раскашуе).

Другі від «пункціраў» — гэта каляровыя, пірасманеўскія малюнкі: *«išdidžiai / tešmenį neša karvė» (ганарыста вымя нясе карова) , «ežiukas/žiūri dygliais» (вожык дзівіцца іголкамі), «neša/moteris glėbyje/moliūgą» (нясе жанчына ў абярэмку гарбуз).*

Пейзажнасць «Літоўскіх пункціраў» універсальная і разам з тым паўночна прыгашаная.

Вось яно, Вялікае Княства Паэзіі Алеся Разанава: літоўска-беларускія краявіды з пеўнямі, жаўрукамі, буслямі. Паэтычны рух у гэтых вершах падкрэслена павольны, штодзённы, ён паступова ўводзіць нас у змену дня і ночы, у плынь пораў года.

Алесь Разанаў у «пункцірах» вельмі суладна гутарыць з прыродай, жывыя і нежывыя прадметы ў яго вершах узаемадзейнічаюць і размаўляюць: *Galbūt nubusi?.. –/Lietus/akmenį įkalbinėja (Можа, абудзішся?.. — Дождж угаворвае камень).*

У «Літоўскіх пункцірах» А. Разанаў плённа спалучае традыцыю і мадэрн, перадаючы адвечныя тэмы прыроды мінімалістычнымі формамі і нечаканымі слоўнымі спалучэннямі. Радкі, сфармуляваныя ім, захапляюць сваёй ашчаднасцю і змястоўнасцю:

*Stiebiasi pienė,/stebisi:/jau debesy (Цягнецца дзьмухавец, дзівуецца: ужо ў небе?)*

Можна смела сцвярджаць, што Алесь Разанаў, застаючыся ў абсягах традыцыйнай лірыкі, адгарнуў новую старонку кароткага жанру — спачатку ў беларускай, а тады і ў літоўскай паэзіі.

**Эвалдас Ігнатавічус, паэт, дыпламат**

**Пераклала з літоўскай Галіна Лінкевіч**

# Яблыкі па́даюць



Барыс ПЯТРОВІЧ



Фота pexels.com

### Размова, пачутая ўчора

— Вы даўно былі ў Хойніках?

— Ды колькі тыдняў мінула ўжо…

— А я сёння вярнуўся адтуль… Ці ведаеце вы — там з'явіўся новы бізнэс.

— Не, не чуў. Цікава. Што?

— Збіраюць сонца ў бутэлькі, вязуць праз блізкую мяжу і прадаюць на Украіне.

— Не можа быць! На Украіну вязуць? Ды там і свайго такога дабра хапае. Вось каб у Расію, на поўнач, ды нашыя сонечныя яблычкі. Можа, і паверыў бы.

— Ну дык у тым і цымус: лёгка прадаць тое, чаго ў кагосьці няма, а паспрабуй…

— Не, — перабіваючы, — не веру, тут нешта не тое… Хахлы не такія, каб купіць тое, чаго ў іх саміх хапае — толькі пакуй у пляшкі ды збывай маскалям… Думаю, купляюць яны, калі і купляюць, дык каб перапрадаць яшчэ даражэй.

— Так і ёсць… Не паверыш — у Турцыю.

— У Турцыю?.. Ды там і свайго такога дабра нямерана… Вось там ужо сонца дык сонца!

— Ну не скажы, у нас сонца асаблівае. Такога нідзе больш няма. Гэта мы самі не заўважаем, а замежнікі… скупляюць пад корань… І п'юць.

— П'юць?

— Ну а як жа. Ім жа, мусульманам, гарэлку піць нельга. А сонца — можна.

— А-а-а… Дык яно хмельнае… Як самагон. А я і не здагадаўся…

— Не, самагон тут ні прычым. Як па мне, дык — абсалютна звычайнае. Але ў іхніх рэстаранах каштуе страшна дорага. Бо ў іх такога няма. І думаюць экспартаваць у іншыя краіны. Ужо і ў Хойнікі прыязджалі, каб наўпрост скупляць, а не праз украінцаў. Кажуць, хахлы ўдвая-ўтрая кошт падвышаюць. А яны гатовы нашым тыя грошы плаціць.

— Слухай, а на Еўропу не спрабавалі сонца пастаўляць? У пляшках. Там жа столькі туркаў жыве… У адной Германіі мільёны…

— Не ведаю.

— О, як бы іхнія кебабы пад нашае сонейка пайшлі…

— Во, бачыш? Ніхто пакуль не здагадаўся. Кажу ж — новы бізнэс… Твая ідэя. Едзь у Хойнікі, скупляй бутэлькі з сонцам ды вязі ў Германію… Азалаціўся мігам.

— Давай разам. Няёмка мне — ты ж першы даведаўся…

— Не, не магу я. У мяне ўжо з Польшчай кантракт… Хоць бы іх забяспечыць паспець.

— Дык а што мы — саматужна, у валізках праз мяжу будзем цягаць… Зарэгіструем фірму, зафрактуем фуру…

— Ты што? Там столькі сонца не будзе, калі фурамі пачнуць вывозіць…

— Дык а чаму толькі з Хойнікаў? З усёй Беларусі можна. Што там асаблівага…

— У тым і справа, што толькі з Хойнікаў. Спрабавалі з Нароўлі, з Брагіна, з Мазыра — зусім не тое… Толькі з Хойнікаў. А найлепшае сонца ўвогуле ў Вялікім Боры — вёска такая непадалёку ад Хойнікаў.

— Ведаю. Бываў там. Дзіўная вёска. Здаецца, нічога асаблівага — звычайнае паляшуцкае — палескае — вялікае сяло, а разам з тым…

— Што разам з тым?

— Як гэта сказаць… Ёсць у тых мясцінах сіла, якая ідзе проста з зямлі і… з сонца.

— Вось-вось… і ты заўважыў.

— Ды не заўважаў, калі быў там. Проста цяпер згадаў і… адчуў. Згадаў і адчуў.

— А што ты там рабіў.

— Сябар мой адтуль. Быў у яго ў гасцях. Ды хто толькі не родам адтуль. Адных пісьменнікаў… А мастакі, музыкі, прафесары, выкладчыкі… Цьма з той вёсачкі… дзясяткі. Я тады яшчэ падумаў: нібыта глуханань балотная — і на табе…

— Пэўна, і сапраўды ёсць у той зямлі — і ў таго сонца — сіла нейкая невядомая, моц… І хто вып'е пляшачку іхняга сонца — глядзіш, лепшым стане. Ваяваць яму не захочацца, адкіне зброю, асадку возьме і вершык напіша, пэндзаль — і карціну намалюе…

— Дык трэба па ўсім свеце бясплатна рассылаць тое сонца, а ты кажаш — бізнэс…

— Бясплатна браць ніхто не будзе. Свет цяпер такі. Падвох убачыць. Скажуць: бясплатны сыр толькі ў пастцы, у мышалоўцы…

— Сапраўды. Я й не падумаў. Але — гэты не горшы варыянт, калі на добрай справе можна яшчэ і зарабіць. Адкладваю ўсё і заўтра ж еду туды. Па сонца… Каб свет лепшым рабіць… Без вайны каб…

### «Грэшнікі»

ізноў праязджаю паўз гэтую вёску, у якой не спыняўся ні разу, але ведаю пра яе шмат, пачынаючы з ейнай амаль княскай даўняй гісторыі; учора тэлефанавала мама і сказала, што хлопец, які нядаўна прыйшоў з турмы, колькі дзён таму засёк тут сякераю трох жанчын, дакладней бабуль-пенсіянерак, з адною з іх ён жыў, а дзве іншыя былі суседкамі і штовечар прыходзілі да іх «на тэлевізар», а папросту — выпіваць і гуляць у карты

што падштурхнула хлопца на такое страшнае забойства — невядома: гарэлка, сварка — так, але гэта відавочна спрошчанае тлумачэнне, бо яны выпівалі не раз і да таго, бывала, напіваліся так, што нават выйсці з хаты не маглі і ляжалі ў ёй упокат на падлозе

значыць, у той вечар выпілі мала, не хапіла, каб адключыцца

значыць, языкі яшчэ працавалі і чаплялі адно аднога, заводзілі, выводзілі з сябе і давялі да сякеры…

я не магу аднавіць карціну таго вечара — гэта справа следчых, — я не хачу рабіць гэта, я еду міма вёскі, паўз пустыя хаты, еду і думаю: я тут часта праязджаў, але чамусьці ніколі не бачыў людзей, я толькі ведаў, што яны ў ёй ёсць, вось жа і выпадак гэты з забойствамі пацвярджае: людзі тут жывуць — хвалююцца, кахаюць, забіваюць…

так, я ніколі не бачыў на адзінай вуліцы гэтай вёскі людзей, тым болей дзяцей, нават летам, калі яны павінны прыязджаць да сваіх дзядоў і бабулек на канікулы… вёска гэтая страшная сваёю пустатою і ўлетку: калі ўсё вакол буяе, квітнее, тут ціха і шэра — шэрае дрэва дамоў, шэрыя дошкі платоў, шэрыя старыя яблыні і грушы — амаль без лісця і зусім без пладоў, шэрая ад нечапанага, прыгнанага з палёў, пылу трава ўздоўж шэрае сцяжыны…

таму я ніколі тут і не спыняўся — пралятаў на хуткасці

ага, сцяжына ёсць… значыць, нехта ж па ёй ходзіць, нехта яе пратаптаў

ці мо цяпер больш дакладна будзе — хадзіў? бо хлопец той (так, хлопец, яму ўсяго дваццаць чатыры гады…) у турэмным ізалятары, а бабулек забітых якраз учора пахавалі

што гэта робіцца ў нашых вёсках — думаю я, гледзячы на шэрыя хаты, што робіцца? я пражыў у роднай вёсцы першыя дваццаць гадоў і не памятаю, каб нехта карыстаўся замком — хаты не зачыняліся, і не было выпадку, каб нехта ў кагосьці штосьці ўкраў

а ўжо забойства…

вёска нашая вялікая, на той час больш за паўтары тысячы жыхароў, але за тыя дваццаць гадоў у турму селі толькі некалькі чалавек

за што:

адзін сварыўся з жонкаю, зайшоў сусед, заступіўся за жанчыну, муж у гарачцы накінуўся на яго і прапароў віламі бок (якраз сена ў хлеў закідаў) — пяць гадоў турмы; другі на машыне збіў пешахода — цёмначы не заўважыў (пералом рукі і пары скабаў): два гады зняволення; хлопцы «пажартавалі» — бабулькі неслі вязанкі саломы, назбіранай на калгасным полі, а пэтэвушнікі ззаду падпалілі іх, бабулькі спачатку ішлі ды радаваліся: ношка лягчэе, а потым, калі прыпякло, ляманту нарабілі, пералякаліся страшэнна — хлопцам па два гады «хіміі»; яшчэ адзін пасля танцаў прычапіўся да маладой настаўніцы, прыціснуў да плота, не пускаў у хату, тая ў міліцыю — тры гады за «спробу згвалтавання»… і г. д., і да т. п.

а тут, за адзін год столькі дзікіх, невытлумачальных здарэнняў: трое мужчынаў па трыццаць гадоў згвалтавалі бабулю сямідзесяцігадовую — усе жанатыя, маюць дзяцей, і што ім трэба было? згвалтавалі п'яныя, а назаўтра раніцай, працверазеўшы, адзін павесіўся ад сораму, а двое другіх цяпер у турме… дзяўчына, дваццаць гадоў (не адважваюся назваць жанчынай), двое дзяцей, забіла мужа — заспеў з «каханкам», накінуўся, сцягнуў яго, пачаў валтузіць на парозе, а яна ззаду, сякерай, ляжала ля грубкі, засекла мужа… навошта? сама ў турму, дзеці — у інтэрнат

нешта зусім не нашае, не беларускае за ўсім гэтым… адкуль яно? спадчына імперыі, якая праявілася такім чынам? дык імперыі той даўно няма… чаму ж раптам столькі злосці ды нянавісці абудзілася ў нашых людзях і ўзбуяла? не сказаць, каб раней не пілі — пілі… і напіваліся, але за нажы-сякеры не хапаліся,

было — сварыліся, лаяліся крыўдна і балюча, сваякоў да сёмага калена згадвалі, было — біліся, нават каламі, усім, што пад руку патрапіць: за зямлю, за мяжу, за здраду, але ж не забівалі… паранўў віламі з нецейкі, дык не кінуўся ж дабіваць, а ратаваць пачаў…

гляджу на хаты шэрыя, праязджаючы паўз іх, і не знаходжу адказу на свае пытанне… ідзе вайна без вайны… вайна з самімі сабою… навошта? чаму? за што? хто вінаваты? хто распачаў яе і хто скончыць?

няма мне адказу

ніколі раней не спыняўся я тут, у гэтай вёсцы, і не буду спыняцца

### Туман

чужымі дарогамі хадзіў ты доўга

і так і не знайшоў свайго шляху

не напаткаў яго, не набрыў на яго, і не таму, што ішоў ты туманам шызым, як твае жыццё

не, не толькі туманам

было — свяціла сонейка ўдзень, а ноччу спрыяла поўня, і ноччу, бывала, ты бачыў далей, чым удзень

бачыў усё, бачыў шмат, толькі так і не згледзеў наперадзе ці поруч сваёй дарогі

так і прайшло жыццё ў бадзяннях па чужых шляхах

і толькі калі да твайго ложка падышла бабуля з касою, ты нясмела спытаўся ў яе: ці не памылілася яна — ці не йшла да іншага, а заспела яго на чужой дарозе?

адказу ты не пачуў

але зразумеў, паспеў зразумець, што ўсё ж… што напрыканцы…

…збіўся з чужое дарогі

### Яблыкі падаюць

Вочы шырока расплюшчыліся — не ў здзіўленні, а ў жалобе…

Не, больш дакладна — у жаху. Што ў гэтым выпадку было адным і тым жа: здзіўленне, жалоба і жах — адначасова — зрабілі твар каменным, гіпсавым адбіткам, маскаю таго чалавека, які цяпер назіраў за мною. А я, падскочыўшы, завіс у паветры і не апускаўся на зямлю: застыў, як на фотаздымку. Мне было добра так — раскошна, — да таго ж, я злавіў яблыка ў палёце і, адкусіўшы, заплюшчыў вочы ад асалоды. Я не адчуваў, што вішу ў паветры, мне здавалася, што я стаю на зямлі. І толькі позірк незнаёмца, немы крык, застылы на ягоным твары, вырачаныя вочы і гіпсавая маска, якія я ўбачыў праз нейкі час, прымусілі мяне агледзецца. І тут я заўважыў, што вішу, лунаю ў паветры, што паміж маімі нагамі і зямлёю нічога няма — пустэча, якую хочацца памацаць, каб упэўніцца, што там і сапраўды пуста: бясколернае шкляное паветра, а не празрысты зэдлік. Я выпусціў надкушаны яблык — ён упаў, пакаціўся і спыніўся пад маімі нагамі. Калі я цяперака апушчуся ўніз, я расціснy яго, раструшчу, а мне так не хочацца гэта рабіць, я з такім задавальненнем лепш бы з'еў яго, калі б ён не ўпаў у бруд між маіх слядоў. Нічога, яблык можна і памыць пад кранам, пад струменем халодна-халоднай вады, якая аддае іржою ўсіх трубаў, праз якія дайшла да майго дома… Я заўважаю, што думаю лішняе, што проста цягну час, бо трэба апускацца на зямлю… А як? Я даўно апусціўся б, калі б мог. «Яблык упаў, — думаю я, — значыць, зямное прыцягненне ёсць, значыць, у тым свеце, ад якога я адштурхнуўся, усё нармальна… Так, там, менавіта — там, усё нармальна… Нар-маль-на…» — я запнуўся, бо ўбачыў зусім недалёка ад яблыка і яблыні… сябе, толькі не ў паветры, а на зямлі, на траве, у незвычайнай, няправільнай, нязручнай паставе. Я згадаў, хто той чалавек з застылай маскай твару. Я зразумеў нарэшце, чаму здзіўленне-жах-жалоба застылі на ягоным твары.

Я бачыў яго, гэтага чалавека, ён бачыў мяне, але не таго, які назіраў за ім з вышыні, з паветра, а таго, хто ляжаў на зямлі, у траве, у такой нязручнай, ненатуральнай, няёмкай паставе…

Яшчэ адзін яблык упаў з яблыні і пакаціўся да ног… Маіх? Ягоных?

…І тут я паляцеў…

# Промні святла



Людміла СІМАНЁНАК

* * *

*Нібы ў чатыры творачы рукі —*
*Мы з Богам, дабраслiўцы ды зладзеі —*
*Ўсё дадаем няроўныя радкі.*
*Тлусцее кніжка. Вокладка старэе.*

*Падсумаваўшы высілкі усе*
*Сутворчасці спрадвечна-небяспечнай,*
*Рыхтуецца выданне пакрысе*
*Пад крыжам стаць у шыхт бібліятэчны.*

* * *

*Ёсць душа —*
*як сцяна непахісна-глухая,*
*Што ў сябе ані промня святла*
*не пускае,*
*Скарбы ў ёй ці лайно —*
*аніяк не спазнаеш,*
*Покуль лавай эмоцый*
*сцяну не зламаеш.*

*Ёсць душа як люстэрка —*
*любуйся сабою,*
*Не шукай дачынення*
*з паверхняй чужою,*
*Каб на вострае шкло*
*ў парыванні ахвочым*
*Не скалечыць навечна*
*далоні і вочы.*

*Ёсць душа-дыямент —*
*не сапраўдны, дык штучны,*
*Дзе на кожнае грані*
*агеньчык выключны.*
*Тут ад кропкі пагляду,*
*прадбачлівы дружа,*
*Выпадае, пашчасціць табе*
*ці не дужа.*

*А бывае, знаходзіш душу,*
*як крыніцу,*
*Дзе струменьчык святла*
*да паверхні бруіцца,*
*Што натхнёна напоіць*
*і вусны, і сэрца,*
*Дасць у спёку астыць,*
*а у сцюжу сагрэцца.*

*Ды няшмат будзе чыстых*
*крыніц ля дарогі —*
*Любяць чэрці ў іх мыць*
*капыты або рогі…*

* * *

*Дарэмна хваля светлага натхнення*
*Змывае асцярогу з галавы,*
*Бо наш Парнас — у багне пад карэннем,*
*Забыты, непатрэбны, ледзь жывы.*

*Майго гнязда галінка не ўтрымае,*
*Тупым сярпом спадзевы абкашу.*
*Цень прышласці паціху накрывае*
*Зняверана-спакойную душу.*

*Без мары аб прытулку ці начлезе*
*Прашу забыцца кінутай адну,*
*Як зрэзаную кветку, што не лезе*
*Ў часовую бліскучую труну.*

* * *

*На доўгі век ці на хвілінку*
*У небе крэслячы сляды,*
*Яшчэ не ведае сняжынка,*
*З кім побач ляжа і куды.*

*Ці то пры полюсе ў сумёце*
*Заблішча зоркай снегавой,*
*Ці то ў няскончаным палёце*
*Жывой абернецца вадой.*

*На нос шчаслівага дзіцяці*
*Або на пакрыва труны…*
*На чалавека як ні ўпасці —*
*Не датрываеш да вясны.*

* * *

*Ты дарэмна мяне пытаеш*
*Пра вытокі, шляхі, прычыны.*
*За люстэркам жыве чужая,*
*Невядомая мне жанчына.*

*Па-за срэбна-празрыстай сценкай,*
*Дзе прынад і вабнотаў многа,*
*У яе расхінутых зрэнках*
*Гінуць промні святла жывога.*

* * *

*Хваля віхляе, кружляе, пятлюе,*
*Хуткі фінал свой прадбачліва чуе,*

*Плынню хавае далёкія згадкі,*
*Бляклых пялёсткаў палошча ападкі,*

*Гладзячы светла-зялёныя травы,*
*Плаўна кладзецца на бераг смуглявы.*

*След бесклапотна мінулае долі*
*Лёгка ў нябыт адплывае без болю.*

* * *

*Б'е струмень па начоўках —*



Малюнак В. Нагорнай

*звініць у вушах*
*І дрыготкаю рук аддаецца.*
*Дамавік адвячоркам*
*узлазіць на дах*
*І адтуль, нечапаны, смяецца.*

*Не баіцца старэнькай антэны крыжа*
*І цікуе ў выдатным настроі:*
*Бліскавіцы халодным мільганнем нажа*
*Цёмна-сіняе покрыва крояць.*

*Мае час, пазіраючы ўніз на краі,*
*Падлічыць у прамоклым сутонні,*
*Колькі кінутых рэчаў за ноч ручаі*
*На аздобу русалкам прыгоняць.*

* * *

*Водсвет поўні з-за хмары міргнуў угары*
*І, ў шуканні дачаснай магілы,*
*Павярнулі раку да вытокаў вятры,*
*З кожным подыхам трацячы сілу.*

*Затрымаць маладосць ды каханне яшчэ*
*На паўночы амаль удалося.*
*З першым промнем да мора рака пацячэ*
*З відарысам таго, што збылося.*

* * *

*У акіянскай русалкі як трэба:*
*Жэмчуг, каралі ды золата з неба,*
*А ў рачной не хапае пялёсткаў*
*Шчыльна ўкрыць чалавечыя косткі.*

*Гонячы зайздрасць да пышнай сяброўкі,*
*Ціха ўздымае кругляявыя броўкі,*
*Леташніх гуляў хавае правіны:*
*Цягне шкілет у бузу-багавіння.*

*Стомлена чэша карэньчыкам косы,*
*Сочыць апошнія промні з нябёсаў,*
*Цешыцца плоткамі ў дне і сабою:*
*Хтосьці ж апоўначы йдзе над вадою…*

* * *

*Як мітусіць стракаты карагод,*
*Сачу з-за ценю сонная пагурка,*
*Нібы чужая, бо таму сто год*
*Праз злое слова сталася Снягуркай.*

*Наблізіцца, жахнуцца, адступаць*
*Ад берагу, дзе стылы вір бруіцца.*
*Ёсць рэчы, пра якія лепш маўчаць —*
*Прынамсі, да пары, пакуль маўчыцца.*

*Стаміўшыся бяздзейнасцю сваёй,*
*Вакол пагурка тройчы крутануся*
*І па-над незамерзлаю вадой*
*У лёгкім парыванні нахілюся.*

*Не прычакаўшы новую зіму,*
*Снег паплыве халоднаю ракою;*
*І, ўсцешаная, гэтыя лёс прыму,*
*Як лепшае, што збудзецца са мною.*

* * *

*Мой Цмок жыве ў глыбокім акіяне,*
*Куды з вышыняў промень не дастане,*
*І п'е струмень падводнае ракі,*
*І песціць неабдымныя бакі,*
*І жывіцца мільёнам трылабітаў —*
*Сучаснікаў гісторыі забытай,*
*Калі я валадарыла зямлёю,*
*Паловай мора, шчасцем і табою.*

* * *

*Непрыкметна штораз падыходжу сюды*
*Сілкавацца намерам прынадным:*
*Дакрануцца балюча-халоднай вады*
*І ступіць у яе неагляднa.*

*Кінуць выклік лагодна-разважнаму дню*
*У чаканні нязнанай пацехі,*
*І смяротную раптам спазнаць глыбіню*
*І няўменне трымацца паверхні.*

*Пасміхайся сабе. Ты, вядома, прывык*
*Да мігцення жаночых настрояў.*
*Пачакай-пачакай, мой сівы Вадзянік.*
*Я вярнуся. Я буду тваёю.*

* * *

*Лістота, як падраны парашут,*
*Вісіць у небе, тоячы трывогу.*
*На дне ракі імя тваё пішу,*
*Каб зоркі не заўважылі нічога.*

*Шчупак драпежна зыркае здаля,*
*А хваля — у віры травою круціць.*
*Нас не сурочаць неба і зямля,*
*Бо вецер дна не можа скаламуціць.*

*Русалка спачувальна падміргне,*
*Хоць, ведама, ёй справы дужа мала,*
*Ці хутка твань руку маю глыне,*
*Што неабачліва імя тваё пісала.*

# Вечны свет



Наталля БОНДАР-ГАЛАВАЧ

* * *

*Вецер.*
*Дождж.*
*Слота.*
*Ішоў чалавек па вуліцы.*
*Наўздагон за ім старасць,*
*туга, адзінота…*
*А тут яшчэ вецер…*
*Дождж…*
*Слота…*

**У Венецыі з Бродскім**

*(парафраз на тэмы)*

*Мае шпацыры з Бродскім па каналах*
*Венецыі самотнай і туманнай*
*Так значаць шмат.*
*І значаць вельмі мала,*
*Бо сварыцца за нашы стрэчы мама.*

*Ёй замінае розніца ва ўзросце.*
*Ну што там нейкіх дваццаць год ці болей?*
*Затое падыходзім мы па росце*
*І па заўсёднаму жаданню волі.*

*Яго і «э-э…», і «а-а…», як гук лагуны,*
*Як рыскі на прыціхлых водных хвалях.*
*Гайдаецца на іх старая шхуна,*
*Друкуюцца адвечныя скрыжалі.*

*Мне Одэна чытае ён і Фроста*
*У «Фларыяне».*
*Дольчы мы не елі.*
*Плануем яшчэ сёння да пагосту*
*На улюбёны востраў Сан-Мікеле.*

*Праз гукі песні тужнай гандальера*
*І крыкі-стогны чаек, шоргат качак,*
*І дух самога Дантэ Аліг'еры,*
*Ізвон касцёльны — плачам, плачам, плачам…*

*Што ў свет сплывуць бясконцыя нябёсы*
*Такім невычарпальным пульхным цудам,*
*І мы радкамі — вершамі ці прозай,*
*Гукаць аднекуль іх аднойчы будзем.*

*І што заўсёдны недзе тут пад горлам*
*Каляны ком. І ў вечным тым кружэнні*
*Слядкуе па пятах за намі гора,*
*І смерць бліжэй ужо, чым нараджэнне.*

*А мы ў пакутах цешым сябе казкай*
*Пра нейкага такога дабрадзея,*
*Жывем са спадзяваннямі на ласку,*
*На ласку, на жыццё і на надзею.*

*Нібыта вернуцца і вечны свет, і слава,*
*Удалы дзень, і будзе ўдосталь хлеба.*
*Нібы жыццё хіснецца крышку ўправа,*
*Як перад тым хіснулася — улева.*

*Венецыя не ведае марозу,*
*Ёй уласціва восеньская просінь.*
*Але я мерзну ў крушні на парозе,*
*І паліць, як заўжды, зашмат Іосіф.*

**Калі ты — Бог…**

*Мама ў дзяцінстве была сонцам.*
*З яе пачынаўся дзень.*
*Потым акенцам.*
*Яна адкрывала свет.*
*Потым ахоўнікам.*
*Вартаўніком, калі стала –*
*Злавала мяне.*
*Раздражняла.*
*Потым зусім яна быццам*
*патрэбна была, быццам не.*
*У час апошні яна стала Богам.*
*Сказаць бы…*
*Няма каму.*
*Але, быць можа, мама, калі ты — Бог,*
*Дык мяне чуеш?*

# Полацкая Акадэмія

**У першай палове XIX стагоддзя ў Літве-Беларусі быў не толькі Віленскі ўніверсітэт, але і іншыя вышэйшыя навучальныя ўстановы. Адна з іх — Полацкая акадэмія, што мела ўсе правы ўніверсітэта. У Полацку чыталі лекцыі вядомыя ў Еўропе і свеце педагогі, дзеячы навукі і мастацтва. Нягледзячы на нядоўгі час існавання, гэтая навучальня выхавала нямала знакамітых вучоных, пісьменнікаў, мастакоў. Невыпадкова сучасны Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт лічыць сябе пераемнікам Акадэміі, а студэнты некаторых яго факультэтаў займаюцца ў былых акадэмічных карпусах.**



*Уладзімір АРЛОЎ*

### Калегіюм Таварыства Ісуса

Папярэднікам Акадэміі быў Полацкі калегіюм, які адчыніў дзверы ў 1581 годзе. Навучальню стварылі манахі Таварыства Ісуса (так афіцыйна называецца каталіцкі Ордэн езуітаў).

За савецкім часам пра езуітаў нельга было пісаць або казаць нічога добрага. Іх называлі цемрашаламі, прыпісвалі ім самыя розныя грахі ды злачынствы. Насамрэч Таварыства Ісуса зрабіла ў гісторыі шмат карыснага: адчыняла друкарні, аптэкі і шпіталі, паспяхова змагалася з эпідэміямі, займалася дабрачыннасцю. Але галоўная заслуга Ордэна езуітаў — стварэнне самых перадавых для таго часу навучальных устаноў. Славуты англійскі філосаф Фрэнсіс Бэкан зазначыў: «Бярыце прыклад з езуіцкіх школ, бо лепшых не існуе на свеце».

У Полацку, як і паўсюль, за навучанне ў езуіцкім калегіюме не бралі платы. Туды прымалі дзяцей шляхты і духавенства, месцічаў і сялянаў. Ад шкаляроў не патрабавалася абавязкова быць каталіком ад нараджэння або мяняць веру. У калегіюме ужо на пачатку ягонай дзейнасці аддалі сыноў нават праваслаўныя полацкі епіскап Феафан і ваявода Мікалай Дарагастайскі, які належаў да пратэстантаў-кальвіністаў.

Парог калегіюма вучань пераступаў у дзесяць гадоў. Ён ужо мусіў умець чытаць і пісаць ды быць трохі знаёмым з лацінай, што лічылася у тагачаснай Еўропе моваю навукі. Першай прыступкай да вярэшыняў ведаў была гімназія. Навучанне ў малодшых класах, пакуль хлопчыкі не зусім добра валодалі лацінскай мовай, тады вялося па-беларуску.

У гімназіі займаліся шэсць гадоў. За гэты час трэба было так дасканала авалодаць лацінскай і старажытнагрэцкай мовамі, каб вольна чытаць на іх творы старажытных гісторыкаў Лівія і Плутарха, лісты красамоўца Цыцэрона, вершы Авідзія і Катула, «Іліяду» Гамера. У калегіюме вывучаліся таксама арыфметыка і геаметрыя, фізіка і астраномія, гісторыя і геаграфія, логіка і музыка.

Выпускнікі гімназіі мелі магчымасць займацца ў родных сценах далей: тры гады вывучаць у калегіюме філасофію або чатыры гады — тэалогію (багаслоўе).

### «Імператары» і «аслíная лава»

Вучыцца было нялёгка, але надзвычай займальна. Паміж вучнямі і класамі бесперапынна ішло цікавае, творча наладжанае спаборніцтва. Класы дзяліліся, напрыклад, на «грэкаў» і «рымлянаў». Калі «грэк» не мог адказаць на цяжкое пытанне выкладчыка, падымаўся з месца роўны яму па здольнасцях «рымлянін», і так працягвалася, пакуль не гучаў правільны адказ.

Захапляла навучэнцаў і асабістае спаборніцтва. У ім пераможца мог заваяваць медаль, кнігу ці абразок або ўрэшце атрымаць ганаровае званне «імператара». А вось тыя, хто вылучаўся нядбайнасцю, выпраўляліся, прысаромлена панурыўшы галаву, на «аслíную лаву». Зацятых гультаёў звычайна вянчалі саламянымі каронамі, якія нельга было здымаць, пакуль не выправішся.

Разам са звычайнымі дысцыплінамі шкаляры спасцігалі правілы паводзін сярод людзей рознага стану — ад простага люду да арыстакратыі. Шмат увагі надавалася фізічнаму выхаванню: гульням на свежым паветры, плаванню, верхавой яздзе, фехтаванню.

Пры Полацкім калегіюме з 1585 года існаваў тэатр. Спектаклі звычайна прымяркоўвалі да Каляд, Вялікадня, да пачатку і заканчэння навучальнага года. Шкаляры выходзілі на сцэну ў п'есах на антычныя і біблійныя тэмы, на сюжэты з айчыннай гісторыі. Нярэдка пастаноўкі прысвечваліся падзеям з жыцця горада і калегіюма, і гледачы маглі пазнаць у акторах самых сябе. Тэатральныя паказы ў тыя даўнія часы адбываліся пераважна на лацінскай мове, але часам героі гаварылі і па-беларуску. Спектаклі суправаджала музыка ў выкананні створанага ў калегіюме аркестра.

**Яскравы след у гісторыі Полацкага калегіюма і ўсёй Літвы-Беларусі пакінуў вучоны і адзін з кіраўнікоў Ордэна езуітаў славенец Габрыэль Грубэр. Ён атрымаў бліскучую адукацыю ва ўніверсітэтах Граца і Вены**



Габрыэль Грубэр — генерал Таварыства Ісуса

### Сабор святога Стэфана

Архітэктурнай славутасцю Полацка стаў збудаваны езуітамі мураваны сабор святога Стэфана. Храм узнёс свае вежы на шэсцьдзясят метраў і запанаваў над горадам. Адну з вежаў упрыгожыў гадзіннік з меладычным боем, які адлічваў кожную чвэрць гадзіны.

Поруч з беларускімі майстрамі аздабленнем сабора займаліся італьянскія майстры. Вернікаў уражвалі велічныя мармуровыя калоны і цудоўныя абразы. Некалькі з іх намаляваў у Вероне выдатны мастак Сальватор Роза. У сценах храма гучала музыка магутнага аргана.

Да канца XVIII стагоддзя каля сабора святога Стэфана паднялося некалькі дзясяткаў мураваных будынкаў. Там месціліся друкарня, кнігарня, кузьня, шпіталь, аптэка, фармацэўтычная лабараторыя і сушыльня для зёлак, пякарня, бровар і медаварня, разнастайныя майстэрні і стайні. Разам з навучальнымі карпусамі, дамамі для святароў, выкладчыкаў і студэнтаў, з музеем і карцінай галерэяй, з багатым батанічным садам усё гэта было сапраўдным горадам у горадзе, прыстасаваным для самастойнага жыцця.

### Славутыя ва ўсёй Еўропе

Апрача Полацкага калегіюма на землях былога Вялікага Княства Літоўскага існавалі яшчэ болей за дваццаць такіх навучальняў: у Вільні, Гродні, Берасці, Менску, Магілёве, Слоніме, Слуцку, Смаленску, Воршы, Пінску, Нясвіжы, Дынабургу (Дзвінску), Бабруйску... Аднак менавіта Полацкі калегіюм, дзе навучалася блізу трохсот студэнтаў, лічыўся сярод іх найбольш значным. У сярэдзіне XVIII стагоддзя ён даваў адукацыю, якая мала адрознівалася ад універсітэцкай.

Сярод выкладчыкаў калегіюма былі асобы, знаныя ва ўсёй Еўропе. Тут чытаў лекцыі філосаф і паэт, «хрысціянскі Гарацый» Мацей Казімір Сарбеўскі. Ягоныя полацкія лекцыі леглі ў аснову славутых трактатаў «Пра дасканалую паэзію», «Пра камедыю і трагедыю», «Пра жарт і дасціпнасць». Якраз у Полацку Сарбеўскі напісаў кнігі «Багі паганскіх народаў» і «Паэтыка», якія таксама чакала еўрапейская слава.

Навуку красамоўства — рыторыку — выкладаў у Полацку Жыгімонт Лаўксмін. Пасля выдання ў Вялікім Княстве ягонай кнігі «Практычнае красамоўства» выходзіла ў Вене, Мюнхене, Празе, Франкфурце ... «Мова — гэта адлюстраванне душы, — пісаў Лаўксмін. — Па мове і нас пазнаюць, і мы пазнаём кагосьці. Трапна сказана: «Той збан не купляюць, які не звініць»».

Полацкіх студэнтаў захаплялі сваімі лекцыямі будучы рэктар Галоўнай школы Вялікага Княства, астраном і матэматык Марцін Пачобут-Адляніцкі. Тут працаваў прафесар парыжскага Сарбонскага ўніверсітэта, гісторык і знаўца моваў Дзід'е Рышардо ды шмат іншых знакамітасцяў.

Такія педагогі і вучоныя выхоўвалі годных вучняў. Полацкія выкладчыкаў з удзячнасцю згадваў адзін з найлепшых беларускіх мастакоў першай паловы XIX стагоддзя Валянцін Ванькові. У яго спадчыне выдатныя партрэты Адама Міцкевіча, Напалеона Банапарта, Тамаша Зана. У горадзе над Дзвіной спасцігаў таямніцы мастацтва расейскі скульптар і жывапісец Фёдар Талстой. Каб даць дзецям добрыя веды, расейская арыстакратыя часта прывозіла іх у Полацак.

У Полацку вучыліся будучы гісторык і археолаг Канстанцін Тышкевіч, пісьменнік і гісторык Нікадым Мусніцкі, які напісаў некалькі п'ес для тэатра роднага калегіюма. У энцыклапедыі ўвайшлі імёны філосафа, прафесара Віленскай акадэміі Караля Карыцкага і ягонага калегі Францішка Папроцкага, што ўзначальваў у Вільні акадэмічную друкарню і быў рэдактарам «Літоўскага кур'ера» — першай у Вялікім Княстве газеты-тыднёвіка. Выпускнік калегіюма Ян Баршчэўскі стаў выдатным пісьменнікам.

### Габрыэль Грубэр

Яскравы след у гісторыі Полацкага калегіюма і ўсёй Літвы-Беларусі пакінуў вучоны і адзін з кіраўнікоў Ордэна езуітаў славенец Габрыэль Грубэр. Ён атрымаў бліскучую адукацыю ва ўніверсітэтах Граца і Вены, дзе з аднолькавым поспехам вывучаў шматлікія навукі і мастацтвы: філасофію і тэалогію, матэматыку, фізіку і механіку, астраномію, жывапіс і архітэктуру. Грубэр атрымаў навуковую ступень доктара медыцыны і выдатна валодаў дзесяццю мовамі. Гэта быў адзін з самых адукаваных людзей у тагачаснай Еўропе. Здавалася, немагчыма было знайсці такую галіну чалавечай дзейнасці, у якой прырода не надзяліла б прафесара Грубэра талентам. Нават да Пецярбурга данеслася слава не толькі пра Грубэра-вучонага, але і Грубэра-выдатнага кулінара.

У Полацку айцец Габрыэль выкладаў механіку, эксперыментальную фізіку, архітэктуру і маляванне. Ён марыў ператварыць навучальню ў другі пасля Віленскага ўніверсітэт на землях былога Вялікага Княства і настойліва ішоў да гэтай мэты. Рупліваcцю прафесара Грубэра і паводле ягонага праекта для калегіюма збудавалі новы трохпавярховы корпус. Там знаходзіліся тры фізіка-механічныя, астранамічны, мінералагічны, хімічны кабінеты і архітэктурная зала,

абсталяваныя на роўні ўніверсітэцкіх.

Студэнты вялі назіранні зорнага неба праз перадавы для таго часу тэлескоп даўжынёю два з паловаю метра. Для фізічных эксперыментаў прызначаліся тры электрычныя машыны і вялікі электрафор, з дапамогай якога атрымлівалі электрычнасць. Мінералагічны кабінет знаёміў з узорамі горных парод, каштоўных камянёў, металаў, акамянелымі парэшткамі жывёлаў, рыб і раслін. У архітэктурнай зале, дзе студэнты займаліся маляваннем, захоўваліся дзясяткі мадэляў і копій будынкаў, мастоў, калонаў розных эпох.

У адным з механічных кабінетаў непадрыхтаванаму наведніку магло здавацца, што ён трапіў у каралеўства дзівосаў. Па зале ездзіў у вазку жалезны старажытнарымскі бог кахання Купідон. У краме гандляваў купец-аўтамат з металу, побач граў на клавесіне механічны музыка. А зірнуўшы ў вакно з адмысловым люстэркам, можна было неспадзявана ўбачыць самога сябе на крыжы пад званіцаю базылянскага манастыра. Аўтарам большасці з гэтых механізмаў і вынаходак быў сам прафесар Грубер.

Дзякуючы Габрыэлю Грубэру і ягоным аднадумцам пры канцы XVIII стагоддзя Полацкі калегіюм дасягнуў роўню сапраўднай вышэйшай навучальнай установы. Там вывучалі польскую, беларускую, расейскую, французскую, нямецкую, лацінскую і грэцкую мовы. Апрача ранейшых дысцыплін, у праграме былі тэарэтычная і практычная механіка, эксперыментальная фізіка, вышэйшая матэматыка, вайсковая і цывільная архітэктура, тэорыя жывапісу, псіхалогія, этыка.

## Рубенс і механічная галава

Калегіюм ганарыўся карціннай галерэяй і музеем, якія таксама адчыніў Габрыэль Грубэр. Наведнікі захоплена спыняліся тут каля карцін Пітэра Паўля Рубенса «Смерць Архімеда» і «Пошукі Архімедавай магілы». Галерэя мела вельмі добрыя копіі з твораў знакамітых Рафаэля і Тыцыяна, багатую калекцыю партрэтаў герояў еўрапейскай гісторыі, карціны самога Грубэра. Ён жа размаляваў сцены музея прыгожымі фрэскамі.

Найкаштоўнейшай часткаю музейнай экспазіцыі была калекцыя старажытных манет, што займала сем вялікіх шкляных вітрын. Побач захоўваліся даўнейшыя рукапісы, цікавыя археалагічныя знаходкі, зброя розных плямён і народаў, велізарная калекцыя ракавін.

Але галоўным дзівам калегіюма лічылася створаная полацкімі механікамі на чале з Грубэрам механічная галава. У адной з музейных залаў высока ў сцяне была ўштукаваная галава старога з сівымі валасамі. Галава рухалася, вочы старога глядзелі то лагодна, то з прыхаванай усмешкаю, то сувора і пагрозліва. Ды найперш галава здзіўляла, захапляла і палохала наведнікаў тым, што размаўляла. Манах-экскурсавод прапаноўваў на любой мове задаць галаве любое пытанне, і тая без роздуму гучна і з веданнем справы адказвала на той самай мове.

## 600 студэнтаў і 40 прафесараў

Мара Габрыэля Грубера пра новы ўніверсітэт здзейснілася, калі прафесара ўжо не было на свеце. У 1812 годзе расейскі імператар Аляксандр I пасля шматлікіх просьбаў ліцьвінскай арыстакратыі і шляхты падпісаў указ пра пераўтварэнне Полацкага калегіюма ў Акадэмію з усімі ўніверсітэцкімі правамі. Старажытны горад над Дзвіной адзначыў гэтую падзею ўрачыстымі набажэнствамі, феерверкам і баламі. Прывітальныя прамовы і вершы з нагоды свята гучалі на сямі мовах, у тым ліку і на беларускай.

Студэнтаў чакалі тры факультэты: тэалагічны; моваў і літаратур; вольных мастацтваў і філасофіі. У дадатак да ранейшай праграмы калегіюма на філалагічным факультэце вывучаліся старажытнагабрэйская, італьянская і арабская мовы. Да шматлікіх колішніх дысцыплін дадаліся права, статыстыка, палітычная эканомія, мінералогія, трыганаметрыя, заалогія, батаніка. Праўда, навучанне вялося пераважна на польскай мове.

У акадэмічным выдавецтве друкаваліся падручнікі, слоўнікі, навуковыя трактаты, календары і мастацкія творы. Выходзіў навуковы часопіс «Полацкі месячнік». Сорак тысяч кніг налічвала бібліятэка Акадэміі. Сярод іншых каштоўнасцяў тут захоўваліся тры рукапісныя Евангеллі XII–XIV стагоддзяў і вялікая калекцыя вялікакняскіх грамат.

Вышэйшую адукацыю ў Полацкай акадэміі набывалі шэсцьсот студэнтаў. Як і ў Віленскім універсітэце, гэта былі пераважна беларусы-ліцьвіны. З нашых земляў паходзіла і большыня прафесараў.

У аўдыторыях Акадэміі пачалі шлях у навуку гісторык Канстанцін Тышкевіч, астраном і філосаф Якуб Накцыяновіч, пісьменнік Юзаф Масальскі. Тут працягваў навучанне вядомы выпускнік Полацкага калегіюма будучы майстар прыгожага пісьменства, аўтар неўміручай кнігі «Шляхціч Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» Ян Баршчэўскі. Выхаванец Акадэміі прафесар Максімілян Рыла стаў даследчыкам Сірыі, Егіпета і Судана, заснаваў у Бейруце калегіюм, што пазней таксама стаў універсітэтам.

## Зачыніць. Забараніць. Выслаць

Але Полацк заставаўся ўніверсітэцкім горадам усяго восем гадоў. Царскія ўлады бачылі небяспеку ў самім існаванні вышэйшых навучальняў у паняволеным краі. Полацкую прафесуру абвінавацілі ў тым, што яна выхоўвае ў студэнтаў антыўрадавыя настроі. У адным з дасланых у Пецярбург даносаў паведамлялася, напрыклад, што на матывы расейскіх народных напеваў студэнты спяваюць «самые бунтовщицкие песни, вышедшие из шайки Костюшко».

У 1820 годзе царскім указам Полацкая акадэмія была зачыненая. Усіх сябраў Таварыства Ісуса, пад кіраўніцтвам якога знаходзілася навучальная ўстанова, выслалі за межы Расейскай імеры.



Рэканструкцыя праекта Габрыэля Грубэра — полацкая Механічная галава.
Фота аўтара

Рассеяўшыся па свеце, многія выкладчыкі і выхаванцы Акадэміі зрабілі вялікі ўнёсак у культуру іншых краін. Да прыкладу, трохтомныя «Філасофскія разважанні» прафесара філасофіі Вінцэнта Бучынскага так уразілі бельгійскага караля, што той асабіста запрасіў вучонага-палачаніна выкладаць у Лювенскім універсітэце. Сябар Таварыства Ісуса з Полацка айцец Францішак Дзеружынскі, апынуўшыся ў ЗША, стварыў там Сент-Луіскі ўніверсітэт і заснаваў цэлую сістэму каталіцкіх навучальняў, якія дзейнічаюць і сёння.

## Рабаванне акадэмічных скарбаў

Нейкі час у сценах зачыненай Акадэміі працавала вышэйшая школа каталіцкага ордэна піяраў, але і яна трапіла на падазрэнне царскім уладам. Там чытаў лекцыі гісторык-патрыёт Яўхім Лялевель. У вучэльні дзейнічала філія таемнага таварыства філаматаў. У 1830 годзе піярскую вучэльню спасціг лёс Акадэміі.

Распачалося непрыхаванае рабаванне былых акадэмічных скарбаў.

Полацк развітаўся з бясцэннай акадэмічнай бібліятэкай. Каланізатары пагрузілі на фурманкі 256 пудоў самых рэдкіх і каштоўных кніг, якія павезлі ў Пецярбург і Маскву. Магчыма, туды патрапіў і назаўсёды знік Полацкі летапіс — неацэннае сведчанне нашай старажытнай дзяржаўнасці. У расейскія сталіцы адправілі музейныя калекцыі ды найлепшыя творы карціннай галерэі.

Царская камісія знішчыла патайное памяшканне з складанай сістэмай правадоў, адкуль полацкія механікі кіравалі сваімі вынаходкамі-аўтаматамі. Знакамітую механічную галаву, што размаўляла на розных мовах, проста выламалі са сцяны ды выкінулі на сметнік як «вредную для умов забаву». Храм святога Стэфана быў таксама абрабаваны і перахрышчаны ў праваслаўны Мікалаеўскі сабор. На шчасце, старадаўні арган удалося выратаваць і перавезці ў віленскі сабор святых Янаў. Там на гэтым музычным інструменце шмат гадоў граў славуты кампазітар Станіслаў Манюшка.

У будынках Акадэміі царскія ўлады ў 1835-м адчынілі кадэцкі корпус, што мусіў выхоўваць верных слугаў «царя и Отечества». Аднак каланізатары пралічыліся. Калі распачалося вызвольнае паўстанне 1863–1864 гадоў, большая частка кадэтаў пакінула корпус, бо падтрымлівала змагаroў супроць расейскага прыгнёту. За гэта кадэцкі корпус расфармавалі і ператварылі ў вайсковую гімназію.

***

Сёння ў старадаўніх сценах былых калегіюма і Акадэміі зноў гучаць галасы студэнтаў і выкладчыкаў. Тут месціцца некалькі факультэтаў Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Сучасная навучальная ўстанова адлічвае сваю гісторыю ад моманту заснавання Полацкага калегіюма. Калі патрапіце ў Полацак, абавязкова наведайце ўніверсітэт, дзе турыстаў чакае захапляльная экскурсія. Вы пабачыце не толькі цікавую музейную экспазіцыю і адрэстаўраваныя акадэмічныя аўдыторыі і залы, але і зможаце на некалькіх мовах задаць пытанні аднаўленай механічнай галаве. Яна, дарэчы, як і ў даўнія часы, выдатна гаворыць па-беларуску.

## ГІСТАРЫЧНАЯ ВІКТАРЫНА

1. Калі і кім быў адчынены Полацкі калегіюм? Каго туды прымалі?
2. Якія дысцыпліны вывучалі шкаляры ў гімназіі?
3. Як было наладжанае спаборніцтва вучняў і класаў.
4. Пра якіх закамітых выкладчыкаў Полацкага калегіюма вы даведаліся?
5. Назавіце вядомых выпускнікоў гэтай навучальні.
6. За што мы шануем прафесара Габрыэля Грубэра?
7. Чым уражвалі наведнікаў музей і карцінная галерэя калегіюма?
8. Як Полацак стаў універсітэцкім горадам?
9. Што вы даведаліся пра Полацкую акадэмію? Якія знаныя асобы яе закончылі?
10. Чаму расейскія ўлады зачынілі Акадэмію?
11. Куды патрапілі разрабаваныя каланізатарамі акадэмічныя каштоўнасці?
12. Чаму варта наведаць будынкі былой Акадэміі сёння?

# Ігра на некалькіх барабанах

**Апавяданне**

Вольга ТАКАРЧУК,
лаўрэатка Нобелеўскай прэміі па літаратуры за 2018 год



**Выглядаю я так: не надта высокая, не надта нізкая, не надта пульхная, не надта шчуплая, мае валасы ні светлыя, ні цёмныя. У мяне невыразны колер вачэй. Яшчэ не старая, але ўжо не маладая. Апранаюся проста. Лёгка губляюся ў натоўпе. Калі я заседжваюся даўжэй у кавярні на рагу, людзі падсаджваюцца да мяне, але не звяртаюць на мяне ўвагі. Я іх не чапаю, не гляджу на іх. Я п'ю сваё піва ці каву і сыходжу.**

**Аднак мне заўсёды падавалася, што я нейкая асаблівая і непаўторная.**

Мае валізы, калі я прыехала ў горад, былі пазначаныя цэтлікам з імем і прозвішчам. У маім нататніку тады было шмат крэдытных картак, нумароў, пін-кодаў. Ягоныя старонкі былі спісаныя імёнамі і прозвішчамі людзей, іх адрасамі і тэлефонамі. У мяне была таксама парфума, гадамі адна і тая ж. Я насіла вопратку ўлюбёных брэндаў і карысталася праверанай касметыкай. Калі ехала з аэрапорта, то размаўляла ў метро з кім-небудзь мужчынам, і мы абое паўтаралі падчас выпадковай размовы: люблю тое, не люблю гэтага, гэтае мне падабаецца, а тое — не. Калі ж мы разнявольваліся, то ўвогуле не зважалі на раздражняльную суб'ектыўнасць думак і казалі: гэтае вельмі добрае, а тое — не, яно глупства і з ім нельга пагадзіцца. Такая размова была прыемнай, таму што нам бракавала простага факту існавання: мы прагнулі быць яшчэ кімсьці, кімсьці вызначаным, абсалютна непаўторным.

Мая кватэра на першы погляд магла падацца змрочнай. Высокая столь, ледзь кранутая слабым святлом начных лямпаў, і несіметрычная планіроўка прывялі да таго, што спачатку я блукала па ёй начамі, каб трапіць у ванны пакой. Заплямленая падлога быццам нагадвала пра папярэдніх уладальнікаў, напэўна, мастакоў, у якіх з пэндзляў лілося багата фарбы. Крэйдавая беласць сцен непакоіла мяне, яна патрабавала нейкіх каляровых акцэнтаў. Краявід з вокнаў мог бы прыгнясці кагосьці менш чуллівага. З аднаго боку вокны выходзілі на пусты пляц, атачаны дрэвамі, тады яшчэ без лісця, пляц сабакаў, якія беглі за палкамі, што з усяе моцы кідалі іхныя гаспадары, пляц сабачых адкідаў і цікаўных сарок. Удзень на ім бавіліся падлеткі — дзяўчаты гулялі ў футбол аднолькава спраўна са светлавалосымі хлапцамі. У дзень веснавога раўнадзенства смуглявыя мужчыны з пышнымі вусамі запальвалі вогнішча і вытоптвалі траву ў супольным танцы — некалькі шэрагаў танцораў, адзін за адным, як у практыкаваннях на ўроку wuefu [1].

Іншыя вокны выходзілі на касцёл з дзвюма вежамі, кожная з якіх была каранаваная мажным анёлам. Пакуль дрэва, поўнае гнёздаў галак, не схавала іх ад мяне ў траўні, шторанку я бачыла мажныя, раскошныя формы анёлаў. Яны маўкліва трубілі пабудку ўсяму гораду. Я зайздросціла тым анёлам за іх вымову, ахвяраваную абыякавым людзям. Я хадзіла голай па пакоі, каб скіраваць на сябе іх белыя вочы. Раз на тыдзень, у нядзелю, у маім касцёле адгукаліся званы, і хаця грымелі яны гучна ды істэрычна, іх рэлігійная экзальтацыя не несла чаканага плёну: сцежкай праз пляц да касцёла ішло ўсяго толькі некалькі чалавек. Касцёл спрабаваў уцінуцца ў зеляніну, быццам саромеўся сваёй наканаванай вялізнасці, збянтэжаны, ён адступаў назад, да ракі, на ўсход горада, і, пэўна, ахвотна прысеў бы на кукішкі паміж высачэзнымі гмахамі.

Вокны кухні расчыняліся на даволі вялікі панадворак, які быў адлучаны ад рэшты свету цагляным мурам будынкаў; двор зацішны, цяністы, аазіс у цэнтры горада. Сярод старых клёнаў і ліпаў тут стаялі вагоны на колах і размаіта маляваныя фургоны, падпёртыя шкілетамі ровараў, скрынкамі ад экзатычнай садавіны, кіямі для гольфа, аўтамабільнымі шынамі. Ад пачатку іх жыхары зачаравалі мяне, таму большасць часу я праводзіла на кухні. Я прысвячала ім сваё страваванне: прысунула да акна стол і цяпер, павольна спажываючы сняданкі і абеды, увесь час трымала іх на вачах, назірала за іх рэдкімі снуданнямі паміж фургонамі. Не было сярод іх ні звычайнай мітусні, ні ўвогуле паспешнасці. Яны выходзілі на вуліцу, толькі калі свяціла сонца, сядзелі на прыступках і грэлі твары. Іх дзеці забаўляліся спакойна і без крыку. Нават іх сабака здаваўся нейкім запаволеным, сабакам-філосафам, што медытаваў на абы-як пашыхтаваны хаатычны строй птушак.

Раз-пораз па апоўдні гэтыя каляровыя людзі ладзілі канцэрты. Яны выстаўлялі на вуліцу магутныя гукаўзмацняльнікі і ставілі састарэлыя блюзы альбо Паварöці (з ім, на жаль, яны спрабавалі спяваць за кампанію), а калі цямнела, мянялі оперу на манатоннае, змрочнае і жаласлівае, тужлівае «тэхна». Гукі падымаліся з падворка ўгару, быццам дым, і непакоілі анёлаў на касцельных вежах. Я знаёмілася з тымі людзьмі павoлі, асвойталася з імі праз акно. Штогадзіны адрывалася ад папер, каб размяць косці. Я падыходзіла да акна і глядзела. Знаёмілася з імі, спажываючы свежую радыску, пасля суніцы і першыя мірабэлкі [2]. Я знаёмілася з імі сліўкамі, яблычкамі і нарэшце кукурузай, прыгатаванай у падсоленай вадзе і нашмараванай алеем. Калі рабілася цёпла, іх жыццё віравала ўжо па-за фургонамі. Як вандроўнікі, яны гатавалі ежу на спіртавых прымусах альбо проста на агні, распаленым пад бляшанымі катламі. Яны пілі піва і, калі курылі марыхуану, выдзьмухалі дым уверх, каб ён ішоў да неба. А калі ўжо зусім вечарэла, яны выцягвалі барабаны — вялікія, малыя і зусім вялізныя, бы тыя ў філармоніі, што гучаць на канцэрце два, тры разы, а іх гук на кароткі час бярэ сэрца ў жалезную аблогу, а пасля лагодна выпускае на волю.

Яны барабанілі падчас маёй вячэры. Я ставіла крэсла насупраць акна. Клала на стол сурвэтку і прыборы, налівала кілішак віна і ела, выпрастаўшыся, з сурвэткай на каленях, быццам была ў экзатычнай рэстарацыі. Паступова, дзесьці праз дзень, я ўсвядоміла, што біццё ў барабаны зусім не спынялася ўдзень, яно толькі пераносілася ў фургоны, змяншалася да аднаго інструмента, прысыхала на сонечным святле. Уначы, зусім як той слынны экзатычны кактус, гук барабанаў расквітаў у цэлы аркестр.

Я гэта бачыла. Барабаны стаялі заўсёды ў коле — кшталту інструментаў па самаабслугоўванні, бо калі музыку надакучвала барабаніць, ён адыходзіў у цемру паміж фургонамі, а хтосьці іншы яго замяняў, хтосьці свежы і яшчэ не змучаны, хтосьці, хто мог далучыцца да вібрацыі рытму альбо, наадварот, паспрабаваць яго змяніць. Я тады была яшчэ цэлай асобай. Перад сном я ўцірала ў твар крэм. Адчыняла вокны нанач. Я сніла сны. Ранкам запісвала гэтыя сны і піла каву. Я садзілася працаваць: чытала, рабіла занатоўкі, пісала лісты, заўсёды аднолькава іх падпісвала. У мяне былі планы і спісы пакупак. Я педантычна выконвала іх. Аднак я пачынала бачыць усё інакш, калі слухала штовечар біццё ў барабаны. Біццё ў барабаны па трывозе, біццё ў барабаны на перасцярогу, біццё ў барабаны на пабудку.

Я знайшла школу на ўскрайку горада, яе параіў мне адзін знаёмы. Нават добра, што так далёка, думала я, бо праезд цягніком праз горад заўсёды мяне супакойвае, суцішвае. З цягніка не бачны горад, толькі паасобныя, аддзеленыя адзін ад аднаго будынкі, зрэшты, заўсёды спрэс у рамонце, у мітусні будоўлі: цаглявыя краны, каляровыя парканы, якія адгароджваюць іх ад вуліцы. Часам відаць некалькі вуліц, толькі што дабудаваных — з іх нядаўна прыбраныя белыя плямы раствору і бетону, але яны застаюцца незаселеныя, быццам ніхто не наважваўся заехаць у зусім новую сучасную прастору. Магчыма, у будучыні праз гэта горад зусім вылюднее: чым больш будзе новых дамоў, тым менш людзей захоча ў іх жыць, чым больш дамоў, тым менш людзей, — простае і адначасова містычнае правіла, якое павінны ведаць будаўнікі. Альбо зацугляныя людзі будуць з упартасцю, у роспачы перад новым хавацца ў ламачы, у сквотах, у патаемна разбэрсаных па парках фургонах, а безгустоўным серабрыстым хмарачосам застанецца меланхалічна адлюстроўваць неба, хуткія танцы хмар, іх мімалётны нечалавечы рух.

Калі я ўпершыню ехала чыгункай праз горад, у мяне было дзіўнае пачуццё: гэтая язда, краявід з вокнаў, мяккае кручэнне колаў па рэйках размазвалі мяне. Таму што горад з вокнаў вагонаў падаваўся найбольш пазбытым формы, нявызначаным, гэтак жа і я сама траціла свае абрысы. Ён быў вялікім надзьмутым цэпелінам, што рухаецца па небе і ўплывае на змены кароткачасных канфігурацый хмараў, павеваў ветру. Быццам горад заставаўся ўвесь час тым самым, але пасля я штодзённа заўважала нейкія новыя падрабязнасці. На пустых пляцах за ноч выраслі зашклёныя будынкі. Здаралася таксама, што станцыі метро не захоўвалі чарговасці, выскоквалі адна за адной, альбо, наадварот, марудзілі з выхадам на сцэну. Крамы. Яны вандравалі зусім адкрыта, а час іх адкрыцця заставаўся для мяне цалкам непрадказальным. На маёй вуліцы ніколі нельга быць упэўненым, што знойдзецца тая самая крама, якая была тут учора. А калі ўжо яна была, дык гэта зусім не значыла, што я знайду ў ёй тое самае віно, той самы гатунак хлеба, што тыдзень таму. Выглядала таксама, што людзі надта нудзіліся. Увесь час былі бачныя вялікія грузавікі, поўныя мэблі — гэта жыхары пераязджалі з аднаго раёна ў іншы. Вандравалі музейныя калекцыі — у турыстаў быў з гэтым найбольшы клопат, бо яны прызвычаіліся, што музей — найбольш сталае і саліднае месца на зямлі. Можа, дзе-нідзе гэта і так, але не тут.

Трэба быць вельмі пільнай. Я павінна была глядзець. Глядзець. Назіраць за горадам, каб нішто не ўцякала з-пад майго кантролю. Калі я ехала чыгункай праз бясконцыя прадмесці, праз кварталы гаражоў, іх сумна падфарбаваныя блокі, я раз-пораз нагадвала сабе, што адчуваю сябе шчаслівай. Гэта быў хіба самы натуральны спосаб майго існавання: безуважна назіраць на адлегласці, не браць удзелу ў жыцці, толькі прыглядацца да ягоных праяваў, мінаць мімаходзь, толькі слізгаць вокам. Калі я рухалася па горадзе чыгункай, я рабілася нібы тыя турысты сталага веку, якія наймаюць турыстычны аўтобус з кандыцыянерамі і рухаюцца, як матэрызаваныя духі, расплывістыя, за таніраванымі вокнамі, з імкненнем да прыгодаў. Менавіта так было са мной: я назірала з-за шыбы, як пралятаюць краявіды, спрошчаныя да некалькіх жэстаў побытавыя сцэны — адзіны бачны адтуль кшталт зносінаў паміж людзьмі. Абагуленыя дрэвы, паркі, якія зліваліся ў адзіную лагодную зялёную бандэрольную стужку. Факт, што я не магу ні на чым прыпыніць позірк, мякка нішчыў усё маё саспелае, вечна гатовае «я». Я даверылася мігценню, якое звонку ўсё ніведе. З акна чыгункі дэталі скасоўваліся.

Напэўна, таму, калі я выходзіла на аддаленай станцыі, адкуль мелася ісці пешкі яшчэ добры квартал, на мяне нападаў часам асаблівы голад да падрабязнасцяў. Тады я інстынктыўна плыла да газетнага шапіка (друк — сапраўдны трыумф дэталёвасці) альбо ішла паглядзець на звычайную краму гатовых букетаў. Там расчулены падарожжам зрок арганізоўваўся наноў, падладжваўся да фіялетавага аджылкавання фрэзіі, суцішваўся на крэмавых плямках плястыкаў ружаў.

Горад, бачны з вокнаў цягніка, не выглядаў як горад, хутчэй як хаатычна запоўненая будынкамі прастора, як мноства пунктаў, упарадкаваных вакол увахадаў у падземнае метро. Відавочна, мяне непакоіла, што я бачу нешта не тое, што ўсё. Бо ўсе паўтаралі з захапленнем: горад, горад; яны, напэўна, мелі ў галаве нейкую агульную ідэю, якая мне — зусім тут чужой — была незразумелая. Ці ж я была сляпая да чагосьці, што бачыцца ім таямнічымі сувязямі паміж хаатычна раскіданымі ўтварэннямі, нацягнутымі, быццам няроўныя пацеркі, на перабнытаныя матузкі падземнай чыгункі? Горад, горад, паўтаралі яны фанабэрліва, узбуджана, супольна ўдзельнічаючы ў незразумелай мне містэрыі. Аднак жа далучаліся да іх і тыя, хто прыехалі, — яны бывалі яшчэ больш бясстраснымі. Яны вывучалі горад на раскладзеных у парках мапах, вадзілі пальцам па ягоных артэрыях, вандравалі па дне высахлых каналаў, куплялі нават крохкія кавалкі пацярушаных, добрых яшчэ колькі гадоў таму будынкаў. Ці яны былі такія ж, як я? Разгубленыя, але з добрай прагай хоць якога разумення — накшталт тае мроі, званай чамусьці горадам.

Мне былі патрэбныя тры перасадкі, каб дабрацца да школы. Па дарозе я ела канапкі. Па дарозе прыглядалася да спадарожнікаў. Са здзіўленнем я заўважала, што ніхто з іх не цэласны, не ўтварае еднасці, — у іх было нешта адметнае, што іх характарызавала (напэўна, каб іхныя маці ніколі не маглі зблытаць іх з кімсьці чужым), і на гэтым кропка — рэшта была змазаная і невыразная. Мужчына Чорная Скура, Хлапец Пекныя Вейкі, Жанчына Шырокі Твар, Стары Вадзяністыя Вочы. Хіба людзі не ўяўляюць сабой толькі набор рысаў? Месца, праз якое праплывае распалены колерамі час?

Калі б хтосьці зверху мог сачыць за малюнкам маіх вандровак па горадзе, калі б мог скіравацца за мной і накласці на паперу гэты скампіляваны арнамент ці нават пазначыць мяне (у сне, калі я нічога не ўсведамляю), бы акальцаваную птушку, а пасля заўважыць на кампутары той дзіўны след, што я пакідаю пасля сябе, — ён убачыў бы, што след гэты безмужчынскі. Бо я знаёмілася амаль выключна з жанчынамі. Як гэта магчыма? Куды падзеліся ў горадзе мужчыны, чаму было іх менш, так мала, а калі ўжо я іх сустракала, яны здаваліся вокамгненнымі, пашматкаванымі, няскончанымі, умоў-

нымі, быццам намаляванымі слабенькім мяккім алоўкам? Я падазравала, што, можа, у іх ёсць асобны раён, дзесьці на перыферыі горада альбо — так-так! — яны ўтрымліваліся ў паважных урадавых будынках з чырвонай цэглы. Адтуль яны, напэўна, кіравалі горадам. Іх нізкія галасы вібравалі, і, можа, адтуль утвараўся гэты непарарыўны шум горада. Можа, яны рыхтаваліся да наступнай вайны? Я беспадстаўна падазравала, што горад падзелены на месцы жаночыя і мужчынскія няіснымі лініямі, нябачнымі стужкамі, якія нейкая лятучая паліцыя рассоўвала ў паветры. Відавочна, гэта было няпраўдай. Бо няяркімі бывалі не толькі твары, не толькі асобныя людзі, але і полы. Я бачыла мужчынаў-балерынаў, мужчынаў-вампаў, мужчынаў-оперных дзіваў. Яны віселі на мурах і часткова засланялі будаўнічыя пляцоўкі. У іх былі памаляваныя твары, цюлевыя сукенкі на вузкіх сцёгнах, плоскія грудзі, і яны былі больш жаноцкімі за жанчын. Я прыглядалася да іх шматкроць і нарэшце пачала траціць упэўненасць: можа, гэта былі жанчыны, якія прыкідваліся мужчынамі-балерынамі? Можа, гэта былі балерыны, якія прыкідваліся жаноцкімі мужчынамі, альбо мужчынскія жанчыны? Пазней я мусіла сцвердзіць гэта ўжо раз і назаўсёды: горад быў у сваёй найглыбейшай сутнасці андрагінны, і я з лёгкасцю зацірала той вульгарны падзел на два вінаватыя божаму духу полы — адрозненне, усталяванае прайдзісветамі на ўскрайках сусвету.

Школа размяшчалася ў квартале паасобна раскіданых віл і сваёй архітэктурнай сувымернасцю нагадвала мне мой горад. Я ішла праз скверы ўзрадаваная.

Урокі праходзілі ў зале на цокальным паверсе, адкуль былі бачныя пні дрэваў у парку і людзі, якія праходзілі пад акном, але па пояс, адны ногі. Толькі дзеці мелі магчымасць кінуць на нас позірк, калі мы сядзелі за іншымі, роўнымі сталамі і зубрылі штосьці пад пільным вокам Карнэліі.

Карнэлія, мая настаўніца, казала паперамена на дзвюх мовах. Ніводнай з іх я не разумела добра, ды і яна сама грацыёзна перамешвала іх, каб у канцы дапамагчы сабе лацінай. Я ўглядалася ў яе шэрыя вочы, у рух яе вуснаў (быццам была глуханямая) і так прачытвала сэнс яе загадаў і тлумачэнняў. Спачатку я баялася, што нашыя сэнсы, яе і мой, маглі размінуцца па дарозе, бы дзве паралельныя лініі, якія, здаецца, вечна працінаюць бясконцасць, але не кранаюць адна адну, не сумуюць адна па адной.

Я ніколі не ведала, чаму гэтым разам Карнэлія будзе нас вучыць. Гэта, уласна, быў галоўны прынцып яе сістэмы: уразіць і такім чынам мацней удацца ў памяць. Спачатку яна вучыла нас песеньцы пра маленькага барабаншчыка:

*Маленькі барабанщчык нам сказаў,*
*У цёмную прыйшоўшы ноч:*
*Ні золата, ні камню моц*
*Не прынёс я сёння вам,*
*Прынёс я песню вам сваю,*
*Тарам, тарам, тамтам.*

Другі раз яна выпісвала на дошку нерэгулярныя формы дзеясловаў на замежнай мове. Адзін з першых урокаў даў мне шмат над чым паразважаць: мы атрымалі ў рукі па камяку гліны памерам з кулак, яна завязала нам вочы нашымі ўласнымі шалікамі і загадала вылепіць з гэтай гліны штосьці добрае, штосьці вельмі блізкае. Я хацела зрабіць жывёлку — так моцна бракавала мне ў горадзе звяроў: аляняткa альбо хоць бы сабаку. Калі мне знялі шалік з вачэй, я ўбачыла, што вылепіла нейкі незнаёмы твар.

Гэта менавіта твары ўпарадкавалі горад. Я паволі адкрывала (і, можа, менавіта гэта было задумай Карнэліі), што горад не складваецца ні з будынкаў, ні з кварталаў, ні нават з уваходаў у метро, але з паслядоўных твараў, якія пераходзяць адны ў адны, як у тых слынных кампутарных сімуляцыях. Горад складваецца з твараў, змешаных, раскіданых па раёнах, якія часам у выніку збегу акалічнасцяў на імгненне адлюстроўваюцца адзін у адным, напрыклад, на эскалатарах — адзін твар едзе ўніз, іншы наверх, у цягніках, якія едуць у супрацьлеглыя бакі — адзін направа, другі налева, у шкляных дзвярах-круцёлках — адзін наперад, другі назад.

Паслядоўнасць твараў — рэч захапляльная, бо ўсе яны былі падобныя адзін да аднаго. Цікава, тая заканамернасць выглядала як крывая Гаўса ці бегла аднастайна роўна? Ці можна было б яе схапіць простым тэматычным выслоўем, якое б пераконвала больш за якую-колькек літаратуру ?

Карнэлія часта звяртала нашую ўвагу на паўсюднае існаванне падабенства. Усё падобнае адно да аднаго, гэта толькі пытанне перспектывы. Падабенства насамрэч — у індустрыяльнай сетцы, якая ўтрымлівае зблытаную чупрыну свету ў адносным парадку.

Можна было б лічыць, казала Карнэлія, што наш досвед укладваецца ў агульнапрынятыя закон прычынаў і наступстваў, якія надыходзяць адно за адным, абкручваюць рэальнасць гарманічным ланцужком. Але няма нічога больш памылковага (калі яна гэта казала, то ўздымала палец). Прынцып прычыны і наступства ёсць толькі фікцыяй розуму, скажам метафарычна, ёсць рухомымі сходамі, якія сапраўды падымаюць нас на нейкую гару, але пазбаўляюць хаду намагання. Крокі, хада. Рух левай — гэта прычына кроку правай нагі? Ці крок правай — гэта вынік кроку левай? — пыталася я. Відавочна не, адказвала я сабе. Таму суіснаванне крокаў стварае хаду, якая падобная сама да сябе. Падабенствы ўзаемна прыцягваюцца. Гэтаксама як супрацьлегласці. Але ж супрацьлегласці таксама адваротная падабенству. Хіба не?

Мы не ведалі, што можна ёй на гэта адказаць.

Мы ўсе былі ўпісаныя ў яе сшытак. Імя і прозвішча. Узрост. Колер вачэй. Яна ведала нашыя дасягненні і правалы. У адпаведнасці з гэтым сшыткам яна выклікала нас адказваць. Карына, je suis fatiguée, I am tired, ich bin müde, казала я. Кепска сябе адчуваю, іду дадому. Сёння я — не я. У такую хвіліну яна магла прыкласці мне да ілба электронны тэрмометр і ахвотна пацвердзіць, што ў мяне не павышаная тэмпература. Пасля яна выпрабавальна глядзела мне ў вочы (у яе былі шэрыя, мае — ніякія) і паўтарала: трэба быць кімсьці, няма выйсця. Яна заўсёды пазначаная, хоць гэта стамляе яе. Нават брак нейкай рысы — ужо рыса. Нават пазбаўленая вопраткі, ты папросту голая. Нават непрытомная, ты без прытомнасці, нават смерць не звальняе цябе ад гэтага, бо тады ты будзеш мёртвай.

Лухта, думала я, калі ехала ў метро і выпрабавальна распускала сябе ў велізарных будынках, якія праміналі за акном, выйсце ёсць — можна ігнараваць саму сябе, ігнараваць уласную паўтаральнасць, прадбачлівасць, выносіць вырашальныя моманты з сябе вонкі, за межы сябе, у свет, у парк, даручыць сябе выпадку. Гэта была б цікавая праца — трэба было б перастаць адносіць усё да сябе, ухіляцца ад простых рэакцый, ставіцца да сябе так, быццам ты прадмет сярод іншых прадметаў. Адмовіцца ад сталасці поглядаў, выказваць выпадковыя думкі, тыя, што прыходзяць да галавы, нібы сліна на язык, не мець болей ні навыкаў, ні звычак, увесь час казаць: «Не ведаю, не ведаю, не маю ўяўлення».

Адкуль бралася тое дзіўнае памкненне? Я падазравала, што вінаваты быў горад. Навуцы ж вядомыя сувязь паміж чалавекам і горадам і факт, што горад уплывае на людзей. Маўляў, Парыж робіць нас фрывольнымі і рафінаванымі. А Нью-Ёрк канкрэтызуе і вядзе па зямлі. Так кажуць. А той горад сам быў нейкі бязмежны, нерашучы, зменлівы. Ён плыў. Праплываў каля мяне, нібы вясёлы параход. Ён не меў асаблівасцяў, таму быў такі прывабны. Ён лавіў нас усіх у свае сеткі. Таму што ён быў пэўным, абяцаў спраўджанне любога найдзівоснейшага прагнення, таму што быў бясформенны, вабіў рэалізацыяй кожнай задуманай магчымасці, таму што не было ў ім ні цэнтру, ні перыферыі, ён мог зрабіць нас вольнымі і роўнымі.





Часта я была зусім змардаваная Карнэліяй, усё радзей прыходзіла на заняткі альбо спазнялася. З дзяцінства ў мяне былі праблемы з часам: ён уцякаў і турбаваў мяне. Час аднойчы зрабіўся балючым, калі ў адно кароткае імгненне я знянацку ўсвядоміла, што значыць «цяпер». «Цяпер» значыць «ужо ніколі». «Цяпер» значыць тое, што ёсць, якраз у гэты самы момант перастае быць, абвальваецца, нібы струхнелая прыступка сходаў. Гэта паняцце страшнае, яно паралізуе, яно агаляе ўсю жахлівую праўду.

Мне было некалькі гадоў, і ела я тады ля хаты памідор. Быў поўдзень, які ўжо сплываў у цяністы змрок парка, каб урэшце рассыпацца на мільёны часцінак. Незваротна. «Цяпер» — той колішні снег, кліч крумкача, лютасць красавіка. Бэз, які расквітнеў пад маім домам у сабачым парку — зноў не далося мне заспець вяршыню яго красавання, бо калі яго маленькія ліловыя скрыначкі адкрываліся, адначасова ўжо пачыналася адцвітанне. Сонечнае зацьменне два гады таму было таксама падобнае да квітнення бэзу — цёмнае кола месяца магло быць адно «вось-вось» альбо «ужо пасля». Момант адбыцця быў хіба што пераходам з аднаго стану ў іншы, абстрактнай, матэматычна вылічанай хлуснёй. Ён быў сацыяльнай умовай, набліжэннем да этыкету, артэфактам, створаным для спакою розуму і агульнага парадку.

Я даверылася той нявызначанасці. Чаму б нам не казаць пра сябе толькі ў мінулым часе альбо толькі ў будучым? Ці не было б тое папраўдзе, ці не было б тое з усіх бакоў больш сумленна, калі ўжо трэба штосьці казаць? Але ў яе былі свае погляды на гэтую тэму, вельмі радыкальныя, як і яна. Яна казала, што гэта найбольшы прывілей чалавека — валодаць «цяпер»: толькі гэта мы і можам мець. Таму і прыдумалі мову — каб кантраляваць перанос здарэнняў з мінулага ў будучыню, каб здзяйсняцца ўлада над часам, каб затрымліваць час хаця б на тую кароткую хвіліну, калі з усёй сур'ёзнасцю ты абвяшчаеш сабе: «Я ёсць». Мець «цяпер» — значыць усведамляць сваё існаванне, значыць быць у нерухомым воку тайфуна, стаць там і прыглядацца да вірлівых падзеяў, адкрыць іх колазваротны лад, які вяртаецца шточасна і заўсёды. Яна казала таксама, што за гэтую асаблівую веду трэба дорага заплаціць, бо быць у эпіцэнтры — гэта ж перастаць бачыць самую сябе, уласна кажучы, знікнуць для сябе.

Гэта была хіба нашая апошняя размова — я знікла для яе таксама. Я прагульвала заняткі. Я выходзіла ранкам, яшчэ маючы ў галаве мэту, але ўжо праз некалькі кварталаў забывалася, куды іду. Збівалі мяне з дарогі жаночыя ногі ў фантастычна каляровых калготках, сабакі, якія беглі праз пераход у найбліжэйшы скверык, здвоеныя вазкі блізнятаў, пажарная машына, якая з цяжкасцю прабіралася праз вулічны рух, бамжы, якія бразгаталі бутэлькамі. А калі пад вечар я вярталася дамоў, ужо каля сабачага пляцу мяне сустракала знаёмае біццё ў барабаны. Мае суседзі не спалі.

Аднаго вечару, калі ўжо было зусім цёмна, я апранулася ў чорнае — каб яшчэ менш трапляцца на вочы — і выйшла на падворак. Яны сядзелі там вакол бочкі, у якой палілі нейкае смецце. Большасць з іх размаўляла напаўголаса, іншыя пілі піва, а пустыя пляшкі складвалі дзесьці ў цемры за сабой. Некаторыя з іх грукалі далонямі ў напятую скуру барабанаў. Калі стамляліся, іх месца займалі іншыя, так што рытм зміняўся ўвесь час, барабаны шукалі сябе ў прыцемках. Чым больш час насычаўся прыцемкамі, тым больш рук далучаліся да біцця ў барабаны, тым больш выразным рабіўся рытм. Былі таксама маленькія барабанчыкі, такія, што лёгка змяшчаліся на каленях ці нават у руцэ, яны асабліва часта перабівалі рытм, дамагаючыся ўвагі, як пераўзбуджаныя дзеці, як ваенныя малыя барабаны.

У тую ноч я яшчэ не наважылася зайграць. Я сядзела на ўскрайку доўгай лавы, пэўна, ледзь бачная ў цемры; у сутонні вымалёўваўся толькі мой твар, вельмі яркая пляміна, якая з'яўляецца і знікае ў залежнасці ад таго, як гарыць вогнішча. У нейкую хвіліну адпачынку, калі варту трымаў паасобны рытм, я расказвала ім пра Жыжку — у маім радаводзе даўно быў вар'ят, які абвясціў вайну ўсяму свету. У яго назбіралася нават зусім не малое войска, але ўрэшце ворагі дабраліся да яго і забілі. Але перад смерцю ён сказаў: калі памрэ, зрабіць з яго скуры барабан і яго гучаннем уздымаць тых, хто застаўся, на барацьбу. «Тум... тум... тум», — лёгка загучалі паасобныя ўдары. Яны глядзелі на мяне ўважліва. Мая маленькая гісторыя зрабілася чымсьці матэрыяльным, мне здавалася, што перад імі ляжыць нешта кшталту падарунка. Зранку хтосьці прынёс малы барабан. Нейкая дзяўчына ў міні і сятчастых калготках павесіла мне яго на шыю і паказала, як рытмічна біць у яго. З таго часу я пачала прыходзіць туды амаль штовечар, а яны казалі на мяне — Жыжка.

Дзяўчына тая звалася Карлай. Яна з'яўлялася ўдзень, заўсёды з дзіцем ля грудзей альбо на спіне, у каляровай хустцы. Яна любіла — калі толькі магчыма — дэманстраваць стройныя доўгія ногі, а таксама любіла міні, высокія скураныя шнураваныя боты, скураныя курткі ў абцяжку. Але пасля я бачыла яе іншай: яна прычапляла да сваіх кароткага астрыжаных валасоў цэлае бярэмя стракатых косак, абвівала сябе нейкай аранжавай сукенкай і рухалася вуліцай да сабачага пляцу і яшчэ далей, каб урэшце адпачыць за выстаўленым столікам якой-небудзь кавярні, дзе яна бясстрасна размаўляла з падобнымі да сябе людзьмі і не спынялася нават тады, калі карміла грудзямі дзіця.

Я таксама падсаджвалася да яе. Я замаўляла каву з малаком альбо белае віно. Мы лянотна пазіралі, як аўтамабілі асцярожна ўцякалі з перапуду ад разагнаных да непрытомнасці мінакоў.

Караліна, прыроджаная барабаншчыца, сцвярджала, што з ігрой на барабанах трэба быць вельмі абачлівай. Што з пачаткоўцамі часта адбываецца нешта кшталту сну наяве, зачараванне рытмам. Нейкая частка свядомасці дазваляе рытму сябе ўсыпіць, і тады ты не цалкам прытомная, казала яна. Яна паказала мне таксама спосаб апрытомнець, як вызначыць, сон гэта ці ява.

Працяг на стар. 16 (10) »

**« Працяг.
Пачатак на стар. 15 (9)**

Паглядзець на свае далоні. Гэта верне цябе да сябе, будзеш ведаць, што ты ёсць, казала яна.

Такім чынам, як толькі я страчвала на золку самакантроль, калі лупіла ў кацялкі, альбо ўдзень, калі слухала біццё ў барабаны пад вокнамі, калі я ўвальвалася ў біццё альбо біццё ў барабаны працінала іншыя мае заняткі ці наганяла мяне раптоўна падчас ежы, я адкладала сталовыя прылады, выцірала вусны сурвэткай і глядзела на свае далоні.

Карла сцвярджала таксама, што ніколі нельга быць пэўным, сны гэта ці ява. Яна казала, што звычайнай агульнапрынятай цэзурай ёсць сон і абуджэнне. Гэта вельмі простая тэорыя: усё, што адбываецца з намі падчас сну, ёсць сон, а ўсё, што наведвае падчас дзённай актыўнасці, — ява. Я́віць — яна першай ужыла гэты дзіўны дзеяслоў. Мне ён не падабаўся. Ява — гэта штосьці, што не адбываецца насамрэч. Калі я кажу «яві мне сябе», гэта гучыць так, быццам я не да канца ўпэўненая, сапраўды штосьці ёсць ці мне толькі здаецца, што яно ёсць. Мусіць быць нейкае іншае слова, супрацьлеглае сну.

Той восенню адчуваліся перамены, што надыходзілі адусюль. Гэта было бачна голым вокам. Боты з вострымі насамі выціскалі боты з насамі квадратнымі, фіялетавы межаваў з хакі, а чарноцце паволі залівала крамныя вітрыны, выціскала істэрычную чырвань на ўскрайкавыя вуліцы.

Я сыходзіла да іх ужо амаль штовечар. Калі я заканчвала свае нудотныя абавязкі, гэтае сядзенне ў паперах, перакладанне іх з адной купкі ў іншую, занатоўкі, фармулёўкі сказаў і цэлых выслоўяў пра нейкія неістотныя справы, я брала з лядоўні банку піва альбо скрынку печыва ды ішла.

Бадай ніколі гэта не былі адны і тыя ж людзі. Нехта прыбываў, кагосьці не ставала. Полымя вогнішча, якое палілі ў металічнай бочцы, змяняла рысы твару. Змяняліся таксама барабаны. Найбольш я любіла, калі з'яўляўся стары, палінялы ромельпот — так ён называўся. Гэта быў барабан высокі, годны, з дзіркай у мембране, праз якую цягнуўся шнур — барабан прамаўляў, спавядаўся цэлымі гадзінамі, галасіў і спяваў. Гэта ён быў каралём, а не той вялікі турэцкі барабан, які прыносілі два хлопцы і ў які лупілі пасля з аднаго і другога боку мяккімі палкамі. Да ромельпота была чарга, кожны хацеў забыцца ў рытмічным грукатанні, пачуццёвым і хрыплым; на золку ўжо млелі рукі, пот заліваў вочы, цела слабла ды, нібыта, ніколі не магло насыціцца. Ніколі не было гэтага досыць.

Адна поўная чарнаскурая дзяўчына прынесла індускі дамарн з двума шарыкамі, прывязанымі на папружках па абодвух баках: калі круцілі рукой з барабанчыкам, шарыкі біліся аб напружаныя мембраны і стваралі неспакойны, нервовы рытм, рытм, што, падавалася, быў прадвесцем нейкай навальніцы, якая яшчэ прыйдзе, якая ўжо стаіць за даляглядам, ужо мацнее ў сабе, быццам праз хвіліну абрынецца громам на нашыя целы, нібы град. Дзяўчына выпраўляла па коле той дамарн, і кожны хацеў далучыцца да гэтага прадвесця ачышчальнага катаклізму. Малы тыбецкі барабанчык, падобны да ляскотак, таксама перасцерагаў і раздражняў. Манатоннае націсканне было як напоўнены жалем псалом, бы скарга. Заўсёды з'яўляўся нехта не да канца цвярозы, хто хапаўся з наскоку за тамбурын, самы спакойны, самы паважны інструмент. Ніхто не перашкаджаў. Хай яму здаецца, што ён вярнуўся ў дзіцячы садок. Цяпер ён тоўк кулаком у мембрану, ажно калаціліся бляшаныя колцы, ажно невыносным рабіўся гэты металічны гук. А калі п'яны тамбурын рэзка вяртаў нас да прытомнасці, да яго далучаўся малы барабан, ягоны вайсковы сваяк, і рабілася трывожна: малы барабан казаў, што гром, які надыходзіць, па сутнасці ёсць кульмінацыяй бітвы, якую трэба весці кожны дзень наноў і не імкнуцца пазбегнуць яе. Ствараўся нясцерпны шум, і тады далучалася рэшта: афрыканскі дундун, ідыяфон-разак, што пераймаў чалавечую мову, тымпанон, на якім гралі адно жанчыны, мноства падвоеных накараў, паасобныя барабаны, зробленыя дома абы з чаго, дзіцячыя барабанчыкі, набытыя ў цацачнай краме, а таксама выкшталцоны экзатычны му-ю ў форме рыбы. І толькі цяпер ствералася сапраўдная сімфонія здзяйснення: рытмы накладаліся адзін на адзін, рэзаніравалі, адставалі. Яны адкрывалі цыклы, стваралі асіметрыю, каб зараз жа ўпарадкаваць і шчыльна закрыць яе. Кожны з нас быў раздзёрты неспакойнай хваляй, паглынаў рытм знутры, нібыта нешта больш значнае за жаласлівы піск нашага «я». Рытм натоўпам каціўся па нас, нішчыў нас, быццам мы былі гатовыя да надыходу буры. А калі ўжо яна прыходзіла, мы капітулявалі перад ёй з недаверам, з заплюшчанымі вачыма, як пад струменямі дажджу.

Пасля ўсё сціхала. Заставаўся толькі нейкі малы гук дзіцячага барабанчыка, які парадкаваў час сіметрычна, як гадзіннік: цік-так, цік-так. Рытм пачынаў ствараць час спачатку. І так некалькі разоў за ноч. Музыка навальвалася і сціхала. Зранку заставаўся толькі нехта на варту, той, хто пільнаваў, каб не перапыняць біццё ў барабаны.

Гэта было адзінай нязменнай рэччу ў горадзе, якая для мяне існавала. Можа, акурат дзякуючы гэтаму біццю ў барабаны горад трымаўся яшчэ ў паслухмянстве, хаця відавочна сам не ведаў, каму за гэта дзякаваць.

Я пасябравала з Карэн і ўсё менш сядзела ў сваіх паперах, затое цяпер амаль штодзённа сыходзіла да сквота, да яе фургона. Мы разам глядзелі тэлевізар, я займалася яе дзіцем, калі яна выходзіла. Я завязвала сабе на жываце хустку ды ішла да іншых фургонаў, сядала на старыя канапы і моўчкі глядзела з ёй тэлевізар. У іх было шэсць тэлевізараў (адзін з іх стаяў вонкі, пад дрэвам, а ад дажджу яго ахоўваў вялікі чорны парасон, утыркнуты ў зямлю), якія заўсёды паказвалі нешта іншае. Таму калі хадзіць ад аднаго да другога, можна было трымаць на воку ўвесь свет. Войны, пластычныя аперацыі на Бермудах, дзікія звяры ў саване, чалавечы сэкс, вайсковыя парады ў Паўночнай Карэі, бясконцыя паказы мод. Часта мяне прымалі за Карэн, асабліва калі ў мяне было з сабой дзіця. Я не пратэставала. Мы абедзве сядалі апоўдні на лаўцы ў Сабачым парку і ўглядаліся ў жанчын у чадрах, захутаных з галавы да ног, альбо ў барадатых старых у суконных капялюшыках.

«Ці можаш ты не думаць?» — спытала яна мяне неяк. «Так», — сказала я. Я сядзела, абапёршыся на спінку лаўкі і ўтаропіўшыся ў мыскі ботаў, і паглыблялася ў гушчыню ўласных думак; адны думкі былі тоўстыя і сціслыя, іншыя — слабыя і празрыстыя, яны злучаліся ланцужком і наліваліся, пераходзілі адна ў адну, урэшце, закручваліся, бы брэцлі [3], бы чорныя цукеркі з глазурай, а пасля жэліраваліся разам з бурбалкамі, што плылі ўгару. Мы — зманлівая плынь, паўтарала Карына з нейкай асалодай, асабліва тады, калі ў яе атрымлівалася падкінуць камусьці дзіця і спакойна закурыць самакрутку. Няма ніякіх нязменных вызначаных цэнтраў, няма кірункаў, ёсць толькі няспынны ток, паўставанне і хуткае знікненне. Так што калі здзейсніць падарожжа ў сярэдзіну кожнага моманту, выявіцца, што базавыя, як нам здаецца, цаглінкі існавання — гэта пустое месца паміж «ужо было» і «толькі будзе». Свет складаецца з пустэчы, і, на жаль, няма словаў, каб гэта выказаць. А тое, што мы прымаем за рэальнае, у тым ліку саміх сябе, ёсць яе хвілінным прыступам, парушэннем дасканаласці неіснавання. «І што?» — дапытвалася я, бо ў мяне была звычка зацягвацца цыгарэтай і доўга выпускаць дым поўнымі колцамі. «Нічога», — казала я праз хвіліну. Адзінае, што нам застаецца, — гэта трымацца так, быццам ўсё рэальна існуе, так, як хоча гэта ўспрымаць нашае адначасова нерэальнае і нязвыклае да небыцця цела. Жыць так, як нібыта абавязвае праўда, якую мы праз хвіліну паставім пад сумнеў. Падпарадкоўваць сябе пачуццям і таму, пра што кажам. Разглядаць гэта як абсалютнае права. Філасофскі эталон з Сеўра пад Парыжам. Штодзённа раніцай выцягваць з-пад павекаў адчуванне мізэрнасці і марнасці і ныркаваць у раздзёрты струмень ілюзіі. Даваць сябе несці і рабіцца каляровым міражом. Але памятаць праўду.

Я паглядзела на свае далоні.

Найперш я набыла шапку з прычэпленымі да яе чорнымі коскамі. Мае радужныя абалонкі пацямнелі. Калі я ўпершыню прымерала яе перад люстрам, то ўбачыла, як на мяне вырачылася нейкая дзяўчынкападобная фігура. Я дадала шырокія штаны, што аблягалі толькі на сцёгнах, цяжкія боты — і вырушыла на ровары ў нязменны горад. І я насамрэч была той дзяўчынкападобнай істотай, бо такой мяне бачылі іншыя. Менавіта так я адлюстроўвалася ў тварах іншых людзей, і чым больш я была такой для іх, тым больш такой рабілася для сябе. Я ўжо не курыла цыгарэты, мяне не займалі паперы на стале і важныя рубрыкі. Мяне цягнула ў вытаптанае месца, поўнае гучнай музыкі, поўнае падобных да мяне самой, — у зграйкі ля дыскатэкі на паркавым беразе гарадскога возера, у інтэрнэт-кавяранькі, дзе я з радасцю знаходзіла старонкі пра моду і Брытні Спірз. Мой голас зрабіўся вышэйшым, больш піскілвым, мая скура — больш гладкай, яна лягчэй адчувала пахі ветру і вады. Я сустракала іншых такіх, як я, і бавіла з імі празрыстыя і павярхоўны час у размовах. Дамаўлялася пра наступны вечар, але ніколі не была ўпэўненая, ці з'яўлюся там.

Вось дык палёгка — зрабіцца хаця б на хвіліну кімсьці іншым! У горадзе гэта было няцяжка, бо горад багаты на крамы і гандлёвыя дамы ўсіх відаў, усіх стыляў, усіх колераў. Існуюць таксама сэканд-хэнды, дзе вопратка перадаецца ва ўжытак іншым. Гэта грым і трэсы, лакі і фарбы, прытоны тату́ і цёмныя, утульныя тэрапеўтычныя кабінеты. Недастаткова сябе пераапрануць, змяніць колер валасоў ці прабіць ноздры і вусны срэбным колцам. Трэба яшчэ знікнуць самому. Засынаць нікім і прачынацца нікім. Ёсць неабсяжнай даўжыні сцежкі іншых людзей, што скрыжоўваюцца самі з сабой, і што можа ўтрымаць нас ад таго, каб змяняць сябе дашчэнту? Выходзіць з дома як А, а вяртацца як Б у іншы дом.

З матэрыялу, за капейкі здабытага на турэцкім кірмашы, я зрабіла сабе доўгую сукенку, а з рэшты — сапраўдную чадру. Пацямніла бровы хной. Я ездзіла на метро ў «каляровы» квартал і заглыблялася ў натоўп. Мацала спелыя дыні. Апускала вочы, калі натыкалася на позіркі вусатых мужчынаў. Я далучалася да шматдзетных сем'яў ды ішла за імі, быццам іх паважная далёкая сваячка. Ішла ажно пад дзверы блокавых памяшканняў. Часам непрыкметна за імі ўваходзіла і сядала на канапу за моцную салодкую гарбату, якую піла з маленькіх шкляначак, а пасля дарабляла пакінутыя на століку ручныя вырабы: дзіцячыя шкарпэткі, суконныя капялюшыкі, майстэрскую абшыўку па баках хустачкі.

Я ўжо дакладна пачынала нешта мармытаць на іх цяжкай мове, ужо дапамагала прыносіць з кухні салодкія арэшкі і бралася ляпіць з кашы салодкія, мочаныя у сіропе шарыкі. Але пад вечар мне рабілася задушліва, нешта гнала мяне ад сябе, і на некалькі гадзінаў я пераўтваралася ў хлопца ў бейсболцы і клятчастай кашулі, які з'яўляўся там, дзе іншыя, і тоўк у турэцкі барабан палкай з лямцавым наканечнікам.

Гэта было няцяжка. Так змяніцца. Я выцягвала з сябе гэтыя іншыя постаці, як трусоў з капелюша. Я не стварала іх, не гулялася ў іх.

У суботы я рабілася старой бруднай жабрачкай, якая перамервае блышыны рынак у пошуках пашкоджаных філіжанак і патрэсканых люстэркаў. Мне падабалася, як тады іншыя трымаліся воддаль ад мяне. У мяне ніколі не было столькі прасторы для сябе, як тады.

Раз на месяц я затрымлівалася ў нейкім гатэлі. Выдавала сябе за замежнага бізнэсоўца. Тады я запаўняла папяльнічкі недакуркамі і глядзела па тэлевізары каціроўкі даляра. У ваннай пакідала па сабе пах адэкалону і рэшту крэму для галення. Чаявыя для пакаёўкі — заўсёды крыху больш, чым гэта было прынята, каб яна забыла пра кагосьці, каго не было.

Гэта мяне ніколі не турбавала. Ніколі. Урэшце, я не рабіла для гэтых пераменаў ніякага намагання, я нікога з сябе не выдавала, не йграла, гэта не было тэатрам. Усю працу рабілі іншыя. Таму што ўвогуле не было і размовы пра мяне, намаганне датычыла не майго быцця, а ўспрымання мяне іншымі — і таямніца заўсёды захоўвалася. Напэўна, гэта таму (хаця я ледзьве адчувала сваё адкрыццё), што мяне цягнула да вялікіх крамаў, да велізарных універмагаў, пабудаваных вакол рухомых сходаў, каб вазіць сябе туды і назад, угару і ўніз. Іншыя, напэўна, таксама прыходзілі да гэтай ідэі: у такіх месцах можна схавацца не толькі ад іншых, але і ад самога сябе, ад кружэння вакол сябе і цяжкага складання сябе з паасобных частачак, як з кубікаў «Лега».

Такім чынам я рухалася, як усе гэтыя браты і сёстры ў хаосе, гэтыя супрацоўнікі ў яве, гэтыя аднačасоўцы гульні, паміж асветленымі, бліскучымі секцыямі, запоўненымі гадзіннікамі, сумачкамі, панчохамі, парфумай, французскімі сырамі і моднымі пантофлямі. Рухацца — гэта ўсяго толькі мізэрны дадатак да нашага зроку. Я перамервала секцыі пахаў і праходзіла міма абыякава прыгожай прадавачкі з тонкімі пальцамі, што філігранна найгравалі мелодыі на клавіятурах касавых апаратаў. Я блукала ў лабірынтах развешаных касцюмаў, — яны выглядалі як на хвіліну пазбаўленыя жыцця фігуры, што спяць у чакальнях вялікіх крамаў, але робяцца сапраўднымі, жывымі людзьмі дзякуючы нейкаму несвядомаму целу, якое іх калісьці наведае. Я нястомна вандравала сярод сховішчаў парцаляны, шкла, серабрыста-зіхоткіх сталовых прыбораў, мяккіх купаў ручнікоў і коўдраў, ссоўвалася па сходах уніз, увесь час у плыні іншых, каб на ніжэйшых узроўнях, там, дзе бары і «Бістро», хвіліну адпачыць з кавай, а пасля зноў працавіта ўскараскацца наверх, каб зноў дазваляць сябе замазваць, растапляць, зацямняць, выцвітаць, выціраць, размываць.

Я ішла смела, вялікімі крокамі і шматкроць адлюстроўвалася ў вялізных шыбах. Нас было шмат, тысячы, можа, мільёны. Каля ўваходаў у метро сядзелі каляровыя людзі і лупілі ў барабаны.

Парыкі, прычэпленыя валасы неонавых колераў, чадра, а таксама натуральная сівізна, якая дадае павагі, выпраменьвае з твару спрактыкаваную мяккасць, — я рабілася таксама няпэўнай жанчынай, што карпее ўдзень над сталом, поўным папераў, і часам размаўляе па тэлефоне. Гэта яна, калі стаяла ўвечары перад люстрам у ваннай, калі выцірала ваткай рэшткі макіяжу, заўважала са здзіўленнем, што пад тонкай скурай ёсць нешта цвёрдае і вартае даверу — чэрап. З гэтай думкай я ішла спаць.

Тая жанчына часам прыходзіла да нас з дзіцем Клары. Яна сядала на лаўку. Расказвала нейкую дзівацкую гісторыю пра чалавека, які загадаў зрабіць са сваёй скуры барабан, але ніхто з нас ужо не памятае, як яго звалі.

## Каментар

1. Wuefu (Wayland Union Education Foundation) — міжнародная адукацыйная арганізацыя.
2. Мірабэлкі — ад мірабэль, гатунак слівы.
3. Брэцлі — завітушкі, пякарскі выраб, у Баварыі традыцыйная закуска да піва.

**Пераклад зроблены паводле выдання: Olga Tokarczuk. Gra na wielu bębenkach. — Walbzych, 2002.**

**Пераклаў з польскай Юльян Гайдук, «Прайдзісвет»**

## Міхал Андрасюк, «Поўня»

*(Праграмная рада тыднёвіка «Ніва»)*




Пісьменнік Міхал Андрасюк нарадзіўся і жыве ў Польшчы на Падляшшы, скончыў Беларускі ліцэй у Гайнаўцы. Дэбютаваў як паэт, але пасля напісаў некалькі кніг прозы, галоўныя героі якіх — жыхары польска-беларускага памежжа. Асноўная мова яго твораў — беларуская.

Можна сказаць, што ў кнізе «Поўня» адсутнічае агульны сюжэт, але разам з тым кніга поўніцца мікрасюжэтамі і гісторыямі, якія звязваюць жывое і нежывое, мінулае з будучыняй. Падзеі адбываюцца ў трохкутніку Белавежская пушча — Беласток — Мінск, і тэкст таксама ўяўна складваецца з трох частак, трох ліній, якія пераплятаюцца паміж сабой.

Першы сюжэт, якім адкрываецца кніга, — любоўная лінія. Галоўны герой, ужо немалады, з Беластока прыязджае ў Мінск, дзе на вакзале знаёміцца з дзяўчынай Юліяй, і ў іх «закручваецца» раман.

Другі сюжэт — гэта родныя мясціны аўтара, якія ён апісвае з неверагоднай пяшчотай і любоўю. Родныя вёскі, іх жыхары, успаміны з дзяцінства — усё гэта аўтар выносіць са сваёй памяці, каб падзяліцца з чытачом. Аповеды бабулі, у якіх ластаўкі ўюць гнёзды «з памяці пpaластавак, што адляцелі ў векавечныя выраі», гісторыі пра тое, як правільна ссекчы дрэва, каб не забраць у яго жыццё. Герояў гэтай часткі пераважна няма ў жывых, але гэта не перашкаджае аўтару кантактаваць з імі ў сваіх мроях.

І трэці сюжэт, які не вылучаецца ў асобную частку кнігі, а праходзіць скрозь яе ўсю, — гэта своеасаблівы аўтафікшн, спроба аўтара занатаваць працэс працы над кнігай.

Козыр прозы Міхала Андрасюка ў тым, што ён дадае нашай літаратуры спецыфічнага каларыту, якога не могуць даць, напрыклад, літаратары з беларускай сталіцы.

Між іншым, сёлета «Поўня» заняла 2-е месца ў літаратурнай Прэміі Гедройца — галоўнай беларускай прэміі для празаікаў.

## Сяргей Пясецкі, «Запіскі афіцэра Чырвонай Арміі»

*(Выдавецтва «Медысонт»)*

Гэты год у беларускім кнігавыданні можна смела назваць годам Сяргея Пясецкага (1901–1964). Сёлета па-беларуску выйшлі яго «Менская трылогія» (пра злодзеяў і блатны свет сто гадоў таму), «Каханак Вялікай Мядзведзіцы» (пра кантрабандыстаў у ваколіцах Ракава). Чарговая кніга — гісторыя прыходу Чырвонай Арміі ў верасні 1939 года ў Заходнюю Беларусь. Пясецкі апісаў гэтую падзею вачыма савецкага афіцэра Міхаіла Зубава. Ураджэнец расійскай глыбінкі, вайсковец, цалкам празамбіраваны палітрукамі. Ён верыць, што паўсюль жывуць горш, чым у Савецкім Саюзе. І паход у Заходнюю Беларусь успрымае выключна як вызваленне сялян ад «польскіх буржуяў». На справе ж высвятляецца, што ў Вільні, Лідзе, дзе ён знаходзіцца, нават рабочыя і сяляне бы тыя «буржуі» — добра апрануты, маюць дастатак на стале. Праз сваю заідэалагізаванасць




з Зубавым здараюцца розныя кур'ёзы: то два гадзіннікі начэпіць на руку дзеля саліднасці, то тэрмас для чаю прыме за бомбу...

Сяргей Пясецкі высмейвае савецкі лад, разам з тым і чалавечую прыроду падладжвацца: спачатку Зубаў славіць Сталіна, калі Гітлер нападае на Савецкі Саюз — нямецкага дыктатара, а калі выяўляецца, што Вялікабрытанія стала саюзніцай СССР — Чэрчыля. Вобраз савецкага афіцэра зборны і «ўласцівы» для любой краіны. Чалавек, які не мысліць крытычна, можа лёгка стаць ахвярай якой заўгодна прапаганды.

Дарэчы, «Запіскі...» напісаны ў 1948 годзе. Прыход жа Саветаў у Заходнюю Беларусь Пясецкі бачыў сам, таму рэаліі ў творы аўтэнтычныя.

На беларускую мову з польскай кнігу пераклаў Алесь Астравец.

## Сара Лундберг, «Птушка ўва мне ляціць куды захоча»

*(Выдавецтва «Коска»)*

Гэта кніга, якую можна з лёгкасцю параіць для чытання як падлеткам, так і дарослым. Дзеці ўбачаць у ёй гісторыю дзяўчынкі Бэрты, якая мае хобі, але яе тата не бачыць у тым практычнай карысці. Дарослыя ж будуць «прымерваць» на сябе ролю гэтага таты...

Вясковая дзяўчынка Бэрта жыве ў шматдзетнай сям'і. Яна мае любімы занятак — маляванне. Толькі вось рэальнасць не пакідае ёй магчымасці для самарэалізацыі: трэба дапамагаць па гаспадарцы, гатаваць.

«Думаю, калі б я была птушкай, то змагла б паляцець з нашай вёскі. Да іншага жыцця. Туды, дзе я была б той, кім я ёсць. Дзе ніхто не крычыць на мяне і не лічыць нязграбнай дзівачкай», — думае Бэрта.

У школе настаўнік не дазваляе маляваць так, як яна бачыць, — дзяўчынка павінна рабіць толькі так, як ёй кажуць. Тата не разумее яе занятку, лічыць, што мастак — не прафесія для дзяўчынкі. Толькі хворая мама ўспрымае занятак дачкі як нешта значнае.

Гэта кніга пра адвечную праблему дзяцей і бацькоў: адны хочуць самастойнасці ў самарэалізацыі, а другія не дазваляюць ім прыняць рашэнні.

Між іншым, у кнізе пісьменніца апісала рэальную гісторыю шведскай мастачкі Бэрты Хансан. Яна прайшла ўжыццё перыяды ад неразумення блізкіх да прызнання яе працы ў свеце.

Сара Лундберг сама зрабіла і малюнкі да кнігі. Са шведскай мовы тэкст пераклала Надзея Кандрусевіч. У Швецыі «Птушка ўва мне ляціць куды захоча» прызнана найлепшым творам для дзяцей 2017 года. А ў Мінску да 10 лістапада праходзіць выстава ілюстрацый да яе (Нацыянальны цэнтр сучасных мастацтваў, вул. Някрасава, 3).

**Наста Карнацкая, Сяргей Беражны (onliner.by)**



# «Той край, дзе ўтульна мне было»

**У выдавецтве «Брэсцкая друкарня» накладам у 250 асобнікаў выйшла паэма Васіля Дэбіша «Шамятоўка». Эпіграфам да паэмы аўтар узяў радок несмяротнай Коласавай паэмы: «Мой родны кут, як ты мне мілы!..»**

Асноўная праблематыка твора — імкненне бацькоў вывесці сваіх дзяцей у людзі ў рэаліях савецкай рэчаіснасці сямідзясятых гадоў, не даць ім растраціць спаконвечныя сялянскія і чалавечыя каштоўнасці.

Як і ў класічным творы, памяць вяртае лірычнага героя ў дзяцінства.

*Плыву на хвалях успамінаў*
*У край, які даўно пакінуў,*
*І расхінаецца ў прасторы*
*Луг ля стаўка — зялёным морам.*

Можна заўважыць, што ў «Шамятоўцы» адчуваецца стылёвае перайманне і падсвядомае запазычанне асобных сюжэтных тэм паэмы Якуба Коласа. І гэта лёгка патлумачыць. Твор класіка беларускай літаратуры, «аўтарытэтная» мадэль стылёвай традыцыі — не можа не ўздзейнічаць на паслядоўнікаў генія айчыннай літаратуры. Аднак разам з гэтым у «Шамятоўцы» свае адметныя героі, якія не глядзяць на свет вачыма персанажаў «Новай зямлі». У «Шамятоўцы» адрозная партрэтная характарыстыка, характары.

Запамінальна абмалявана хата, у якую вяртаецца лірычны герой. Тут:

*Кухня з велічэзнай печкай,*
*Дзе патыхала мёдам, грэчкай,*
*Картопляй свежай, скваркай тлустай,*
*І пірагамі, і капустай.*

З любоўю апісваецца падворак, сад і агарод, на якім «гарбуз з гарачымі бакамі ляжаў між градак з буракамі».

Гараджаніну ў першым пакаленні ўспамінаецца залатая пара дзяцінства: дзед — «не з магнатаў», цікавы апавядальнік, прызнаны знаўца пушчанскіх легендаў; бабуля — увасабленне чалавечай ласкі і дабрыні, бацька — дамарослы паэт з блакнотам і алоўкам на прыступках ганка. Дарэчы, гаспадар, «чаго ўжо там таіцца» (Якуб Колас), любіў выпіць добрую кварту горкай. Аўтар «пачарачна» прасочвае яго настрой — ад першай і да апошняй, якая прыкоўвала да стальніцы... Разам з тым, бацька — прага справядлівасці, пачуццё ўласнай годнасці.

З асаблівай любоўю, я б нават сказаў — абагаўленнем, малюецца вобраз маці. Яна — прыклад трывушчасці і гаспадарлівасці, мудры дарадца і педагог. Дзеці, якім яшчэ не прыйшла пара араць і касіць, больш часу праводзяць з маці:

*Як гусянятачкі за гускай,*
*Ішлі за ёй мы сцежкай вузкай.*

Хвала маці, што выпеставала адразу двух паэтаў (маю на ўвазе і роднага брата Васіля — Анатоля Дэбіша).

А якое дзяцінства без прыгод і забаў!.. Самыя бяскрыўдныя з іх — салёная гарбата, суседскія слівы, скрадзеныя каўбаса і галоўкі маку. А быў жа яшчэ бацькаў пяршак у вуха прыхварэлага брата і жывы рак у ложку гаспадара.

У творы вялікая колькасць легенд, падслуханых у той час, калі госці, улагоджаныя пачастункам, «пачнуць казаць свае ўспамінкі, вясці размовы пра старынкі» (Якуб Колас).

Цікава паказаны вясковы побыт. І ў пару дэтэктыўных тэлесерыялаў сцепанешся, чытаючы пра тое, як змагаецца за жыццё прыгавораны для перадкалядкага забою вяпрук...

Адзін з асноўных герояў паэмы — прырода роднага для паэта пушчанскага краю ў розныя поры года. Тут вельмі многа адметных, скрупулёзна вымаляваных дэталяў, якія не могуць не захапляць. Аўтар з любоўю апісвае крынічку, што «бяжыць гарэзліва, як быццам да рэчкі ў скварны дзень дзіцятка», качанятак, што смешна дрыгаюць ножкамі паміж аеру ў затоцы. А колькі паэтычных думак нараджаецца, калі «пасці аблокі», лежачы пасярод сланечнікавага поля (адзін з пятнаццаці раздзелаў так і называецца — «Сланечнікі»), ці, не адрываючыся, любавацца навальніцай! Усяго толькі некалькі заключных радкоў з аднайменнага раздзела:

*Цішэе вецер і знікае —*
*Аб сосны патрапаў крыло, —*
*І хмара, чорная ды злая,*
*Сплывае, як і не было.*

Браты ідуць з маці ў царкву, пасуць статак на выгане, гуляюць з сабакам Жулікам, збіраюць грыбы ці вудзяць рыбу — паўсюдна прырода і як фон, на якім адбываецца дзеянне, і як аб'ект для захаплення. Яна ў творы — своеасаблівая ода роднаму краю.

Напрыканцы хачу сказаць, што «Шамятоўка» — матэрыял для дыскусіі пра свядомае і несвядомае, актыўнае і пасіўнае перайманне класічных традыцый у айчыннай літаратуры. У другой палове мінулага стагоддзя «Новая зямля» дапамагла цікаўнаму, няўрымсліваму пушчанскаму хлопчыку, будучаму паэту, больш пільна ўглядацца ў навакольны свет і людзей вакол сябе, каб праз паўвека гэтыя ўражанні ўвасобіліся ў «Шамятоўцы» — цікавай і змястоўнай паэме пра родны край.

**Мікола СЯНКЕВІЧ**

# «Сусветная кніжная сталіца» 2021 года

**Генеральная дырэктарка сусветнай арганізацыі «UNESCO» (установы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры) Адры́ Азула́й назвала «Сусветную кніжную сталіцу» 2021 года. Ёю стала сталіца Грузіі — Тбілісі.**




Праграма галоўных кніжных падзей 2021 года ў Тбілісі будзе праходзіць пад дэвізам «OK. Такім чынам, ваша наступная кніга...? »(Ok. So your next book is...?) і сфакусуецца на выкарыстанні сучасных тэхналогій у якасці магутных інструментаў для прасоўвання чытання сярод дзяцей і моладзі. Асноўнай мэтай кніжнай сталіцы свету стане папулярызацыя чытання і павышэнне даступнасці кніг для ўсіх сацыяльных узроўняў.

Кансультатыўны камітэт па вылучэнні кандыдатуры «Сусветнай кніжнай сталіцы» складаецца з прадстаўнікоў Міжнароднай асацыяцыі выдаўцоў (IPA), Міжнароднай федэрацыі бібліятэчных асацыяцый (IFLA) і «UNESCO».

# Невядомы раман Францазы Саган

**Апублікаваны «страчаны» раман вядомай пісьменніцы і драматурга Францазы Саган (1935–2004), што сёлета стала найбуйнейшым літаратурным сюрпрызам у Францыі.**



Няскончаная 200-старонкавая гісторыя была знойдзена сынам пісьменніцы — Дэнісам Вестхофам — у хатняй скрыні пасля смерці маці яшчэ ў 2004 годзе.

Як і дэбютны раман Францазы Саган, які працавітая пісьменніца напісала, калі ёй было ўсяго 17 гадоў, тэкст «Чатыры куты сэрца» ўяўляе лаканічны выклад жыцця французскага вышэйшага класа. Гэта незвычайны любоўны трохкутнік, у цэнтры якога знаходзіцца багаты бізнэсмэн Людовік Крэсон, які разбагацеў на вытворчасці гародніны. Але, як і сама Саган, ён трапляе ў жудасную аўтамабільную аварыю, пасля якой становіцца ахвярай забылтаных любоўных адносін са сваёй свякрухай.

Францаза Саган сама ледзь не памерла на піку сваёй папулярнасці ў 1957 годзе, калі разбілася на спартовай машыне «Aston Martin» і ўпала ў кому. Аднак нават пасля жудаснай аварыі яна паехала з Парыжа ў Монтэ-Карла на сваім іншым аўто «Jaguar», каб гуляць у азартныя гульні за сталамі казіно. Бісэксуальная геданістка, маладая Саган агаломшвала не толькі парыжскае грамадства, з якога выйшла, але і ўвесь літаратурны свет.

Вядомы фатограф Дэніс Вестхоф прызнаўся, што знайшоў рукапіс, які складаецца з дзвюх частак, пасля смерці маці. Ён апісаў гэтую знаходку як «цуд» — падчас серы судовых баталій за матчыну маёмасць, якая была «канфіскавана, прададзена, перададзена або набыта сумнюўнымі спосабамі».

У прадмове да кнігі ён прызнаецца, што раней прыносіў тэкст рэдактару Францазы Саган (цяпер нябожчыку), які не захацеў публікаваць яго. Але сын пісьменніцы вырашыў сам дапрацоўваць рукапіс, дадаючы прапушчаныя словы, а часам і цэлыя абзацы. Вестхоф сказаў, што «неабходна было ўнесці выпраўленні, імкнучыся не змяняць стыль ці тон рамана».

# Знакамітыя і багатыя

## Дзясятка найпаспяховых пісьменнікаў

1. Пальма першынства ў неабвешчанай намінацыі «Найбагатая і вядомая» належыць **Джоан Роўлінг,** якая за літаратурную працу змагла атрымаць больш за 1 мільярд даляраў.

Самая высокааплатная аўтарка ў свеце таксама з'яўляецца і адной з самых дасведчаных у бізнэсе (ці, прынамсі, мае такіх прадзюсэраў-кансультантаў). Дзякуючы стварэнню чароўнага свету, апісанага ў раманах пра Гары Потэра, Джоан Роўлінг не толькі запаланіла ўяўленні мільёнаў чытачоў па ўсім свеце, але і стварыла велізарную камерцыйную імперыю ў літпрацэсе. У свае пяцьдзясят чатыры гады аўтарка мае прыбытак не толькі ад кніг (уключаючы п'есы і розныя «пабочныя прадукты»), але і папаўнае рахункі за кошт прасоўвання іншай тэматычнай прадукцыі, тэматычных паркаў ды, вядома ж, надзвычай папулярных экранізацый фільмаў, а гэта азначае, што толькі ў 2018 годзе капітал Роўлінг папоўніўся на пяцьдзясят чатыры мільёны даляраў. Джоан Роўлінг сёлета працавала над пастаноўкай «Фантастычных стварэнняў: злачынствы Грындэвальда», а таксама пісала (пад псеўданімам Раберта Гэлбрэйт) фантастыку для дарослых, якая не адносіцца да легендарнай «патэрыяны».

2. Былы студэнт юрыдычнага факультэта, які стаў лірыкам і хіпі, **Паўло Каэльо** мае на сваіх банкаўскіх рахунках каля паўмільярда даляраў. Ён напісаў некалькі раманаў у 1980-х гадах у сваёй роднай Бразіліі. Адзін з іх, «Алхімік», заставаўся адносна невядомым на працягу некалькіх гадоў, пакуль «Harper Collins» не перавыдала яго ў 1994 годзе. Раман хутка стаў класікай і адразу ж здабыў міжнародную славу, што прывяло да новых публікацый і прызнання крытыкаў. З таго часу Каэльо супрацоўнічаў у многіх творчых праектах на розных узроўнях і працягвае пісаць на партугальскай мове (яго апошні раман «Хіпі» быў апублікаваны ў красавіку 2018 года). Ён працуе і над тэлевізійнымі адаптацыямі некаторых сваіх твораў. Так што, магчыма, у хуткім часе свет убачыць чарговы шэдэўр аўтара, але ўжо на экране тэлевізараў.

3. Майстар жахаў **Стывен Кінг** змог зарабіць літаратурай каля 400 мільёнаў даляраў. Ён праславіўся на ўвесь свет сваімі творамі, адаптаванымі ў фільмы жахаў: «Кэры», «Ззянне», «Яно», а таксама фэнтэзійнымі гісторыямі з захапляльнымі сюжэтамі: «Цёмная вежа», «Лавец сноў» і «Беглы чалавек». Глядач мог не раз назіраць на вялікіх экранах і такія легендарныя фільмы, як «Падтрымайце мяне» і «Уцёкі з Шоўшэнка», знятыя па серыі кароткіх апавяданняў аўтара. Кінг вядомы сваёй дабрачыннасцю і палітычнай актыўнасцю, а таксама тэлевізійнымі працамі ды музычным супрацоўніцтвам, цешачы армію прыхільнікаў новымі шэдэўрамі.

4. Каралева рамантычнага жанру **Нора Робертс** зарабіла 390 мільёнаў даляраў. Яна пачала сваю літаратурную кар'еру як «маці, якая сядзіць дома і нудзіцца». Пасля шматлікіх адмоваў ад выдавецтваў яна, нарэшце, змагла апублікаваць свой дэбютны твор «Ірландскія чыстакроўныя» ў 1981 годзе. З тых часоў аўтарка атрымала мноства ўзнагарод, а яе шматлікія раманы былі адаптаваныя для тэлевізійных фільмаў. Варта згадаць, што яе чарговы твор «Of Blood and Bone» пабачыў свет у снежні 2018 года.

5. На рахунку **Даніэлы Стыл** 165 апублікаваных раманаў і 375 мільёнаў даляраў. На сённяшні дзень «у арсенале пісьменніцы» пяць шлюбаў і шмат дзяцей, якія натхнялі да пабудовы «выкручастых» сюжэтаў. Былы рэкламны капірайтэр, яна выдумляла розныя гісторыі, пісала іх у вольны ад працы час. А затым, у 1972 годзе, ёй удалося апублікаваць свой першы раман. І нягледзячы на тое, што ў свае семдзесят два гады яна так і не атрымала прызнання крытыкаў за свае творы, гэта не паўплывала на яе папулярнасць сярод чытачоў. Пісьменніца працягвае публікаваць некалькі раманаў кожны год — і атрымліваць за гэта немалыя ганарары.

6. **Джэймс Патэрсан,** чалавек, які цяпер у многіх на слыху, былы дырэктар па маркетынгу, апублікаваў свой першы раман у 1976 годзе. З таго часу кніга з'яўляецца «асновай» мастацкай літаратуры ў ЗША і рэкардсмэнам-бэстсэлерам па версіі аўтарытэтнага выдання «New York Times». Па ўсім свеце прададзены дзясяткі мільёнаў кніг Джэймса Патэрсана. За што ён і змог зарабіць 310 мільёнаў даляраў. У свае семдзесят два гады пісьменнік здабыў мноства прыхільнікаў і зайздроснікаў, у тым ліку і ў асобе крытыкаў, якія скептычна ставяцца да таго факту, што большая частка яго тэкстаў напісана ў суаўтарстве. Можна згадаць і нядаўняе супрацоўніцтва з экс-прэзідэнтам ЗША Білам Клінтанам. Тым не менш, аўтар увесь час з'яўляецца на тэлебачанні, а яго кнігі працягваюць прадавацца.

7. Былы адвакат па крымінальных справах **Джон Грышэм** мае ў сваіх «кішэнях» 200 мільёнаў даляраў. Большая частка яго твораў была заснаваная на рэальных падзеях, звязаных з судовымі пасяджэннямі і не толькі. Яго творы перакладзеныя на 42 мовы свету. А дэбютны англамоўны раман аўтара «Час забіваць» пасля 28 адмоваў быў выдадзены ў 1988 годзе ўсяго пяцітысячным накладам. Сёння ж юрыдычныя і палітычныя трылеры Джона Грышэма лідзіруюць у спісах самых прадаваных кніг. А прарыў у кар'еры аўтара адбыўся ў 1989 годзе, калі згаданая кніга «Час забіваць» — гісторыя, заснаваная на сведчаннях ахвяры, якія пісьменнік пачуў у судзе, а затым адаптаваная ў фільме з Мэцью Макконах'ю і Сандрай Балак — набыла шырокі розгалас. З тых часоў яшчэ сем кніг пісьменніка атрымалі «галівудскую трактоўку» (перш за ўсё «Фірма» з Томам Крузам).

8. Стваральнік легендарных «Мурашак» **Роберт Лоўрэнс** Стайн здолеў зарабіць 200 мільёнаў даляраў. Серыя дзіцячых кніг жахаў была ім створана ў 1990-х гадах і пасля была адаптаваная ў тэлесерыял. А дзясяткі іншых серыялаў жахаў, знятых па матывах гісторый сямідзесяціпяцігадовага пісьменніка, прывялі іх стваральніка да культавага статусу і значнага фінансавага даходу. Стайн працягвае пісаць у асноўным для дзяцей і падлеткаў.

9. 200 мільёнаў даляраў мае і **Джэфры Арчэр.** Ён — член Палаты лордаў, раней з'яўляўся членам парламента ў сваёй роднай Вялікабрытаніі і на працягу ўсёй кар'еры абвінавачваўся ў «брудным» гандлі і паклёпах. Судовыя працэсы і фінансавыя скандалы зрабілі Арчэра-парламентарыя банкрутам — і прымусілі яго змяніць палітыку на літаратарства, каб хоць неяк папоўніць «апусцелыя рахункі і кішэні». У выніку гэтай вымушанай змены кар'еры Арчэр напісаў шэраг раманаў, кароткіх апавяданняў і п'ес, а таксама трылогію з дзённікаў, якія распавядаюць аб часе, праведзеным у турме за ілжэсведчанне. Яго чарговы раман пад назвай «Heads You Win» пабачыў свет у лістападзе 2018 года.

10. **Дэн Браўн** таксама не застаўся «збоку» і заняў дзясяты радок у спісе найбагатых літаратараў свету, зарабіўшы 160 мільёнаў даляраў. Хто б мог падумаць, што колішні музыкант, які вырашыў прысвяціць сябе літаратуры, дасягне такіх папулярных вышыняў у такім няпростым рамястве. Ягоным дэбютам стала кніга «Лічбавая крэпасць». У 2000 годзе выйшаў першы з яго раманаў пра Роберта Лэнгдана «Анёлы і дэманы». У 2003 годзе — другі, упадабаны многімі, раман «Код да Вінчы». Нягледзячы на дрэнныя водгукі, шматлікія недакладнасці ў творы і абвінавачванні ў плагіяце, гэтая кніга стала самым прадаваным бэстсэлерам года. У выніку, пасля ашаламляльнай папулярнасці, была серыя высокабюджэтных галівудскіх кінаадаптацый, якія з'явіліся на вялікіх экранах па ўсім свеце.

**У падрыхтоўцы старонкі выкарыстаны матэрыялы «Agence France-Presse», novostiliterratury.ru, CNN і «The Associated Press».**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 354-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# «Сляпыя зоны» беларускага грамадства

Саша РАЙКАН

**Нават у цяперашняй Расіі ў грамадскіх назіральных камісій больш паўнамоцтваў, чым у нашых у Беларусі.**

Магілёўская вобласць — край палітвязняў. У розны час у мясцовых калоніях і турмах адбывалі свой тэрмін праваабаронца Алесь Бяляцкі, палітыкі Андрэй Саннікаў, Зміцер Дашкевіч, Мікалай Статкевіч, анархіст Яўген Васьковіч. Усяго год таму з бабруйскай папраўчай калоніі №2 вызвалілі Дзмітрыя Паліенку. Нават цяпер Магілёўская вобласць застаецца прытулкам для «апошняга палітвязня краіны» — Міхаіла Жамчужнага, які адбывае пакаранне ў горацкай ПК №9.

Тым больш здзіўляе, што менавіта ў гэтым рэгіёне ў праваабаронцаў раптам з'явіўся ўнікальны шанец пабачыць на свае вочы, што ж адбываецца па той бок турэмных сцэнаў. У студзені 2018 года галоўнае ўпраўленне юстыцыі Магілёўскага аблвыканкама ўключыла чальца Магілёўскага праваабарончага цэнтра, юрыста ПЦ «Вясна» Барыса Бухеля ў ГНК.

ГНК — гэта грамадская назіральная камісія пры Упраўленні юстыцыі Магілёўскага аблвыканкама. Яна ажыццяўляе кантроль за дзейнасцю органаў і ўстаноў, што выконваюць пакаранне і іншыя меры крымінальнай адказнасці.

На справе ўсё аказалася не так вясёлкава — па словах Бухеля, паўнамоцтваў у ГНК вельмі мала, а інструменты рэагавання фактычна адсутнічаюць.

Праваабаронца параўноўвае з сітуацыяй у Расіі — там цяпер гайкі з правамі чалавека хоць і зацiскаюць да ўпору, але ГНК маюць значна больш паўнамоцтваў. Ужо праз некалькі гадзін пасля паведамлення аб парушэнні правоў зняволенага расійскія калегі могуць прыбыць у выпраўленчую ўстанову і асабіста пагаварыць з вязнем.

У Беларусі гэта так не працуе. Адны з першых візітаў пасля ўключэння Бухеля ў ГНК назіральная камісія зрабіла ў калоніі, дзе ўтрымліваліся апошнія на той момант палітвязні — у бабруйскую ПК №2 да Дзмітрыя Паліенкі і ў горацкую ПК №9 да Міхаіла Жамчужнага. Адміністрацыі папраўчых установаў зрабілі ўсё, каб не даць праваабаронцу сустрэцца з імі:

*— Адзіная функцыя беларускіх ГНК цяпер — гэта экскурсіі ў турмы і калоніі, паглядзець на рамонт. У Крымінальна-выканаўчым кодэксе не прапісаны канкрэтныя правы ГНК, усё залежыць ад лаяльнасці дэпартамента выканання пакаранняў і адміністрацыі калоніі,* — кажа Бухель.


Барыс Бухель

**«Адзіная функцыя беларускіх ГНК цяпер — гэта экскурсіі ў турмы і калоніі, паглядзець на рамонт. У Крымінальна-выканаўчым кодэксе не прапісаны канкрэтныя правы ГНК, усё залежыць ад лаяльнасці дэпартамента выканання пакаранняў і адміністрацыі калоніі»**

У апошняй рэдакцыі палажэння аб ГНК сказана, што прадстаўнікі камісіі маюць права сустрэцца і размаўляць з вязнямі. На справе ж, скардзіцца праваабаронца, кіраўніцтва калоніі заўсёды знойдзе спосаб не пусціць камісію да патрэбнага вязня — ці ён пастаянна ў ШІЗА, ці на прамзоне, ці проста адмовіць.

Паводле словаў праваабаронцы, у палажэнні аб ГНК сказана, што камісія ажыццяўляе кантроль за дзейнасцю папраўчых установаў — і гэта максімальна расплывістая фармулёўка.

*— Павінна быць запісана, што наша функцыя — назіранне за выкананнем правоў зняволеных. А нам спрабуюць прыпісаць кантроль менавіта над папраўчай установай. Нам могуць паказваць, што ў іх ёсць вытворчасць, нейкія бухгалтарскія рахункі, даваць справаздачу за гаспадарчую дзейнасць. Увогуле — поўная глупства,* — распавядае Бухель.

Праваабаронца сцвярджае, што абсурд палажэння пра ГНК разумеюць нават у Міністэрстве юстыцыі. Там ходзяць кулуарныя размовы, што сітуацыя магла б выправіцца, калі б папраўчыя ўстановы перадалі з ведамства Дэпартамента выканання пакаранняў якраз да Мінюсту. Але гэта — занадта далёкая перспектыва.

Нягледзячы на ўсе праблемы, Барыс Бухель верыць, што стан рэчаў можна паправіць. У лютым-сакавіку 2020 года павінен адбыцца семінар-нарада па пытаннях функцыянавання пенітэнцыярнай сістэмы з удзелам чыноўнікаў і замежных дыпламатаў. Менавіта там праваабаронца спадзяецца атрымаць падтрымку ўласных ідэй: пісьмовае палажэнне аб ГНК, выразныя паўнамоцтвы камісіі і нацэленасць на кантроль менавіта за выкананнем правоў зняволеных.

Калі ж гэтага не адбудзецца, Бухель «вясельным генералам» быць не збіраецца:

*— Легітымізаваць глупства і імітацыю бурнай дзейнасці ўладаў і ДВП я не буду. Калі прыйдзецца плюснуць дзвярыма з ГНК — так таму і быць.*

# Беларускія СІЗА як канец святла

Аляксандр БУРАКОЎ

**«Лічыцца, што немагчыма добра зразумець краіну, пакуль не пабудзеш у турме. Не варта рабіць выснову пра краіну на падставе таго, як у ёй ставяцца да прадстаўнікоў вышэйшага грамадства, мяркуйце пра краіну па адносінах да тых, хто знаходзіцца на ніжэйшым узроўні», — пісаў Нэльсан Мандэла.**

Калі мы прачынаемся раніцай і глядзім у акно — нават не задумваемся пра тое, які гэта прывілей. Санітарныя нормы і правілы, зацверджаныя Міністэрствам аховы здароўя, гарантуюць нам дзве гадзіны прамых сонечных прамянёў у дзень. Для гэтага будаўнікоў прымушаюць замяраць каэфіцыент натуральнай асветленасці. Ніводны жылы дом альбо прамысловы корпус ніколі не будзе здадзены ў эксплуатацыю, калі ў вокны не завітае прамень сонца.

Але ўявіце, што на ваша акно прывараны металічны шчыт ва ўсю яго плошчу. На другі дзень вы зразумееце, што такое «канец святла», а ваша жытло праз пару месяцаўператворыцца ў сырую вязніцу. У беларускіх СІЗА менавіта так і адбываецца.


Фота spring96.org

Прымяненне металічных жалюзі прадугледжана пунктам 45 Правілаў унутранага распарадку калоній і СІЗА, зацверджаных МУС. Атрымліваецца, што адзін падзаконны акт, зацверджаны МУС, супярэчыць іншаму, зацверджанаму Мінздароўя.

Пытанне, як выправіць гэтую відавочную калізію, пакінула ў тупіку службовых асоб Дэпартамента выканання пакаранняў, Дэпартамента фінансаў і тылу МУС і пракуратуры.

Здавалася б, нічога не перашкаджае зрэзаць гэтыя металічныя канструкцыі і пакінуць звычайныя краты, як гэта зрабілі, напрыклад, у Расіі. Але беларускі ДВП не здаецца. Ужо шосты месяц праваабаронцы магілёўскага аддзялення ПЦ «Вясна» вядуць перапіску з чыноўнікамі МУС, паказваючы, што ўмовы ўтрымання ў беларускіх СІЗА парушаюць не толькі міжнародныя правілы, але і беларускае заканадаўства. У адказ афіцэры хаваюцца за сціслымі фармулёўкамі: «Умовы ўтрымання адпавядаюць патрабаванням дзеючага заканадаўства».

**Недахоп натуральнага асвятлення негатыўна ўплывае не толькі на зрок, але і на псіхіку чалавека, яго эмацыйны стан. Гэта тлумачыць тое, чаму вязні ўвесь час знаходзяцца ў дэпрэсіі**

А далей у іх лістах — сентэнцыя, што даводзіць сітуацыю да абсурду: вымярэнне каэфіцыенту натуральнай асветленасці ў камерах СІЗА не праводзілася, бо яго немагчыма выканаць з-за прыкручанай да падлогі мэблі! Але як можна заяўляць, што ўмовы ўтрымання адпавядаюць закону, калі неабходныя замеры не праводзіліся? Проста поле цудаў!

Парушэнняў правоў сваіх грамадзян дзяржава спрабуе не заўважаць. Як гром сярод яснага неба для супрацоўнікаў пенітэнцыярных установаў гучаць прынятыя яшчэ ў 1955 годзе Генасамблеяй ААН патрабаванні мінімальных стандартных правілаў ААН наконт абыходжання са зняволенымі. Чатыры гады таму яны былі перагледжаныя, абноўленыя і атрымалі назву «Правілаў Нэльсана Мандэлы» ў знак павагі да спадчыны нябожчыка-прэзідэнта ПАР. Правілы Нэльсана Мандэлы пачынаюцца з яго цытаты, прыведзенай напачатку артыкула.

Яны ўтрымліваюць сусветныя стандарты ў дачыненні да пазбаўлення волі. Рэестр зняволеных, разбіўка па катэгорыях з улікам полу, узросту і папярэдняй судзімасці, гігіена і спальныя рэчы — усё гэта скрупулёзна прапісана і нават няўхільна выконваецца Рэспублікай Беларусь. Але як толькі даходзіць да стандартаў памяшканняў, у якіх утрымліваюцца зняволеныя, то, як у казцы, дзе карэта ператвараецца ў гарбуз, СІЗА ператвараецца ў сырадняевечны каземат.

Правіла 14 МСП (правілаў Нэльсана Мандэлы) кажа:

«У памяшканнях, дзе жывуць і працуюць зняволеныя:

а) вокны павінны мець дастатковыя памеры для таго, каб зняволеныя маглі чытаць і працаваць пры дзённым святле, і павінны быць сканструяваныя так, каб забяспечваць доступ свежага паветра, незалежна ад таго, існуе ці не штучная сістэма вентыляцыі».

У гэтым месцы свята заканчваецца. На вокнах беларускіх СІЗА дагэтуль паўсюдна выкарыстоўваюцца так званыя «вейчыкі» — металічныя палоскі шырынёй 5–6 сантыметраў, прываранымі да кратаў з вонкавага боку акна пад вуглом 45 градусаў. З-за іх натуральнае святло ў камеру не трапляе. Паўзмрок, знаходжанне пры кругласутачным электрычным асвятленні на працягу многіх месяцаў, а часам і гадоў, прыводзіць да страты зроку. Дактары адзначаюць, што недахоп натуральнага асвятлення негатыўна ўплывае не толькі на зрок, але і на псіхіку чалавека, яго эмацыйны стан. Гэта тлумачыць тое, чаму вязні ўвесь час знаходзяцца ў дэпрэсіі.

Паводле закону, дзяржава выракам суда ад імя Рэспублікі Беларусь (то-бок, ад нас з вамі), пазбаўляе чалавека самага дарагога — свабоды і часу. Але на практыцы якраз гэтага беларусы не вельмі баяцца. Страшна, што чалавек у СІЗА пазбаўляецца здароўя і можа выйсці на свабоду інвалідам. І, нагадаем, адбываецца гэта яшчэ да таго, як суд нашым імем вынесе вырак, бо ў СІЗА сядзяць людзі, якія знаходзяцца пад следствам. Іх віна не даказаная: ёсць і тыя, каго пасля адпускаюць.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КЫРГЫЗСТАН. Бога хочуць пасадзіць

МУС Кіргызстану распачало крымінальную справу па факце выступу Арстанбека Абдылдаева (ён жа Арстан Алай), які абвясціў сябе богам. Арстан Алай абвясціў пра сваю містычную сутнасць у інтэрв'ю яшчэ ў канцы верасня. «Бог надзяліў аднаго чалавека паўсюднай энергіяй — Арстан Алая, і таму я лічу сябе новым богам! Я выконваю дадзеную мне звыш місію», — сказаў ён. У тым жа інтэрв'ю эзатэрык паабяцаў, што ў 2020 годзе месца прэзідэнта зойме сам Абдылдаеў. Пра гэтую заяву прыгадалі на пасяджэнні парламента. Хутка тэкст выступу Алая быў накіраваны на экспертызу на наяўнасць прыкмет распальвання рэлігійнай варожасці. Такія заклікі аператыўна выявілі, што і стала падставай для арышту самаабвешчанага бога. Пакуль лёс Абдылдаева незразумелы. Дарэчы, у 2011 годзе Абдылдаеў удзельнічаў у прэзідэнцкіх выбарах, але набраў 0,47% галасоў выбаршчыкаў. Аднак шырокую вядомасць ён здабыў некалькімі месяцамі пазней, калі на прэс-канферэнцыі заявіў, што ў 2012 годзе настане Залатая эра, і што ўсё жыццё на Зямлі пачалося ад кыргызаў.

**Паводле кыргызскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Нацызму магло не быць

З такім сенсацыйным тэзісам выступіла выданне Junge Freiheit. Падставай для яго стаў 105-ы юбілей публікацыі так званага «Маніфесту 93-х». Гэта быў зварот да сусветнай культурнай грамадскасці, падпісаны 93 вядомымі нямецкімі інтэлектуаламі, артыстамі і навукоўцамі ў кастрычніку 1914-га. У сваім лісце яны патэтычна аспрэчвалі тэзісы брытанскай прапаганды, што на тэрыторыі акупаванай немцамі заходняй Бельгіі праводзяцца нематываваныя рэпрэсіі супраць насельніцтва. Калі верыць падпісантам, пасля ўварвання немцаў у Бельгію ў жніўні 1914-га спіраль гвалту раскруцілі мясцовыя партызаны, дзеянні якіх трапляюць пад катэгорыю ваенных злачынстваў. Брытанская прапаганда «Маніфест 93-х» праігнаравала і працягнула эксплуатаваць вобраз Бельгіі як ахвяры германскага імперыялізму, дабіўшыся росту антынямецкіх настрояў ва ўсім свеце. Узоры брытанскай прапаганды сустракаў і малады яфрэйтар Адольф Гітлер. Пазней у Mein Kampf ён адзначаў, што свайму нахабнаму прапагандысцкаму стылю ён навучыўся ў брытанцаў. Менавіта гэты стыль, як сцвярджае Junge Freiheit, з часам дапамог нацыстам прыйсці да ўлады. Версія пра тое, што ва ўсім вінаватыя брытанцы, вядома, забаўная, але нельга забывацца на фэйкі нямецкіх агітатараў, якія таксама прыпісвалі жаўнерам краінаў Антанты жудасныя якасці.

**Паводле нямецкай прэсы**

### РАСІЯ. Пуцін пазелянее?

У адміністрацыі кіраўніка Расіі вырашылі звярнуць увагу на экалагічную тэматыку. Адной з асноўных прычын такой увагі сталі апошнія пратэсты, звязаныя з «зялёнымі» праблемамі. У цэлым шэрагу рэгіёнаў заклапочанасць станам навакольнага асяроддзя выводзіць людзей на вуліцы. Найбольшы рэзананс — нават федэральнага маштабу — выклікаюць «смеццевыя» пратэсты. У Крамлі абмяркоўваецца некалькі варыянтаў таго, як рэагаваць на экалагічны выклік. Адна з ідэяў — стварэнне новай партыі, якая б займалася «зялёнай» праблематыкай, і пры гэтым працавала ў канструктыўным дыялогу з уладай. Як варыянт, можна «перазагрузіць» ужо існуючую Расійскую экалагічную партыю «Зялёныя», але тое праблемы не вырашае. Практычна ўсе больш-менш вядомыя экалагічныя актывісты апазіцыйна настроеныя на адрас Пуціна, а яркіх лаяльных уладзе фігураў, якія маглі б займацца экалагічнай тэматыкай, няма.

**Паводле расійскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Пра «гэта»

Польшча абрала новы парламент. Скончылася выбарчая кампанія, адной з фішак якой была тэма правоў сексуальных меншасцяў. Падавалася, цяпер, пасля выбараў, жарсці наконт гендарнай палітыкі трошкі супакояцца. Але ўсё працягнулася, прычым у яшчэ большых памерах. Да пытання правоў ЛГБТ дадалася праблема сексуальнай адукацыі дзяцей. Урадавая кансерватыўная партыя «Права і Справядлівасць» (PiS) збіраецца прыняць закон, які будзе рэгуляваць гэтую сферу. Паводле законапраекту, уводзіцца крымінальнае пакаранне для тых, хто распавядае дзецям пра інтымныя рэчы без адпаведнага дазволу або сертыфіката. Прычым, нефармальным педагогам пагражае аж 5 гадоў турмы. Хаця такая ініцыятыва нібыта накіраваная супраць педафілаў, ліберальная грамадскасць пабачыла ў законе пагрозу ўсяму грамадзянскаму сектару. Не пагаджаюцца з кансерватарамі і мясцовыя сексапатолагі, якія кажуць, што адсутнасць адпаведнай інфармацыі можа кепска паўплываць на дзіцячую псіхіку. Адначасова ў шэрагу гарадоў ужо прайшлі пратэсты супраць закону, якія не абышліся без порцыі гвалту. Такая эмацыйная рэакцыя дазваляе казаць, што згаданая тэма дакладна апынецца ў цэнтры прэзідэнцкай кампаніі, якая цяпер стартуе за Бугам.

**Паводле польскай прэсы**



Фота www.echo-ua.media

# Сцэнары для Каталоніі

Алег НОВІКАЎ

**Маштабы пратэстаў у Барселоне давялі ўсім, што каталонскі крызіс замарозіць не атрымаецца. Прапануем увазе чытачоў агляд сцэнараў яго вырашэння, што прапануюцца на старонках сусветнай прэсы.**

Вы не заўважылі, што за апошнія пару гадоў імідж Барселоны трошкі змяніўся? Назва горада ўсё яшчэ выклікае асацыяцыі з рознымі славутасцямі, накшталт будынкаў Гаўдзі і мясцовым футбольным клубам. Аднак вобраз горада ўсё часцей дапаўняюць відэа маршаў прыхільнікаў незалежнасці, якія часам пераходзяць у адкрытыя сутычкі. Мінулы тыдзень замацаваў за Барселонай рэпутацыю горада з высокім градусам палітычнай напружанасці. Пасля суровага судовага вердыкту палітыкам, якія два гады таму абвясцілі незалежнасць краю, каталонцы запусцілі план «Дэмакратычнае цунамі». Край ліхаманяць блакады аўтабанаў, страйкі, вулічныя бойкі, паўмільённыя маршы, на якія паліцыя ўжо адказвае стрэламі з гумовымі кулямі.

Відавочна, што лакалізацыя выступаў з дапамогай паліцыі нічога не вырашае, і проста адтэрміноўвае час, калі давядзецца прыняць нейкае глабальнае рашэнне. Дапускаюць, што выбар можа быць зроблены на карысць рацыянальнага дыялогу. Хаця ў кантэксце згаданай судовай расправы пакуль такія кансультацыі выглядаюць малаэрэальнымі. Яны могуць пачацца хіба пасля лістападаўскіх парламенцкіх выбараў у Іспаніі.

Праўда, сцэнар з перамовамі можна дапусціць, калі пры ўладзе застануцца сацыялісты Педра Санчаса, якія тэарэтычна дапускаюць нейкія перамовы і могуць пагадзіцца на ўдзел каталонцаў у кааліцыі. Фундаментам для перамоваў агляДальнікі называюць амністыю для асуджаных палітыкаў.

Калі ж большасць у картэсах на выбарах 10 лістапада атрымаюць кансерватары з Народнай партыі (PP), шанцы на кампраміс малаэрэальныя. З іншага боку, каталонскія партыі ў апошні час радыкалізаваліся, і пакуль цяжка сказаць, ці тыя ж «Левыя рэспубліканцы Каталоніі» (ERC) — вядучая партыя лагеру незалежнікаў, — пагодзяцца сесці за стол перамоваў.

Калі перамоваў не будзе, ад каталонцаў можна чакаць новы крок да атрымання суверэнітэту. Напрыклад, яны дыскутуюць правядзенне рэферэндуму наконт незалежнасці (можа, нават падпольнага). Такі план падтрымлівае Кім Тора — цяперашні кіраўнік аўтаноміі і лідар парламенцкай групы «Разам за Каталонію» (JxCat). Аднак кіраўніцтва ERC называе ідэю рэферэндуму «вар'яцтвам», паколькі нельга абвяшчаць незалежнасць кожныя два гады.

Адмаўляецца ад ідэі плебісцыту і лявацкая групоўка «Кандыдатура народнага адзінства» (CUP), якая прапануе ствараць паралельныя органы ўлады ў рамках каардынацыі нізавых пратэстаў. Да фарміравання паралельнай улады прапануецца падключыць асяродкі Каталонскай нацыянальнай асамблеі (ANC) — парасонавай структуры грамадскіх арганізацый, якія стаяць на платформе незалежнасці.

Пакуль незалежнікі чухаюць патыліцу наконт сваіх наступных крокаў, ініцыятыву можа перахапіць Мадрыд. На думку шэрагу каментатараў, сярод іспанскіх сілавікоў хапае ахвочых скарыстацца 155-м артыкулам Канстытуцыі. Гэты параграф дазваляе цэнтральнаму ўраду часова прыпыняць паўнамоцтвы Жэнералітэту (назва ўраду каталонскай аўтаноміі) і ўвесці ў рэгіёне прамое кіраванне з метраполіі. Дарэчы, менавіта так рэагавалі ў кастрычніку 2017 года на выступы незалежнікаў тагачасны прэм'ер Марыяна Рахой.

Праўда, пакуль такая версія развіцця падзей не карыстаецца падтрымкай палітолагаў. Абвяшчэнне нейкага ГКЧП для той жа Каталоніі супярэчыць традыцыям іспанскіх сацыялістаў. У мінулым стагоддзі ўлада часта пераследавала сацыялістаў, абвяшчаючы ў краіне вайсковае становішча.

Акрамя таго, ужыванне 155-га артыкула адверне ад Санчаса іншыя левыя партыі, якія пасля выбараў патэнцыйна могуць увайсці ў яго кааліцыю. Таму як мінімум да выбараў Жэнералітэту можна спаць спакойна. А вось калі дэпутацкую большасць атрымаюць правыя партыі, увядзенне прамога кіравання выглядае непазбежным. Народная партыя, VOX і «Грамадзяне» — усе вядучыя партыі правага спектру — схіляюцца да імплементацыі 155-га артыкула.

Магчымы яшчэ адзін, пакуль амаль фантастычны сцэнар, які ўмоўна называюць «каралеўскім». У такім выпадку на авансцэну выходзіць Яго Вялікасць Філіп V, які прапісаны ў Канстытуцыі ў тым ліку як вярхоўны арбітр. Кароль можа распусціць як Жэнералітэт, так і парламент, узначаліўшы часовую адміністрацыю.

І, дарэчы, для гэтага ў караля маюцца ўсе фармальныя падставы. На працягу чатырох апошніх гадоў краіна беспаспяхова намагаецца абраць парламент, які будзе здольны сфарміраваць урад на аснове дэпутацкай большасці. Не дзіўна, што ў Іспаніі паўстала атмасфера паралюшу ўлады. Гэта дае каралю алібі для рашучых учынкаў. Але ёсць сумневы, што Філіп, з яго мяккім характарам, рызыкне на, фактычна, палітычны пераварот.

Нарэшце — самы горшы, або, як яго называюць, «чорны сцэнар» каталонскага Майдану. У выпадку яго рэалізацыі вулічныя сутычкі закончацца забойствамі, што радыкалізуюць адэптаў суверэнітэту і яго працаўнікаў, якія, дарэчы, складаюць палову насельніцтва краю. Па сутнасці, гэта ўверцюра аналагу грамадзянскай вайны. Азначэнне «грамадзянская вайна», безумоўна, выклікае ў іспанцаў самыя змрочныя ўспаміны пра падзеі 1936–1939 гадоў. Таму ёсць падставы спадзявацца, што бакі канфлікту будуць адказна ставіцца да сваіх учынкаў і «чорнаму сцэнару» знойдзецца альтэрнатыва.

# Кансэнсус працягваецца

Алег НОВІКАЎ

**Упершыню пасля ўцёкаў з Малдовы ўсёмагутнага алігарха Уладзіміра Плахатнюка малдаван запрасілі на выбарчыя ўчасткі. Прагаласаваўшы 20 кастрычніка за кандыдатаў мясцовых Саветаў і мэраў, яны таксама заклалі фундамент палітычнага ландшафту новай, постплахатнюкоўскай Малдовы.**

Хаця мясцовыя выбары лічацца другаснай падзеяй, жарсці кіпелі. Тлумачыцца гэта тым, што па выніках чэрвеньскіх уцёкаў Плахатнюка была пахаваная старая выбарчая кухня. Раней, прыкладна з 2016 па 2019 год, напярэдадні выбараў Плахатнюк актыўна падкупляў рэгіянальных лідараў і аўтарытэтных асобаў. Такі няхітры прыём забяспечваў яго Дэмакратычнай партыі салідную квоту ў мясцовых Саветах (700 дэпутатаў з 900 па ўсёй краіне).

Гэтым разам пра падобны завоблачны вынік дэмакраты, відавочна, не марылі. Цудам можна лічыць тое, што партыя наогул захавала рэгістрацыю і не падпала пад рэпрэсіі. Напярэдадні многія абвінавачвалі Дэмакратычную партыю ў спрыянні дзяржаўнаму перавароту. Гаворка пра спробу Плахатнюка перад уцёкамі сфарміраваць на базе актыву дэмпартыі ўласныя структуры ўлады, альтэрнатыўныя законнаму ўраду. Спроба правалілася праз ціск амерыканскага пасла, які прапанаваў алігарху пакінуць краіну.

Уся гэтая гісторыя з дзяржперавароту негатыўна адбілася на іміджы Дэмакратычнай партыі, якая да таго ж пазбавілася адмінрэсурсу і фінансавых сродкаў алігарха. У сувязі з гэтым многія палітолагі прадказвалі партыі татальны правал на выбарах. Галоўная ўвага была прыкаваная да прамаскоўскай Партыі сацыялістаў Рэспублікі Малдова (ПСРМ) і іх партнёра па кааліцыі — празаходняга блоку ACUM.

Па выніках галасавання ПСРМ адрапартавала пра ўпэўненую перамогу. Сацыялісты сапраўды набралі больш за ўсіх галасоў на выбарах у Саветы ў 15 раёнах і муніцыпалітэтах. У чатырох раёнах у сацыялістаў у Саветах большасць — звыш за палову галасоў. Важны трафей сацыялістаў — перамога ў сяле Каланіцу, вотчыне Дорына Кіртоакэ, — прарумынскага палітыка, заклятага ворага правадыра сацыялістаў Ігара Дадона.

Дарэчы, прарумынскія палітсілы не былі вельмі актыўнымі на гэтых выбарах, хаця той жа Кіртоакэ атрымаў 10 працэнтаў на выбарах у сталіцы. Чамусьці ён больш заняты развіццём сеткі супермаркетаў, дзе прадаюцца тавары з-за Прута, і сцвярджае, што гэта неяк спрыяе рэінтэграцыі Малдовы ў склад Румыніі.

Зрэшты, упэўненай перамогай вынік сацыялістаў назваць цяжка. Блок ACUM набраў больш за ўсіх галасоў на выбарах у мясцовыя Саветы ў 12 раёнах і муніцыпалітэтах. Не зніклі канчаткова з гарызонту і дэмакраты. Паводле інфармацыі ЦВК, кандыдаты дэмпартыі ўзначаляць 191 з 518 лакальных мэрый (прыкладна 20 працэнтаў), дзе пераможца вызначыўся ў першым туры.

Канчаткова пра сапраўднага пераможцу выбараў, хутчэй за ўсё, можна будзе казаць пасля другога туру. У тым ліку адбудзецца другі тур і на выбарах сталічнага мэра. Тут, дарэчы, у плане выбарчага піяру больш за ўсіх запомніўся Андрэа Нэстасэ — кандыдат ACUM. Ён у межах кампаніі паабяцаў выбаршчыкам пакінуць краіну, калі не будзе абраны бургамістрам. З улікам таго, што сям'я Нэстасэ жыве ў Германіі, гэта дзіўнае абяцанне многія ўспрынялі як жаданне палітыка хутчэй пакінуць бедную Малдову. Наколькі Нэстасэ дапамог шантаж валізкамі, цяжка сказаць, але ў другі тур ён прайшоў. Цяпер яго чакае дуэль з кандыдатам ад сацыялістаў, якому па выніках першага тура ён саступае 10 працэнтаў.

І яшчэ адна важная акалічнасць. Аналітыкі адзначаюць, што дадзеныя галасавання маюць, хутчэй, папярэдні характар. У многіх Саветах, дзе няма дэпутацкай большасці, яшчэ трэба будзе фарміраваць кааліцыі. А паколькі на месцах ідэалагічныя догмы не адыгрываюць важнай ролі, канчатковая партыйная фізіяномія адміністрацый непрадказальная.

Вынікі галасавання для «Новага Часу» пракаментаваў малдаўскі палітолаг і грамадскі актывіст Эдуард Шчупак:

— Па выніках галасавання, а таксама па першых каментарах палітыкаў можна казаць, што ў краіне пакуль захаваецца беспрэцэдэнтная гармонія «ватнікаў» ПСРМ і «майданаў» з ACUM. Гэта, напэўна, не тое, чаго чакалі сацыялісты. Ігар Дадон, як кажуць у кулуарах, разглядаў гэтыя выбары як рэпетыцыю магчымых датэрміновых парламенцкіх выбараў, на якіх ПСРМ павінна была атрымаць большасць. Тое, што ПСРМ ужо накіравала блоку ACUM афіцыйную прапанову пра стварэнне кааліцыі ў муніцыпальнай радзе Кішынёва, сведчыць пра захаванне цяперашняга статус-кво. Тым больш, шанцаў на перамогу ў сацыялістаў у другім туры ў сталіцы не так шмат. Такі баланс, напэўна, задавальняе і знешніх партнёраў сацыялістаў, і ACUM. Відаць, малдаўскі эксперымент геапалітычнага кансэнсусу пакуль будзе працягвацца.



Фота www.24tv.ua

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ



### Касым-Жамарт Такаеў

Прэзідэнт Казахстана даручыў дапрацаваць казахскі алфавіт на базе лацініцы, на які краіна збіраецца цалкам перайсці да 2025 года.

«Гістарычнае рашэнне пра пераход на лацінскую графіку было прынятае каля двух гадоў таму. Аднак у алфавіце ўсё ж маюцца недахопы. Мовазнаўцам неабходна ўдасканаліць алфавіт», — сказаў Такаеў, даючы адпаведнае даручэнне міністру культуры і спорту.

Рашэнне выклікала трывогу ў часткі грамадства, паколькі вонкава паўтараецца вопыт Узбекістана. У суседняй краіне на лацінку збіраліся перайсці яшчэ ў 2000 годзе. Пасля канчатковы тэрмін пераходу ўвесь час пераносіўся на больш позні праз тую ж недасканаласць алфавіту. У выніку ва Узбекістане склалася свайго роду «алфавітнае двоеўладдзе», якое працягваецца і сёння, і нават нагадвае «алфавітную анархію». Лацінка і кірыліца паралельна выкарыстоўваюцца пры напісанні назваў вуліц і транспартных маршрутаў. На тэлебачанні і ў кіно таксама адначасова існуюць два алфавіты, інфармацыйныя сайты выкарыстоўваюць абодва варыянты ўзбекскага пісьма. І выйсця з такой сітуацыі ніхто не ведае.

Казахскія чыноўнікі кажуць, што паўтору ўзбекскіх працэсаў не будзе. Праблема нібыта ў тым, што некаторыя літары цяперашняга алфавіту не пасуюць стандартам Unicode (стандарт кадавання сімвалаў, які ўключае ў сябе знакі амаль усіх пісьмовых моваў свету). Гэтыя праблемы цяпер ліквідуюць. Зрэшты, многія не вераць афіцыёзу, паколькі ўзбекская і азербайджанская лацінкі чамусьці ад самага пачатку адпавядалі стандартам Unicode.

### Эмануэль Макрон

Прэзідэнт Францыі абурыў Брусель і грамадскасць тых краін, якія мараць далучыцца да ЕС. Парыж заблакаваў для Албаніі і Паўночнай Македоніі далейшыя крокі па ўступленні ў ЕС.

Гэта незвычайнае рашэнне для палітыка, які кажа, што марыць пра Еўропу ад Лісабона да Уладзівастока. Тым больш, што статус кандыдата на ўступленне ў ЕС нічога для краіны не гарантуе. Турцыя, напрыклад, мае статус кандыдата з 1999 года, і ніякіх перадумоваў да таго, што перамовы пра ўступленне скончацца поспехам хаця б калі-небудзь, не праглядаецца.

Што прымусіла Макрона заняць такую жорсткую пазіцыю? Французскія дыпламаты кажуць, што перад ЕС занадта шмат праблем, каб дазволіць далучэнне яшчэ дзвюх вельмі бедных балканскіх дзяржаў. Праблемы ўключаюць Brexit, эканамічную экспансію Кітая, пагрозу Расіі і міграцыю.

Прэса ж піша, што Макронам рухае, перш за ўсё, пагроза росту папулярнасці нацыяналістаў Марын Ле Пэн напярэдадні мясцовых выбараў. Пасля нядаўняга замаху ісламіста на офіс паліцыі ў Парыжы тэма міграцыі зноў турбуе французаў. Такі трэнд прымушае Макрона пайсці па слядах Нікаля Сарказі, які намагаўся адабраць у Ле Пэн тэму барацьбы з міграцыяй.

У Албаніі і Паўночнай Македоніі манеўры Макрона справакавалі палітычныя землятрусы. Асабліва наракаюць македонцы, якія нядаўна пагадзіліся на змену назвы краіны, спадзеючыся атрымаць еўрапейскую перспектыву. Абурэнне ў Скоп'е такое моцнае, што дзеючы ўрад заявіў пра сыход у адстаўку і абвясціў датэрміновыя выбары напачатку наступнага года.

### Себасцьян Піньера



Прэзідэнт Чылі ад правацэнтрысцкай партыі «Нацыянальнае адраджэнне» вырашыў пагуляць у Пiначэта. І, падобна, моцна за гэта паплаціўся.

Усё пачалося з павышэння кошту праезду ў сталічным метро — прычым нязначнага, на 4%. Аднак у выніку гэта стала дэтанатарам. Мясцовае метро — самае дарагое на кантыненце, на транспарт большасць жыхароў Санцьяга аддаюць каля 11% заробку, які ў сярэднім складае 550 долараў. У мінулую пятніцу студэнты — першыя ахвяры павышэння тарыфаў, — наладзілі ў метро сапраўдныя пагромы: прарываліся на станцыі, ламалі дарагое абсталяванне, зрывалі стоп-краны падчас руху цягнікоў і гэтак далей. Каб спыніць флэшмоб, улады вырашылі зачыніць пару ліній метро, што выклікала сутычкі з паліцыяй.

Піньера абвясціў пра ўвядзенне ў сталіцы ваеннага становішча, якое апошні раз дзейнічала ў часы дыктатуры. Гэта паставіла краіну на дыбкі. Пратэсты супраць надзвычайнага становішча спачатку ахапілі Санцьяга, а потым перакінуліся ў правінцыю. У Чылі адбываецца нябачаны за апошнія дзесяцігоддзі сацыяльны выбух, развязка якога незразумелая. Некаторыя заклікаюць Піньера абвясціць сябе новым Пiначэтам і ўвесці дыктатуру.

# «Дзед казаў у Гродна ніколі не вяртацца!»



Алесь КІРКЕВІЧ

**«Гісторыі з гродзенскіх вуліц» — ужо другая зборка ўспамінаў сталых жыхароў Гродна пра 1930–1940-я гады, якія ўдалося назбіраць Руслану Кулевічу. «Людзі адыходзяць, таму трэба спяшацца...» — кажа хлопец.**

Рэдакцыя сайту Hrodna.life і Руслан Кулевіч плануюць выдаць кнігу ў снежні, а зараз запускаюць краўдфандынг. І тэксты, і фотадзымкі ўжо гатовыя: засталося здаць у друкарню. У кнізе будуць змешчаныя 18 гісторыяў і больш за 100 унікальных фота.

Пра кнігу і яе герояў распавядаюць **Руслан Кулевіч** і рэдактар сайту Hrodna.life **Аляксей Шот**.

***— Чаму менавіта гэтая тэма і гэты перыяд?***

**Р.К.** Мяне чытае моладзь у сацыяльных сетках, таму менавіта ёй найперш я хачу данесці інфармацыю. Распавесці, як і чым жыў горад у 1930–1940-я, пра польскую ды яўрэйскую культуру, якія фармавалі тагачасны Гродна. Савецкая прапаганда намагалася не распавядаць пра гэты час: у іх усё ад 1939-га альбо ад 1944-га пачыналася...

А наогул усё пачалося з таго, што я зацікавіўся гісторыяй перадваеннага футболу. Знайшоў людзей, напрыклад, мужчыну, які хадзіў тады на матчы. Я не мог паверыць, што футболам цікавіліся тысячы гродзенцаў, арганізоўваліся «дэрбі» паміж яўрэйскімі і польскімі камандамі: WKC Grodno і «Макабі». Спачатку я шукаў сталых людзей, пасля ўжо на мяне пачалі выходзіць самі: нават з Ізраілю ці ЗША. І пайшло-паехала.

***— Якія гісторыі найбольш уразілі?***

**Р.К.** Кожная гісторыя па-свойму цікавая. Адна жанчына распавядала, як расстралялі яе братоў у 1939-м. Яны не ўдзельнічалі ў абароне гораду ад Саветаў. Наўпрост ішлі па вуліцы. А там чырвонаармейцы вялі яўрэя, які паказаў на іх са словамі: «Яны стралялі па савецкіх танках». Яўрэя адпусцілі, а тых хлопцаў расстралялі — наўпрост на вуліцы, ля бліжэйшай сценкі. Было ім па 16 і 17 гадоў. Таксама я запісаў 92-гадовага Стэфана Хоцея, які зараз жыве ў Сакулцы. Імаверна, ён апошні жывы абаронца Гродна 1939-га: кідаў бутэлькі з запальнай сумессю ў танкі «чырвоных». Яго тады паранілі, а сябра — забілі.

Яшчэ адна цікавая гісторыя ад гродзенца Караля Кальвейта, які зараз жыве ў Слупску, у Польшчы. У 1944-м, ужо пры Саветах, ён падпаліў будынак Ратушы. Тады яна яшчэ не была ўзарваная. Пытаюся: «Навошта?..» А ён кажа, што там былі дакументы, паводле якіх маглі арыштаваць шмат каго ў горадзе. Сам ён, дарэчы, быў міністрантам у сённяшнім Фарным касцёле.

**А.Ш.** Заўсёды ва ўспамінах цікавыя рэчы, якія цяжка альбо нават немагчыма спраўдзіць. Той жа Кальвейт казаў, што перад ад'ездам з гораду ў 1945-м забраўся на вежу касцёлу і пакінуў там надпіс каля звона: «Я, Караль Кальвейт, пакідаю родны Гродна і ад'язджаю ў невядомы мне новы свет». Чалавеку 90 гадоў, але ён без дэменцыі, цалкам адэкватны. Ці было такое?.. Быў рамонт Фарнага касцёлу, маглі зашпакляваць, зацерці... Мы гэтага ўжо, баюся, не даведаемся.

***— Я так разумею, што гаворка пра палякаў, якіх пасля вайны высялялі з гораду і якія збольшага аселі ў Заходняй Польшчы...***

**Р.К.** Так, таму я адмыслова ездзіў на польскае Памор'е: Гданьск, Эльблонг, Слупск. Хадзіў у мясцовыя рэдакцыі СМІ, прасіў пра дапамогу ў пошуку. Некалькі чалавек сапраўды знайшлося ў тым рэгіёне! Яны дагэтуль усё памятаюць: нават вуліцы. Для іх Гродна — гэта больш, чым горад, дзе яны нарадзіліся. Адзін дзядуля казаў, што гатовы сюды і на каленях прыпаўзці... Там жа захаваліся вялікія сямейныя архівы з мноствам фота і дакументаў.

Адзін дзядуля казаў: «Каб мы не паехалі, то загінулі б, вывезлі б у Сібір...» Таму і з'язджалі. Цікава, што яны не называюць сябе рэпатрыянтамі. Кажуць: «Мы людзі, якіх выгналі з гэтага гораду». Яны прыехалі на Памор'е, занялі гарады, дзе жылі немцы. Бо з усходу прыйшлі тыя, хто заняў іхны горад і іхныя дамы тут, у нас. У гэтым сэнсе яны самі параўноўваюць сябе з немцамі, якія мелі пакінуць Данцыг або Брэслаў...

***— А як выглядае збор успамінаў у Гродна?***

**Р.К.** Я ўжо аб'ехаў амаль увесь стары горад. Зараз больш працую з левабярэжнай часткай. Калі бачу над прыватным домам перадваенны дымаход, то разумею: трэба заходзіць. Кажу, што збіраю ўспаміны. Сваю першую кнігу паказваю як візітную картку. Людзі гартаюць, кажуць: «О, з гэтым я вучыўся!», «А гэта мой сусед!», «А тут ён няправільна сказаў, бо было так і так...» Звычайна ўсё добра праходзіць, людзі радыя паразмаўляць. Адзін толькі выпадак быў, калі прыйшоў сын такога старажылы ды выгнаў, падумаўшы, што я «сведак Іеговы»... Што паспеў тады, тое і запісаў.

***— Інтэрв'юер мае ведаць тэму лепш, чым той, з кім ён размаўляе. Разумець, дзе чалавек памятае, а дзе дэфармацыя памяці. Мадэраваць размову... Ты лепш ведаеш стары горад за суразмоўцаў?***

**Р.К.** Зараз ужо так. Кожнага я правяраю. Пытаюся, а на якой вуліцы нарадзіліся. А як яна ў той час называлася? Чалавек патроху ўзгадвае. Кажу, а ці памятаеце там такую краму? І тут ужо працэс ідзе: чалавек пачынае ўсё ўзгадваць... Адмысловым пытанням мяне навучылі спецы ад вуснай гісторыі: Алесь Смалянчук, Таццяна Касатая, Андрэй Вашкевіч.



Аляксей Шота і Руслан Кулевіч



Руслан Кулевіч са сваімі героямі падчас экспедыцыі ў Польшчу

**А.Ш.** Дарэчы, прадмова ў гэтай кнізе будзе ад прафесара Смаленчука. Будуць спасылкі адносна вуліц. Бо чалавек можа сказаць: «Orla». Гэта вуліца Арла? Ці Арліная? Дзе яна была?.. Альбо — школа «Усэмка» (то-бок «васьмёрка», №8). Ці «Міцкевічувка». Усё будзе тлумачыцца, а ў канцы будзе слоўнік. Бо шмат вельмі лакальных найменняў, якія цяжка зразумець, калі добра не ведаеш кантэксту. У першай кнізе гэтага не хапала, рабілі наспех.

***— Ці цяжка героям расказваць пра тыя часы?***

**Р.К.** Наадварот, некаторыя скардзяцца, што ім не хапае камунікацыі, размовы. Я гатовы нават да іх завесці, каб пагутарыць пра той Гродна да 1939-га года. На прэзентацыі кнігі таксама будзе магчымасць сустрэцца са старажыламі. Калі прэзентавалі першую кнігу, то яе героі таксама прыходзілі. Ведаеце, пасля моладзь падыходзіла і брала ў іх аўтографы на кнізе! Для іх гэта быў першы і, магчыма адзіны такі момант у жыцці!

**А.Ш.** Гэта сапраўды цікава: людзі маглі жыць на адной вуліцы, хадзіць у тыя ж крамы ці школу, але не ведаць адно аднаго. Не сутыкацца. А зараз, калі ім па 90, яны сустракаюцца, знаёмяцца. Фантастыка!

***— А ці збіраеце артэфакты мінулага? Тыя ж старыя фота, альбомы?***

**Р.К.** Пачыналася ўсё з успамінаў, але часам людзі самі аддавалі фота. Спачатку я сканаваў, пасля, калі дазвалялі, пакідаў у рэдакцыі. Магчыма, у нас і музей свой з часам будзе.

**А.Ш.** Часам людзей ужо няма, а нашчадкам тыя фотаальбомы не патрэбныя. Кажуць: «Забірайце або мы выкінем ці спалім». Канешне, забіраем — гэта ўнікальныя матэрыялы. Прыязджалі да нас з архіву ў Дзяржынску, дык былі ў шоку ад нашых збораў. Рабілі сабе копіі. Скажу, што поспех першай кнігі не толькі ў тым, што яна прадалася, але і ў тым, што людзі ў рэдакцыю пачалі самі прыходзіць. Моладзь нарэшце палезла ў фотаальбомы сваіх бабуляў і дзядуляў, зразумела іх каштоўнасць.

***— У кнізе ўспаміны будуць пададзеныя па-беларуску, але ж старажылы, мабыць, гавораць не на літаратурнай мове... Дакладнасць не губляецца?***

**А.Ш.** Людзі найчасцей кажуць на трасянцы: польска-беларуска-рускай... Мы не робім так, як навукоўцы, якія перапказваюць дакладна той мовай, што і людзі. Чытачу гэта было б складаней успрымаць. Гэта не наша мэта. Таму ўсё вычытваем і перакладаем на беларускую. Магчыма, выдадзім і двухтомнік па-польску: у Польшчы ёсць попыт на падобную гістарычную літаратуру. Для нас гэта пазнавальнасць за мяжой. Ну а тут, ясна, па-беларуску, бо Hrodna.life — беларускамоўны СМІ.

***— Ці спрабавалі працаваць з іншымі фарматамі? Відэа?***

**А.Ш.** Па відэа ёсць ідэі, але пакуль не рэалізаваныя. Ёсць фармат экскурсіяў, які працуе. Ніводная фірма такога не робіць! Ёсць раён «Новы Свет», прыватныя дамы канца XIX — пачатку XX стагоддзя. Усяго некалькі вуліцаў. Але там жывуць героі! У 2–3 месцах выходзяць людзі і самі распавядаюць тое, што памятаюць і бачылі: турысты ў шоку. Паказваюць артэфакты, напрыклад скрыпку, якая захаваліся ад яўрэйскай сям'і. Гісторыя такая: сям'ю вывозілі ў гета, а скрыпку тыя аддалі суседзям-беларусам. Суседзі яе захоўваюць дагэтуль.

**Р.К.** На экскурсіі таксама выходзіць дзядуля, які згубіў пальцы, калі разбіраў міну ў 1944-м. Ён жа вядзе экскурсантаў па вуліцы, паказвае старыя надпісы яшчэ з часоў нямецкай акупацыі. Дзе вы яшчэ такое знойдзеце?

***— Ці атрымалася выйсці на нашчадкаў нейкіх вядомых ураджэнцаў Гродна?***

**Р.К.** Неяк мне патэлефанавалі з сінагогі і кажуць: «Давай сюды, бо прыехалі Сухамлянскія». Еду я на роварах і думаю: што за Сухамлянскія? А пасля даходзіць: гэта ж Ланскія! Нашчадкі знакамітага Меер-Ланскага, банкіра амерыканскай мафіі ў 30-х гадах, які паходзіў з Гродна!

**А.Ш.** Яны абрэзалі прозвішча, калі пераехалі ў ЗША. «Сухамлянскіс», мабыць, супрацоўніку міграцыйнай службы было цяжка вымавіць, так і стала — «Ланскі». А Меер-Ланскі — гэта ўнікальны чалавек. Яго так ані разу не пасадзілі, а калі кар'ера ў мафіі скончылася, ён пачаў займацца дабрачыннасцю, дапамагаў Ізраілю. «Хросны бацька», «Адночы ў Амерыцы» — гэта ж усё на аснове ягонага лёсу і лёсаў тых, каго ён ведаў. А карані — адсюль!

***— Ці будзе трэцяя кніга?***

**А.Ш.** Збіраем успаміны на трэці праект — «Гродзенцы здалёк». Тут будуць гісторыі людзей, якія прыязджаюць у Гродна, бо адсюль паходзяць іх продкі, якія ў нейкі момант з'ехалі: Аўстралія, Аргенціна, ПАР... Вельмі шырокая геаграфія.

**Р.К.** Быў выпадак, калі прыехалі канадцы з мапай, якую намаляваў ад рукі іх дзядуля 1926 года нараджэння. Мапа даволі дакладная з вуліцамі і крамкамі. А жыў ён непадалёк ад турмы на колішняй Дамініканскай. Дому таго ўжо няма. Дык яны хадзілі з гэтай маляванай мапай па горадзе, шукалі, што і дзе захавалася!

Іншы выпадак: прыехалі з ПАР нашчадкі яўрэяў, якія пакінулі горад у 1930-х гадах, яшчэ перад вайной. Кажуць, што жылі таксама на Дамініканскай, але іх мама з'ехала пасля яўрэйскага пагрому 1935 года. Маўляў, была гісторыя са зніклым польскай дзяўчынкі. І пайшла плётка, што яе скралі «на мацу» яўрэі. Дык да той мамы прыходзілі з прэтэнзіямі агрэсіўныя маладзёны...

**А.Ш.** Гэта вельмі цікавы ракурс. Па-першае, тое ўспаміны ўжо не жывых людзей праз фільтр іх дзяцей і ўнукаў, якія жывуць вельмі далёка. Па-другое, часта гэта не ідылічна-рамантычныя ўспаміны. Напрыклад, згадвалі: «Дзед казаў ніколі ў Гродна не вяртацца». Але мы злавілі гэтую нішу — успаміны — працуем у ёй.

**Фота аўтара і Hrodna.life**

# «Дамы, як запалкі, гарэлі»



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Падчас сваіх экспедыцый па месцах, дзе ў 1920–1930-я гады праходзіла савецка-польская мяжа, часам мне шчасціць: я трапляю на сведкаў той эпохі. Так было і ў вёсцы Каменец Мінскага раёна, дзе мне параілі паразмаўляць з ветэранам Другой сусветнай вайны Пятром Сцяпанавічам Булдом, які нарадзіўся ў 1923 годзе.**

## Жахі чэрвеня 1941-га

«Пра тую мяжу я мала ведаю, бо ў нас пра яе звычайна не гаварылі. Тэма, як сёння кажуць, закрытая. ДАКі тут будавалі на выпадак вайны, а як немцы напалі, дык нашы не змаглі іх стрымаць на даваенным кардоне. Да вайны я паспеў закончыць школу ў Рогаве. Сям'я ў нас вялікая была. Старэйшага брата ў 1938 годзе прызвалі ў Чырвоную Армію. Потым ён служыў на мяжы з Румыніяй, у Бесарабіі. У 1940-м СССР гэтую тэрыторыю далучыў, а потым там войска трымаў на выпадак вайны. Увосень 1941-га брат ужо павінен быў вярнуцца дадому, але немцы напалі на Савецкі Саюз. У першыя дні нашае камандаванне накіравала бамбавікі, каб тыя разбамбілі нямецкія калоны, якія ішлі на Мінск. А самалёты тыя вялікія, з чырвонымі зоркамі на крылах, без прыкрыцця знішчальнай авіяцыі ішлі. Вось адзін з іх тут, побач, і збілі. Нямецкія знішчальнікі яго над вёскай дагналі і пачалі абстрэльваць. Хутка савецкі самалёт задыміў, загарэўся. У агароды за вёскай упаў. Выбух быў моцны. Аскепкі ад самалёта паўсюль ляжалі. Экіпаж машыны складаўся з чатырох пілотаў. Два з іх загінулі — ім помнік у вёсцы стаіць. Трэці пілот паранены на парашуце спусціўся. Яго яшчэ ў паветры немец "расстрэльваў". Таго параненага падабралі жыхары вёскі Латыгаўка. Пазней ён у партызаны сышоў. Чацвёрты таксама быў паранены, але ўратаваўся і збег у лес», — расказвае ветэран.

Сапраўды, у цэнтры Каменца стаіць помнік савецкім пілотам капітану Афанасію Дворніку (штурман, старшы палітрук) і старшаму сяржанту Сяргею Зуеву (стралок-радыст). Датай гібелі пазначана 29 чэрвеня 1941 года. Збіты савецкі бамбавік уваходзіў у склад 60-га хуткаснага бомбавага авіяпалка. У склад экіпажа таксама ўваходзілі камандзір, старшы лейтэнант Уладзімір Сашыхін, і паветраны стралок, сяржант Зміцер Янаў. У адным з архіўных дакументаў адзначаецца, што «29 чэрвеня 1941 года экіпаж бамбавіка ўдзельнічаў у штурмоўцы варожых танкаў, бронемашын і грузавікоў. Пры выхадзе з атакі на самалёт тав. Сашыхіна напалі знішчальнікі праціўніка і падпалілі яго. Сам Сашыхін атрымаў лёгкае раненне ў правую нагу і галаву». Гэта і быў той пілот, што ўратаваўся ў лесе. Потым лейтэнант перайшоў лінію фронту і працягваў ваяваць у вайсковай авіяцыі. У 1957 годзе капітан запасу Уладзімір Сашыхін за мужнасць быў узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны II ступені. А цяжкапараненым пілотам быў стралок-радыст Зміцер Янаў. Жыхар вёскі Латыгаўка Кандрат Алгалевіч знайшоў лётчыка з перабітымі нагамі і схаваў яго ў сваёй хаце. Пазней Зміцер выйшаў на сувязь з мінскім падполлем, трапіў у канцлагер, збег адтуль і вайну скончыў у савецкай пяхоце.



Камандзір экіпажа Уладзімір Сашыхін



Капітан Афанасій Дворнік



Старшы сяржант Сяргей Зуеў

## Акупацыя

«Хутка прышлі немцы. Нашу вёску быццам "любілі" пілоты і самалёты. У 1942-м побач з Каменцам прызямліўся нямецкі борт. Ён ляцеў у Мінск, але з-за недахопу паліва немцы вырашылі прызямліцца. У той час у гэтых мясцінах ужо пачалі з'яўляцца першыя партызаны. Яны ўбачылі, што немцы прызямліліся, але пабаяліся брацць у палон варожых пілотаў. А немцы пайшлі ў вёску і пачалі прасіць жыхароў, каб тыя завезлі іх у Казекава, дзе быў нямецкі гарнізон. Як зараз памятаю крычалі: "Gibt es ein Pferd?" (Ці ёсць конь?).

Да нас заходзілі, а я ў школе нямецкую вучыў, дык разумеў, пра што яны прасілі. Партызаны ўсё ж прыйшлі ў вёску, пачалася страляніна. Але пілоты збеглі. Усё, што змаглі зрабіць "народныя мсціўцы", дык толькі спаліць нямецкі самалёт. Праз пару дзён над вёскай зноў з'явілася нямецкая крылатая машына і доўга кружылася над месцам, дзе стаялі парэшткі знішчанага раней самалёта, а потым немцы скінулі ўлёткі, у якіх пазначалася, што па загадзе нямецкага камандавання вёска, дзе жыхары аказваюць дапамогу партызанам, разам з жыхарамі будзе спаленая. Мы, зразумела, ногі ў рукі, — і ў лес. Там пабудавалі зямлянкі, забралі з вёскі ўсё, што маглі. А немцы што зрабілі? Накіравалі бамбавікі на вёску. Тыя зайшлі на яе — і ўздоўж галоўнай вуліцы скінулі фугасныя бомбы. Дамы, як запалкі, гарэлі. Тады вось і наш дом згарэў. А партызаны маглі тыя самалёты з крыжамі нават з вінтоўкі збіць, бо яны нізка ляцелі. Але замест гэтага яны пахаваліся. Дзве зімы з 1942 па 1944 год нашая сям'я жыла ў лесе», — кажа Пётр Сцяпанавіч.



Савецкі бамбавік ДБ

## У Чырвоным войску

У ліпені 1944 года савецкая армія вызваліла Мінск. «У нас, маладых, была нянавісць да немцаў. Шмат яны тут нарабілі кепскага. Брат мой старэйшы на той момант загінуў на фронце. Іншага брата, які да вайны быў вялікім начальнікам у Заслаўі, немцы расстралялі. То мне хацелася ісці на фронт і помсціць немцам. Я не чакаў позву. Праз вёску праходзіла савецкае вайсковае злучэнне. Я туды, у яго шэрагі, разам з іншымі аднавяскоўцамі і запісаўся», — узгадвае суразмоўца.

Ва ўзнагародным лісце Пятра Булды, які захоўваецца ў архіве Міністэрства абароны Расіі, адзначаецца, што беларус быў мабілізаваны 3 ліпеня 1944 года. У складзе 77-га стралковага палка 79-й гвардзейскай дывізіі 3-га Беларускага фронту жыхар Каменца дайшоў да Вільні.

«Немцы беглі. Мы за імі. Памятаю, гэта ўжо была тэрыторыя Літвы. Немцы ўзмацніліся і трымалі абарону. Перапраўляліся праз Нёман, а там нямецкая авіяцыя наляцела. Жорстка бамбілі. Людзі, коні, тэхніка — усё ўшчэнт пабілі. Потым пачаліся баі за літоўскую сталіцу», — кажа Пётр Булда.

Жаўнеры вермахта трымаліся да апошняга: абстрэльвалі падраздзяленні савецкага войска з артылерыі і мінамётаў. Падрыхтавалі значную колькасць доўгатэрміновых агнявых кропак. Супраць немцаў савецкае камандаванне кінула ўчорашніх беларускіх сялян, якім вайсковай навуцы прыходзілася вучыцца непасрэдна ў баі. «Мы ў атаку пайшлі з вінтоўкамі, у доўгіх шынялях. Ляжым у брудзе, а немцы мінамі абкладаюць. Па сёння памятаю той свіст, з якім ляцелі міны. Жудасна! Адзін аскепак прыляцеў мне ў галаву. Я ў касцы быў, дык аскепак прабіў яе ззаду. Кроў, бруд, у вачах пацямнела, рукі адняліся. На маё шчасце, побач нашы мінамётчыкі былі. Гэтыя хлопцы мяне перавязалі, паклалі ў акоп. Вакол выбухі, і зямля ў гэты акоп сыплецца. Тады падумаў, вось зараз мяне тут зямлёй прыкрые, хоць вароны не будуць мной частавацца. Потым страціў прытомнасць, і прачнуўся толькі пад вечар. Памятаю, мае аднапалчане казалі, што бой увесь дзень ішоў, шмат параненых і забітых было.

Мне паказалі накірунак і сказалі ісці ў бок медсанбата. Але там па дарозе быў узгорак, дык яго немцы з кулямёту прастрэльвалі. Таму прыйшлося паўзці. Дапоўз, а там накіравалі на аперацыйны стол. Ох, гэтыя самалёты ў маім жыцці вялікую ролю адыгрывалі. Ляжу я ў шпіталі, а тут зноў нямецкая авіяцыя прыляцела і пачала бамбіць. А праз паўмесяцы фронт далей пайшоў, а мяне накіравалі ў Маскву, у шпіталь 4012. Там чарговая аперацыя. А потым і вайна скончылася», — гаворыць Пётр Сцяпанавіч.

З узгаданага вышэй узнагароднага ліста мы даведаліся, што беларуса цяжка паранілі 19 ліпеня 1944 года. Атрымліваецца, праз 16 дзён пасля ўключэння ў склад дзеючага войска. Жудасна нават уявіць, колькі такіх маладых беларусаў тады назаўсёды засталіся ляжаць на палях Беларусі, Літвы, Польшчы, Усходняй Прусіі...

Дадому жаўнер вяртаўся інвалідам. У жніўні 1945 года ў Заслаўі Пятру Булду ўручылі медаль «За баявыя заслугі». Пазней франтавіка накіравалі на курсы настаўнікаў у Мацкі. Пасля іх Пётр Сцяпанавіч працаваў у пачатковай школе. «Выкладаў на беларускай мове. Тады ў вёсцы ўсе на ёй гаварылі. Увогуле, мне гэтая прафесія спадабалася. Завочна паступіў у Мінскі педінстытут імя Максіма Горкага. Пазней перавялі ў школу ў Шаршунах, дзе я і працаваў да пенсіі», — кажа наш суразмоўца.

Зараз ветэранаў і непасрэдных сведкаў падзей Другой сусветнай вайны ўсё менш і менш. Застаюцца апошнія відавочцы тых, вельмі цяжкіх для Беларусі і беларусаў часоў. Таму надзвычай важна захаваць іх гісторыю, занатаваць іх лёсы: з такіх гістарычных мікралетапісаў і складаецца гісторыя Беларусі.



Брацкая магіла ў Каменцы

# Расстраляная паэзія

**Памяці беларускіх пісьменнікаў, расстраляных сталінскімі катамі ў ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года**



**Па гарызанталі:** 1. «А я песню сваю буду пець — я ...! // Буду клікаць народ свой да волі». З верша расстралянага паэта Міхася Чарота (Міхаіла Кудзелькі) «Бунтар». 5. «Святыя Дзяды, просім за пачэсны ...». Гэтак клікалі душы продкаў на ўрачыстую вячэру; восеньскія Дзяды адзначалі 2 лістапада. 7. «Ах, мой край каханы, залаты мой край, // Не хачу так рана ў песнях дагараць». З верша расстралянага паэта Валерыя Маракова «Жа....не». 9. «А ў залог вам пакіну кулю, // І — дадому, у Журавы! // Зайду ў ..., абдыму матулю, // Пацалую, нібы жывы». З верша Анатоля Сыса «Адпусціце мяне, Курапаты». 11. «А потым прыйдзе ... — // І восень смуглая ўгледзіць, // Як будзе вецер лашчыць сад». З верша расстралянага паэта Юлія Таўбіна «Люблю я край, дзе вечары». 14. Земляроб. 15. Ранейшая назва г. Іванава, што на Брэстчыне. 16. «Любіце і шануйце, як святыню, роднае ..., з якім вас літасцівы Бог на свет пусціў». Францыск Скарына. 17. Шост, да якога прымацоўваюць калодзежнае вядро. 19. «Гэй, узвейце сваім крыллем, // ..., буйна, бурна». З верша «Арлянятам» Янкі Купалы, у смерці якога, паводле адной з версій, павінны органы НКУС. 22. Музычны смычковы інструмент. 24. «Беларусь — не царам маскоўскім. // Беларусь — не варшаўскім панам! // Зазвінелі ў лесе ..., // Дуб стары галаву падняў». З верша расстралянага паэта Алеся Дудара (Аляксандра Дайлідовіча) «Кастусь Каліноўскі». 25. ... продкаў. Назва Дзядоў у славянскай міфалогіі. 26. «У прасторы — // ... сваволіць. // Льецца з клёнаў жоўтае лісцё». З верша расстралянага паэта Юркі Лявоннага «Расплюскалася ў прасторы сонца».

**Па вертыкалі:** 1. Дзедава ... Так называлі ў народзе апошнія нязжатыя каласы. 2. У старажытнагрэчаскай міфалогіі — бог падземнага свету і царства мёртвых. 3. Нешта цынічнае (пераноснае). 4. Звязаны пук зжатых сцяблоў збажыны. 6. «Піць радасць хачу, // Як п'юць прыгаршчамі бярозавік малыя дзеці». З верша расстралянага паэта Зямы Півавара «... двух нараджэнняў». 8. «... — гэта дзіўная казка, // Непаўторная ў нашым жыцці». З верша расстралянага паэта Тодара Кляшторнага «Хачу жыць». 10. Адна з беларускіх страў, якія падаваліся на Дзяды на стол на вячэру. 12. Дзеці (размоўнае). 13. Доўгая фраза. 16. Афіцыянт на пасажырскім самалёце. 18. ... Галавач. Імя расстралянага пісьменніка-празаіка, які быў першым галоўным рэдактарам часопіса «Полымя»; у турме лёс яго звязаў з рэпрэсаваным пісьменнікам Станіславам Шушкевічам. 20. Музычны інструмент, сімвал паэзіі. 21. ... Нёманскі (Іван Пятровіч). Псеўданім расстралянага празаіка, публіцыста, акадэміка Беларускай акадэміі навук. 23. «Я сонца, я раса, я ... надзей». З верша расстралянага паэта, празаіка Майсея Кульбака «Віно старое бродзіць ува мне».

**Лявон Целеш,**
**г. Дзяржынск**

**Адказы на крыжаванку «Тэатр ператварае натоўп у народ» (НЧ №39 ад 18 кастрычніка):**

**Па гарызанталі:** 1. Мінск. 3. Слова. 6. Ігнат. 10. Асвета. 11. Юнец. 12. Вопыт. 16. Саюз. 17. Стол. 20. Альфа. 21. Ікра. 22. Карась. 27. Антон. 28. Ірына. 29. Месяц.

**Па вертыкалі:** 1. Манюшка. 2. Кон. 4. Лес. 5. Акт. 7. Га! 8. Тэатр. 9. Верасень. 13. «Паўлінка». 14. Розум. 15. Месца. 18. Каганец. 19. «Ганка». 23. Апі. 24. Сан. 25. «Хам». 26. До.

# БагатаДата

**Што агульнага ў кіраўніка Камітэта па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў і веганаў? А ў Хэлоўіна з Днём Рэфармацыі? Пра гэта і пра іншыя цікавосткі чытайце ў нашым аглядзе.**

## 26 кастрычніка

**1959.** У Мінску нарадзілася актрыса Купалаўскага тэатра Зоя Белахвосцік. Першая роля — Паўлінка, якую яна грала да 41 года! Цяпер народную артыстку Беларусі можна ўбачыць, напрыклад, у спектаклях «Чорная панна Нясвіжа», «Людзі на балоце», «Чайка», «Рэвізор», «Вешальнікі», «Паўлінка» (ужо ў ролі Альжбэты).

**1959.** У вёсцы Гарошкаў Рэчыцкага раёна нарадзіўся паэт Анатоль Сыс. Адзін са стваральнікаў у 1980-х гадах Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя». Менавіта Сыс вёў у 1987 годзе самы першы мітынг-рэквіем на Дзяды. Шэраг песень беларускіх рок-гуртоў напісаныя на яго вершы.

## 27 кастрычніка

**Дзень аўтамабіліста і дарожніка** ў Беларусі (адзначаецца кожную апошнюю нядзелю кастрычніка), і Міжнародныя дні аўдыёвізуальнай спадчыны і цешчы.

**1989.** У пасёлку Станькава Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці была знішчана апошняя пускавая ўстаноўка «Ака» паводле савецка-амерыканскай дамовы пра знішчэнне ракет сярэдняй і малой далёкасці. Усе гэтыя ўстаноўкі ліквідаваліся тут, а ракеты — у Казахстане.

## 28 кастрычніка

**Міжнародны дзень анімацыі і школьных бібліятэк.**

**1884.** У Мінску нарадзіўся тэатральны дзеяч, рэжысёр і акцёр Фларыян Ждановіч. Першы мастацкі кіраўнік Купалаўскага тэатра (тады Беларускі дзяржаўны тэатр, або БДТ-1). Двойчы арыштоўваўся ДПУ — спачатку быў проста лагер, а потым расстрэл.

## 29 кастрычніка

**Сусветны дзень псарыязу і барацьбы з інсультам.**

**1989.** У Мінску на Дзяды тысячы людзей прайшлі шэсцем ад Усходніх могілак да Курапатаў, дзе правялі мітынг-рэквіем і ўсталявалі там першыя крыжы.

## 30 кастрычніка

**1919.** У газеце «Беларусь» апублікаваны верш Макара Краўцова «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» («Ваярскі марш»), які з музыкай Уладзіміра Тэраўскага стаў гімнам БНР.

## 31 кастрычніка

**Міжнародныя дні гарадоў, эканоміі і Чорнага мора,** а таксама **Дзень Рэфармацыі** ды **Хэлоўін.**

**1934.** У вёсцы Хоўхлава Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці нарадзіўся акцёр Купалаўскага тэатра, народны артыст Беларусі Тадэвуш Кокштыс. Апрача спектакляў, меў ролі ў кіно («Знак бяды», «Маленькі баец», «Зорка Венера»).

**1939.** Пачалася пазачарговая сесія Вярхоўнага Савету СССР, на якой быў прыняты закон аб уключэнні Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны ў склад Савецкага Саюза і аб'яднанні іх, адпаведна, з БССР і УССР.

## 1 лістапада

**Міжнародны дзень вегана.**

**1949.** У вёсцы Межная Слабада Клецкага раёна на Міншчыне нарадзіўся Леанід Гуляка, міністр культуры Беларусі ў 2000–2005 гадах, а затым старшыня Камітэту па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1736

Падпісана да друку 25.10.2019. 8.00. Наклад 11800 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.